Першая
кніга
празаіка

ВІНЦЭСЬ
МУДРОЎ



# ЖАНЧЫНЫ ЛЯ БАСЕЙНА

Апавяданні



Мінск
„Мастацкая
літаратура"
1992

ББК84 Бел7
М89

Серыя заснавана ў 1976 годзе

**Мудроў В.**

**М89** Жанчыны ля басейна: Апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1992 – 160 с. – (Першая кніга празаіка).

ISBN 5-340-01111-9

Мудров В. Женщины возле бассейна: Рассказы.

У першую кнігу Вінцэся Мудрова ўвайшлі гумарыстычныя і сатырычныя апавяданні. Яны прысвечаныя самым розным з'явам нашага жыцця, такога багатага на трагікамічныя і проста абсурдныя сітуацыі. Аўтар смяецца, але смех ягоны не легкаважкі, а сур'ёзны і ачышчальны.

М $\frac{4702120201 - 142}{М 302 (03) - 92}$ 38 – 92 ББК84 Бел 7

ISBN 5-340-01111-9

# Узлёт і падзенне Адама Марштрупы

Буйныя кроплі не па-восеньску цёплага дажджу бухматымі падзёнкамі мільгацяць у святле ліхтароў, густа і па-вераснёўску маркотна лапочучы па каляным лісці. Такою вусцішнаю парою з ціхай радасцю адчуеш, што сэрца становіцца бязважкім, і будзеш прагавіта ўдыхаць волкае, настоенае на паху апалай лістоты паветра. Галава будзе злёгку кружыцца, і ты, уцяміўшы, што дыхаеш паветрам той благаслаўлёнай ночы, міжвольна запаволіш крок, намагаючыся зноў вярнуцца ў зманлівы свет мінулага, куды няма вяртання. Праз хвілю ты пасміхнешся і, наставіўшы каўнер балонні, нетаропка пойдзеш пад шатамі прысадаў, а мірыяды знічак будуць падаць і гаснуць у чорным люстры мокрага асфальту. І падумаецца, што адна з тых знічак – тваё жыццё.

Кроны старых каштанаў будуць хаваць ад дажджу, а рэдкія кроплі, якія патрапяць за каўнер, нагадаюць, што твой май даўно мінуў, што на дварэ верасень і што ўсё твае спадзяванні і мары засталіся недзе там, далёка, за шчыльнаю заслонаю восеньскага дажджу.

Тае ночы таксама ішоў дождж. Яны стаялі пад яблыняй, і Адасю здавалася, што гэта не сад цёткі Прузыны, а той, райскі, у якім жывуць толькі ён, Адам, і яна, Ілона. Усё, чым ён жыў і што рабіў дагэтуль, усе ягоныя радасці, мары і згрызоты патанулі ў тую ноч у сінім бяздонні Ілоніных вачэй. Адам кратаў кужэлістыя, прапахлыя дажджом валасы, лашчыў яе надзіва гладкія рукі і ніяк не мог адважыцца прыпасці да хмельных і такіх жаданых вуснаў сваёй каханай. Дзесьці апоўначы дождж скончыўся, з дзіравай апоны хмар выкацілася

смарагдавая поўня, і ўслед за ёй на палову сусвету сыпанулі вясёлкава-мігатлівыя зоры. Неба адчайна вызарылася, і толькі рэдкія, абпаленыя па краях месяцавым святлом хмаркі нагадвалі аб мінулым дажджы. Яны ўтрапёна глядзелі на неба і былі амаль упэўненыя, што гэта не халодныя сакаўныя антонаўкі, а тыя далёкія зоры з працяглым шапаценнем ападаюць у мокрую траву іх саду.

А потым была восень, сумная восень з яе непраглядымі дажджамі і раннімі прымаразкамі.

Халодным кастрычніцкім вечарам ён забег у бібліятэку і ўбачыў іх разам... Загадчык клуба Стрыжак задзірыстым пеўнікам хадзіў між стэлажоў і, махаючы рукамі, уголас чытаў: „Шли, смеясь, по набережной хмурой парень со спортивною фигурой и девчонка – тонкий стебелек...” Ілона зачаравана глядзела на загадчыка, слухала вершаваную балбатню і зусім не зважала на Адася, які муляўся ля бібліятэкарскага стала, да сінечы ў пазногцях сціскаючы раман Аўдзеенкі „Над Цісай”.

А калі з іхняй яблыні апаў апошні крохкі лісцік, Ілона звольнілася з бібліятэкі і з’ехала са Стрыжаком на Данбас.

Адам Марштрупа пракаўтнуў горкі камяк і прыспешыў хаду.

Трэба было жыць...

І вось цёплым вераснёўскім адвячоркам, несучы пад пахаю вялікі слоік марынаваных агуркоў, ён шыбаваў да свайго інтэрната, прасторнага пяціпавярховіка, што вырас колькі гадоў таму на месцы непраходнага балота. Дома, у цёплым утульным пакоі, Адама чакалі хлопцы з брыгады і сардэчны друг Васіль.

– А-аа! Адам! Адам Міцкевіч! Хэ-хэ-хэ.

Смеючыся з уласнага жарту, ля стэнда са схемаю супрацьгаза стаяў, шырока рассунуўшы ногі ў зялёных галіфэ, выхавацель Фарзун.

– І доўга ты, Марштрупа, збіраешся трэсці кудламі? Ці мне позву ў цырульню выпісваць?

Вытрымаўшы паўзу, Фарзун злавесна сцішыў голас і прасіпеў:

– А мо ты думаеш, што калі стылягі пазарасталі, дык і табе можна?

Пасля выхаваўчай гутаркі Фарзун памякчэў і, падышоўшы да Адася, прамовіў:

– Вось я падстрыгся і выдатна пачуваюся!

Дзеля ілюстрацыі свайго выдатнага пачування ён правёў далонню па голенай патыліцы.

– Зусім моладзеж распусцілася, – падтрымала выхавацеля інтэрнатаўская вахцёрка.

– Сёння да гэтага барадатага з трыццаць сёмай прыбегла нейкая, дык у штанах! Я гэтую шылахвостку і на парог не пусціла!

У наступную хвіліну Фарзун з вахцёркаю пераключыліся на „барадатага з трыццаць сёмай", і Адам праслізнуў у калідор. Ён ужо збіраўся быў збочыць на лесвіцу, як убачыў ля дзвярэй чырвонага пакоя вялікі збой інтэрнатаўцаў.

– Што паказваюць? – бадзёра запытаўся Адам, але на яго абурана зашыкалі.

Стаўшы на дыбкі, ён глянуў цераз галовы.

У пакоі было не прадыхнуць, а шэра-блакітны тэлевізійны экран, на якім цьмяна вымалёўваліся бялявая жаночая галава ды круглявая мужчынская, прывідна свяціўся ў г:трах тытунёвай аблачыны...

– Ну, а якая ваша ўлюбёная песня? – падала голас жанчына.

Круглатвары, які сядзеў у нізкім крэсле, задуменна правёў пальцам па скроні.

– Мая ўлюбёная песня „Анджэла", я нават дачку сваю назваў Анджэла...

Тым часам нехта з жыхароў уключыў электрабрытву, і інтэрнацкі „Тэмп-6" азваўся натужным выццём.

Калі ж перашкоды скончыліся, тэлевізар жаночым голасам паведаміў, што зараз прагучыць песня амаль трагічнага гучання, і круглатвары ізноў з'явіўся на экране. Укленчыўшы перад бяляваю жанчынай, ён роспачна заламаў рукі і пранікнёна зацягнуў: „Льет ли теплый дождь, падает ли снег..."

Гэта была знакамітая „Усходняя песня", якую ў жаночым інтэрнаце насупраць круцілі амаль без перадыху. Адам заклапочана выцягнуў шыю, але даслухаць „Усходнюю" не давялося – яго тузанулі за пінжак.

– Марштрупа, дзе ты бадзяешся? – даўгалыгі Пецька з інструментальнага стаяў за спінаю і еў булку. – Цябе там нейкі фраер чакае.

Тулячы да грудзей слоік, Адам борздка пашыбаваў па сходах.

Нішто гэтак не ўзнімае чалавека і нішто яго гэтак не катуе, як чаканне невядомага. Адам Марштрупа жыў гэтым чаканнем. Кожнага ранку, прачнуўшыся а сёмай, ён прыспана глядзеў у вакно, за якім (у залежнасці ад пары года) пунсавела дзянніца, займаўся няўтульны шэры світанак альбо зеўрала апраметная цемра, і ва ўскудлачанай галаве яго прачыналіся цьмяныя надзеі і мары. Адаму мроіліся паркетныя залы, выбухі шампанскага, чароўныя дзяўчаты, з якімі ён кружляў пад музыку „Усходняй", з высокай нябачнай столі на іхнія галовы сыпаліся рознакаляровыя зоркі, і цэлы сусвет раскручваўся наўкол у шалёным вогнепырскім віры.

Як і астатнія насельнікі інтэрната, Адам Марштрупа меў права марыць аб шчасці. Але ішлі дні, міналі тыдні, сыходзілі месяцы, а ў жыцці Адамавым нічога не мянялася. Яго атачалі ўсё тыя ж падрапаныя сцены, ён па-ранейшаму спаў на рыплівым ложку з панцырнаю сеткай, а вечарамі смажыў на пазычаным здоры ўсё тую ж цыбулю, ад якой тхнула на тры паверхі. І вось зараз, падымаючыся па сходах, Адам адчуў, як у сэрца кальнула трапяткое прадчуванне: „Вось яно!"

Адчыніўшы дзверы, Адам убачыў таго, каго менш за усё меркаваў убачыць: на ягоным ложку сядзеў інструктар па фізічнай культуры і спорту Алег Жамяра. Жамяра гэты быў Адамаў аднагодак, аднак паспеў тым часам ажаніцца з дачкою дырэктара базы і атрымаць двухпакаёўку з асобным санвузлом.

Схамянуўшыся, госць ускочыў з ложка і, схапіўшы Адася за руку, пачаў яе моцна і шчыра трэсці.

– Адам Ігаравіч, калі не памыляюся?..

– Іванавіч, – нясмела паправіў разгублены Адам.

Утаймаваўшы прыпадак радасці, госць засяроджана паглядзеў на заседжаную двухкрылымі лямпачку і як бы між іншым запытаў:

– Дарэчы, якая ў цябе вага?

Пачуўшы, што ў Адасю „сто пяць з трусамі", ён натхнёна пацёр рукі і запалым ад хвалявання голасам прамовіў:

– І не сорамна, Адам Іванавіч, – глыбокі ўздых,– валодаць такой унікальнай вагой і ўхіляцца ад актыўных заняткаў спортам. Гэта... – хвілю госць падбіраў патрэбныя словы і, не знайшоўшы нічога вартага, скончыў: – проста не спартыўна!

Адась зразумеў усё: яго прыйшлі запісваць на ўдзел у масавым аздараўленчым кросе „Сцяжына здароўя".

– Не магу я, таварыш інструктар. Атлусценне, неўрозы... У мяне і даведка...

– Ды пачакай ты, далібог, – інструктар незадаволена скрывіўся, – сядзіш тут, як тхор у нары, замест таго каб абараняць спартыўны гонар завода. А ці ведаеш ты, калека вандроўны, што толькі адным сваім удзелам у абласным першынстве ты забяспечыш нам першае месца ў ...

Інструктар асекся. Позірк ягоны, слізгануўшы па адтуліне душніка, засяродзіўся на ложку Адасёвага суседа па пакоі. Сусед спаў, з галавой захінуўшыся

байкавай коўдрай, і звонку тырчалі толькі жоўтыя пяткі ды белыя матузы споднікаў. Наблізіўшы твар да Марштрупы, Жамяра таямніча і страшна выдыхнуў:

– Есць справа!

Паволі цярусіць дождж. Скрозь бязладдзе, непрагляддзе і непралаззе гарадской ускраіны сунуцца двое. Той, на галаве ў якога мадняцкі балонневы берэт, сіганууўшы праз калюжыну, супыняецца і вылівае з чаравіка ваду.

– Дык вось, за апошнія пяць гадоў у гэтай вагавай катэгорыі першынство не разыгрывалася, бо папросту не было з кім разыгрываць. Такім чынам, твой удзел у спаборніцтвах будзе абмяжоўвацца толькі парадам адкрыцця. Ты чуеш? Дзе ты?

Непадалёку пачулася гучнае боўтанне, занепакоенае „Тут!", і суразмоўца выплыў з цемры. Насунуўшы чаравікі і закурыўшы, Жамяра (а гэта быў, зразумела, ён) дастаў з кішэні нататнік, штосьці напісаў у ім і, выдраўшы аркушык, працягнуў Адасю.

– Прыйдзеш заўтра па гэтым адрасе, атрымаеш форму. І вось яшчэ што, – Жамяра скрыва глянуў на Адасёвы каўтуны, – абавязкова зайдзі ў цырульню, а то ў нас наконт гэтага строга.

Інструктар па фізічнай культуры з асалодаю зацягнуўся „Варнай" і, правёўшы далонню па шчацэ, нібыта прыкідваючы, ці не пара галіцца, прамовіў:

– Ну, а зараз не перашкодзіць і ўзбадзёрыцца!

І Адась, якому ўжо мроіліся грашовыя прэміі, адгулы і квіткі на дармавы харч, кінуўся за інструктарам у густую імжыстую цемру.

„Ивушка зеленая", шыкоўная кавярня ў цэнтры новага мікрараёна, грымела папулярнымі песнямі ў рытме халі-галі, прывабна свецячы ў цемры барвовай лямпачкай сігналізацыі. Лямпачка тая ўдзень і ўначы

гарэла над уваходам, і, відаць, з тае прычыны „Ивушка" атрымала сваю неафіцыйную назву „Бычынае вока".

Гэтым вечарам у дзверы кавярні нецярпліва пастукалі. Прыдзвернік Пятровіч, лаючы надвор'е і застарэлую касталоміцу, з вохканнем падышоў да дзвярэй. Ён ужо збіраўся быў патузаць аборку, на якой вісела шыльда „Месцаў няма", але, згледзеўшы праз шыбу Жамяру, таропка павярнуў ключ.

– Га! Спартсмены... Штосьці сёння запазніліся.

– Справы, Пятровіч, справы, – інструктар праслізнуў у прачыненыя дзверы і, кіўнуўшы на спадарожніка, які нерашуча тупаў ля ўвахода, дадаў: – Гэты са мной.

Адась ужо заносіў нагу над парогам, як адчуў раптам штуршок у спіну. Хлопцы, што дагэтуль мірна курылі зводдаль, таксама рынулі ў дзверы, але тыя з трэскам зачыніліся. Небаракі паказвалі чырвоныя кніжачкі, даводзілі, што яны журналісты і запрошаныя сюды на творчую сустрэчу, але прыдзвернік быў няўмольны.

– Ведаю я вас! Журналісты! – адрэзаў Пятровіч, і невыразная лаянка знадворку пакрылася шоргатам ягоных тэпцяў.

О, дзіўны і поўны таямнічай інтрыгі свет вечаровай кавярні!

Колькі нясмелых душ станавіліся тут безразважна смелымі, колькі зняверанных у каханні перажывалі тут сваю другую маладосць, асавела паглядаючы на смуглявыя ногі афіцыянтак, і ўслед за героем Талстога хто толькі не казаў тут сам сабе: „Не, жыццё не скончанае!"

Так, жыццё не скончылася, жыццё толькі пачынаецца, і, натхніўшыся гэтым адкрыццём, хто з нас, шаноўныя, не кідаўся наталяць прагу жыцця ў баксёрскіх рухах палымянага шэйка. Чые толькі абцасы не мазгаталі па наваскаванай падлозе „Ивушки"! Дробным макам сыпалі тут чаравікі заезджых лектараў і камандзіраваных, імпэтна лёталі танныя туфлікі і паўкеды

навучэнак і навучэнцаў палітэхнікума, адчайна грукалі вастраносыя, з загнутымі мыскамі „коры" слухачоў паскораных курсаў электралінейшчыкаў і, урэшце, па выхадных днях на скочным майдане з'яўляліся хромавыя боты кіраўнікоў ніжэйшага звяна сельгасарцеляў, якія нехлямяжа бухалі, намагаючыся звязаць мудрагелістыя па „барыні" з простым рытмам „леткі-енкі".

У гэты бліскучы свет і даў нырца аглушаны і спанталыжаны „атлет-цяжкавагавік". І хаця дагэтуль бываць у вечаровых кавярнях Адасю не даводзілася, за спінаю дасведчанага трэнера ён пачуваў сябе, нібыта на калідоры роднага інтэрната.

– Адаме, дарагі, мы сёння ж правядзём першую трэніроўку, – паведаміў Алег Жамяра выхаванцу, калі яны добра падсілкаваліся.

– Табе дастаткова будзе авалодаць толькі адным прыёмам – „сядло", і да цябе будзе страшна падыходзіць. Чуеш? Я зраблю з цябе першакласнага барца! – Жамяра вісеў на шыі ў Адама і даволі дрэнна варочаў языком: – Ты чуеш?..

Але Адась ужо нічога не чуў. Думкі ягоныя паланіла Яна́ – бялявая дзяўчына ў стракатых штанах. Дзяўчына сядзела за суседнім столікам і з адсутным выглядам слухала чорнага даўгялу, які падсеў да яе.

– Божухна! – прашаптаў Адась. – Якое шчасце – прытуліць да сябе гэтую красуню!

Тым часам недзе пад столлю загуло, засвістала, пачуўся гучны дробат і нехта ўзрадаваным голасам паведаміў: „Для нашых дарагіх гасцей Наталі і Вагана спявае салістка ансамбля Анджэла Шамшура!"

Кульнуўшы чарку, Адам асмеліўся.

– Ана нэ танцуэт, – адказаў за дзяўчыну даўгяла, пасміхаючыся з-пад сваіх чорных вусікаў.

Да свайго стала Марштрупа вярнуўся пастарэлы і асунуты. Абхапіўшы далонямі галаў, ён самотна пазіраў на танцораў.

Дзяўчына стаяла спінай да Адася, гэткая зграбнянькая і харошая, і на яе спіне, якраз там, дзе была сушпілка станіка, ляжала рука даўгялы.

– Міленькая, – прашаптаў Адась, і ўваччу паплылі постаці бялявай дзяўчыны, афіцыянткі Люсі, галасістай спявачкі Шамшуры, і ўжо немагчыма было аднавіць з усіх гэтых зыкаў і неўсвядомленых парыванняў душы сапраўдную карціну свету... Ён парываецца бегчы, яго трымаюць, угаворваюць... Навошта яго трымаюць? Ніўжо яны не разумеюць, што яму трэба ехаць на Данбас, да Ілоны? Пах бензіну на момант праясняе розум: за мокраю шыбай плывуць размытыя плямы ліхтароў, потым усё знікае, і душу спавівае такая жаданая ціша.

Наўкол, як кінуць вокам, шэрая верасовая імшара і як адбітак яе – шэрае неба над галавой. Доўгія кужэлістыя пасмы сцелюцца долам – дзесьці побач гарыць тарфянік.

Вось ўжо каторую гадзіну ён блукае па Ельнінскім балоце і шукае Ілону. Яна недзе тут – за шэраю завесай смугі толькі што гучаў яе голас. Зняможаны, ён валіцца на купіну і бачыць сляды: два цёмныя хвалістыя паскі прыбітага верасу цягнуцца ў кірунку да выспы.

Ён і не прыкмеціў, як апынуўся на выспе – парослым чэзлымі хваінкамі пагорку, на якім стаяла пахілая, падобная да курнай лазні хаціна. Некалі, яшчэ перад вайной, на імшарыне здабывалі торф, ад тых часін і буцвее яна тут, цёмная і закінутая, бунтуючы фантазію вясковых кабет.

Якраз у той год, як ён нарадзіўся, на балоце згубілася дачка глухой Хадорыхі – правалілася, напэўна, у падземнае тарфяное вогнішча. Але жанкі казалі іншае. Нібыта загінула дзяўчына страшнаю смерцю ў абдымках ваўкалака, які, як казалі, і дагэтуль жыве на выспе, а ў светлыя месяцовыя ночы лётае, бледны і страшны, шукаючы ахвяр.

У адзіным вакенцы хаткі гайданулася няпэўнае фасфарычнае святло. Слабасць валіла з ног, а грукат сэрца азываўся глухім булькаценнем у горле. Укленчыўшы, ён падпоўз да вакенца і, прымружыўшы ў нясцерпным чаканні вочы, наблізіў твар да шыбы.

Цьмяны агеньчык каганца выхопліваў з цемры толькі рукі: маленькую белую руку ягонай каханай і нечую смуглявую, валасатую, якая трымала Ілону за локаць. Ён пазнаў гэтую руку – гэта той, чорны даўгяла з-за суседняга століка. Кроў хваляй б'е ў скроні, яго пачынае трэсці.

У цемры матава пазначылася спіна, і свечка згасла. Апантана ўглядаючыся ў чорную бездань, ён адчуў раптам, што той, у хаце, таксама падышоў да вакенца і глядзіць, нябачны, яму ў твар, пасміхаючыся нежывою, застылаю ўсмешкай. У вочы яму глядзеў страхаморлівы ваўкалак!

Адхінуўшыся, ён намагаецца бегчы і заўважае, што нехта медзведзяваты і жудасны стаіць за спінаю... Твару не было: толькі вялікія страказіныя шкельцы ды шэрая пыса аграмаднага палёвага коніка.

– Падглядваеш?! – рыпучы голас азываецца рэхам. Адась ціснецца лапаткамі да збуцвелага бярвення і бачыць зялёнае галіфэ. Выхавацель Фарзун? Але чаму ён у супрацьгазе і што гэта ў ягонай руцэ?

Фарзун намёртва сціскае плячук і, узнімаючы над галавою нешта льсняна-чорнае і жахлівае, пачынае шалёна трэсці... Страшная здагадка шыбае ў мозг – у руцэ ў Фарзуна была атамная бомба!

Яму млосна, з астатніх сіл ён лямантуе і, разадраўшы павекі, бачыць салатавую майку з надпісам: „Авторемзавод". Васіль яшчэ трасе яго за плячо, але, убачыўшы, што сябар прачнуўся, уздыхае і стомлена валіцца на ложак...

– Як я ўчора, сам прыйшоў, ці як?

– У такім стане самі не ходзяць, – Васіль нацягвае

на голаў коўдру, і Адась, шукаючы апірышча, ідзе па хісткай падлозе ў мыцельнік.

Пругкі струмень б'е ў патыліцу, разганяючы пахмельную замарач і вяртаючы ў голаў сякія-такія прыгадкі. Але дзе ён прымудрыўся набіць такі гузак, што страшэнна шчымеў і краваточыў, гэта так і засталося таямніцай. Памыўшы твар, ён глянуў на свае штаны і на хвілю забыўся на боль: адзіныя выхадныя клёшы былі ў некалькіх месцах падраныя і спрэс залепленыя крэазотам, якім прапітваюць шпалы. Ліхаманкавым рухам Адась сунуў руку ў кішэню, але замест чаканай пяцёркі выцягнуў адтуль пакамечаную паперку. „Вул. Лумумбы, 25 – уваход з двара", – прачытаў ён і ўпершыню пашкадаваў, што ўблытаўся ва ўсю гэтую гісторыю.

...Ачомаўшыся, Адам пацёр вастраносыя „коры" абрыўкам цётчынай вышыванкі, у якую было загорнута сала, і рушыў пастрыгацца ў атлеты.

У пачакальні кагадзе адрамантаванай цырульні „Лада" сядзела з тузін наведнікаў. Заняўшы чаргу, ён сцішыўся пад лозунгам „Одеколон не роскошь, а гигиена" (нейкі жартун закрэсліў дзве першыя літары апошняга слова) і пачаў вывучаць прэйскурант на парфуму. Пачынаўся прэйскурант танным „Шыпрам", а сканчваўся адэкалонам з дзіўнаю назваю „Возможно...". „Чорт з імі, з грашыма, – абальюся самым дарагім", – падумаў Адась і пераведў позірк на фотаздымак мадэльнай прычоскі „Грёза". Носьбіт „Грёзы", вірлавокі тыпус з нафарбаванымі вуснамі, падаўся знаёмым. „Дзе ж я бачыў гэтую пысу?" – Адась яшчэ раз глянуў на здымак. Добрых паўтары гадзіны ён перабіраў у памяці ўсіх сваіх сяброў і знаёмых, але не даў рады прыгадаць ні месца, ні абставін сустрэчы з вірлавокім. І калі няшчасны наведнік „Лады" з лёгкаю трывогаю падумаў, ці не ваўкалакавы вочы глядзяць з фотаздымка, на яго

найшло прасвятленне. І прымроіцца ж такая лухта! Ну, вядома ж, смаўжа гэтага ён бачыў на фотакартцы ў хаце цёткі Прузыны. На той картцы вірлавокі трымаў у руцэ жаруую кветку, а над галавой ягонаю было напісана: „Люби меня, как я тебя”.

– Поўны мужчына, а поўны мужчына!

Ачуўшыся і зразумеўшы, што гэта да яго, Адась прабег у залу.

Працавалі дзве яшчэ даволі маладыя майстрыхі. Маладзейшая спрытна апавіла вакол Адасёвай шыі прасціраддла і запытальна паглядзела на наведніка.

– „Грёзу” зрабіце...

– Чаго, чаго табе зрабіць? – цырульніца пачала энергічна дыхаць. – Ты, малец, гляджу, дужа разумны, дык ты лепей з жонкай разумнічай, а ў мяне вунь колькі кліентаў.

Адась увабраў голаў у плечы і нясмела паправіўся:

– Кароткая стрыжка з праборам...

Жык-жык – першая пасма ўпала на прасціраддла, парушыўшы нечапаную чысціню белай асноведзі.

– Мой жа ўчора Мішу лыжы купіў, – падала голас старэйшая, якая стрыгла пад бокс рудога наведніка, – але, кажа, атрымаеш двойку – пасяку ўсе лыжы!

– А я ўчора да Веркі на цілівізер хадзіла, – адгукнулася Адасёва, – Абадзінскага паказвалі.

– Верчын жа муж ці нармальны быў?

– Цвярозы, і аванс да капейкі прынёс...

– Ідзі ты!

Старэйшая ўключыла машынку, гудзенне якой выклікала зубны боль, а маладая, памацаўшы свой кірпаты нос, голасам, поўным роздуму, прамовіла:

– Ці прывезлі гэта маянэз у дваццаць шосты?

Праз колькі хвілін Адась ужо ведаў, што Верчын муж п'е і што тая хадзіла скардзіцца ўчастковаму, што ў краму меліся завезці маянэз і што Сазоніха круціцца з нейкім вайскоўцам.

На запытанне майстрыхі, ці трэба асвяжыць, Адась папрасіў зрабіць гэта адэкалонам „Возможно...”, пасля чаго тая пачырванела і, схапіўшы са стала флакон з надпісам: „дэзінфекцыя”, націснула гумовую грушу.

Гарэза-ветрык лашчыў стрыжаную галаву, і, напэўна, з тае прычыны галава зрабілася надзвычай лёгкаю, а думкі прасветленымі і чыстымі. Вуліца Лумумбы, па якой ішоў Адась, была знаёмая да драбніц. На гэтай вуліцы месціліся гастраном, Палац культуры чыгуначнікаў, у якім, як сведчыла афіша, сёння чыталася лекцыя „Ці ведаеш ты закон?”, пункт прыёму шклатары і, нарэшце, кніжны шапік, дзе ён набыў аднойчы латарэю і выйграў паэтычны зборнік „Атава”.

Адшукаўшы дом пад нумарам 25, Адась у нерашучасці спыніўся перад абабітымі бляхай дзвярыма. Керхануўшы ў руку, ён нясмела пацягнуў клямку, ступіў на парог і сутыкнуўся з прысадзістым хлопцам, моцна скроенае цела якога дыхала дужасцю і здароўем, а квадратныя сківіцы надавалі маладому твару валявыя рысы.

– Таварыш Маршрутаў? – вочы незнаёмага свяціліся радасцю сустрэчы, а натрэніраваная рука ледзь не раструшчыла Адасёвы пальцы.

– Вы, часам, не „класік”? – запытаўся хлопец, калі яны ўвайшлі ў разлеглы, спрэс застаўлены бляшанкамі ды кубкамі пакой. Адась, не зусім разумеючы, аб чым гаворка, махнуў рукой.

– Ды які там класік!

– Так, усе кінуліся ў вольную, не дадзім рады сабраць збольшага прыстойную секцыю, – уздыхнуўшы, хлопец паглыбіўся ў нетры вялізнага шыфаньера, а госць тым часам агледзеўся.

Позірк ягоны спыніўся на трох партрэтах, што віселі на сцяне і над якімі буйнымі літарамі было пазначана, што гэта славутыя волаты. Адась падышоў бліжэй і

прачытаў подпісы. З усіх трох ён чуў толькі пра Івана Паддубнага, двое іншых, таксама Іваны, былі яму невядомыя.

„Напэўна, гэта і ёсць сапраўдныя класікі", – падумаў Адась, але спытаць не наважыўся.

– А вы, гляджу, ці не ў „цяжы" выступаеце? – прыглушана пачулася з шыфаньера.

Адам пачухаў за вухам, заклапочана глянуў на волата Івана Заікіна, што пасміхаўся яму з партрэта, і адказаў неакрэслена:

– Пакуль што не ведаю.

Калега вылез з шафы, вочы ягоныя бліснулі, а валявы твар расплыўся ўсмешкай.

– Скідваць збіраецеся? Тады я вам не зайздрошчу.

Канчаткова спанталыжаны, Адась з трывогаю падумаў, ці не адразу ж прыйдзецца скідваць „тое" невядома што, але хлопец прабачальным тонам працягваў:

– Барцовак вашага памеру, на жаль, няма, адны „мухачыныя". Знайшоў вось тут самыя вялікія, ды і тыя хутка разлезуцца.

Ён працягнуў Адаму трыкатажную апранаху ды пару дзіўных чаравікаў. Новаспечаны барэц загарнуў набытак у газету і спехам развітаўся з прысадзістым хлопцам.

Дома Адам нацягнуў на сябе барцоўскае ўбранне – мяккія скураныя чаравікі без абцасаў і штосьці падобнае да дзіцячых майтак са шлейкамі. І калі чаравікі прыйшліся як па мерцы, то майткі аказаліся задужа цесныя – сядзець у іх сяк-так было магчыма, а вось стаяць можна было толькі скурчыўшыся. Калі ж ён хацеў выпрастацца, вопратка пагрозліва затрашчала.

„Ат, дробязі! – махнуў на ўсё Марштрупа, аглядаючы ў цёмным вакне сваю пахілую постаць. – Як-небудзь ужо прайдуся на тым парадзе..."

Тады ён яшчэ не ведаў, што ў вялікім спорце дробязы не бывае.

З даху гатэля, дзе палымнелі неонавыя словы закліку: „Храните деньги в сберегательной кассе!", лілося мяккае чырвонае святло. Адам, пералічыўшы квадраты вокнаў, ступіў на цэментавыя сходы, і наліты чырванню твар ягоны асвяціўся трывожнай сінечай маланкі, народжанай позьнім трамваем.

Гатэльнае фае ўражвала бліскучаю падлогай і двума прапелерамі, што з ціхім гудзеннем круціліся пад столлю. Раней гэтыя круцёлкі Адасю даводзілася бачыць толькі ў кіно. Там яны бестурботна круціліся над галовамі дзядзькоў у сонечных акулярах, якія, закінуўшы ногі на сталы, пілі віскі з содавай, курылі тоўстыя цыгары і паміж зацяжак скрозь зубы цадзілі: „Шэф вамі незадаволены!"

Марштрупа міжволі сцепануўся і пашукаў вачамі Жамяру, які паспеў згубіцца ў натоўпе ля акенца адміністратара. Натоўп, шасцёра смуглявых хлапцоў у велізарных кепі і двое ў шчыгульных бастонавых гарнітурах, прыкметна хваляваўся. Чаргу затрымліваў зеленатвары інтэлігент, якому чалавечай мовай казалі, што месцаў у гатэлі няма, а той не сунімаўся і, трасучы ў паветры накіраваннем у абласную клініку, каторы раз пералічваў свае хваробы.

– Прабачце, грамадзянін, – стамлёны ўсёй гэтай балбатнёй, Жамяра адціснуў інтэлігента ўбок і глянуў у акенца.

Яшчэ не старая адміністратарка, даведаўшыся, што прыехалі спартсмены, прыязна пасміхнулася Жамырынаму носу і падала анкеты.

„Як усё ж такі добра быць спартоўцам!" – падумалася Адаму, калі ён, сапсаваўшы некалькі паперак, адказаў на тузін пытанняў і атрымаў пропуск.

Хвілін праз дзесяць Адам, бразгочучы ключамі ад нумара, сыходзіў долу, а нейкая радасная сіла няўмольна цягнула яго ўгору. Ісці ў спартыўных чаравіках было надзіва лёгка. Ён наўмысна абуў іх, каб людзі ведалі,

што бачаць не нейкага там слесара, а сапраўднага барца-цяжкавагавіка. Адам ступаў па дывановым ходніку, кідаў абыякавыя погляды на дзяўчат, што беглі па сходах, і сэрца ягонае прасіла песні. „Вось яно, жыццё!" Унізе, у апусцелым фае, ён убачыў скурчанага інтэлігента — той сядзеў на валізе і дрыготкай рукой намагаўся закінуць у рот пігулку. Відовішча гэтае Адама не надта каб расчуліла. Гэта быў чалавек з іншага свету, свету, які ён даўно пакінуў і дзе засталіся падрапаныя сцены, рыплівы ложак з панцырнаю сеткай, сардэчны друг Васіль і ўсё ягонае дагэтуляшняе інтэрнацкае жыццё.

Наперадзе іграла музыка. Тыцнуўшы швейцару паўрубель, Марштрупа хадою стамлёнага заўсёдніка ўвайшоў у рэстаран.

Ён уваходзіў у ролю.

Барацьба, як аб тым сведчаць шматлікія літаратурныя помнікі, — адзін з самых пракаветных чалавечых заняткаў. „Аякс Тэламанід і цар Адысей спаборнічалі ў барацьбе. Доўга яны барукаліся. Ні адзін, ні другі не змог перамагчы саперніка. І аднолькавыя дасталіся ім узнагароды..." — так апісваў вялікі Гамер славуты паядынак на магіле Патрокла.

Мінуліся стагоддзі, і сёння ўжо не толькі цары ды героі, а дзесяткі і сотні тысяч людзей захапляюцца гэтым старажытным і вечна юным відам спорту. У іх барацьба — гэта сапраўднае свята, свята смеласці, спрыту і мужнасці. І таму не дзіва, што ў былым культавым будынку, дзе месцілася цяпер спартыўная зала, таго ранку панаваў усеагульны ўздым, а старажытныя скляпенні поўніліся сяброўскім смехам і вясёлай гаманой.

Выдатны настрой быў і ў калегі слаўных ахейцаў Адама Марштрупы, які паходжваў па судзейскім пакоі, дзе адбывалася ўзважванне ўдзельнікаў, і, ляпаючы

далонню па сцягне, насвістваў штосьці вясёлае. Адзінае, з чым быў клопат, – гэта з барцоўкай, у якой даводзілася хадзіць сагнуўшыся, але затое ўсе сустрэчныя з павагаю рассоўваліся, даючы дарогу „цяжу"; прагнутая постаць і калючы пагляд з-пад брывоў надавалі яму выгляд чалавека рашучага і гатовага даць сакрушальны адпор любому саперніку.

Саступіўшы з вагаў, Адам тым часам сутыкнуўся з Жамярам, твар якога быў пазначаны ценем глыбокай турботы. Адвёўшы выхаванца ўбок, трэнер працягнуў аркуш паперы.

– Толькі не траціце прытомнасці, Марштрупа, але, здаецца, мы ў глухім залёце.

Адась глянуў на аркуш. У канцы доўгага спіса буйнымі літарамі было надрукавана: „Цяжкая вагавая катэгорыя, кмс Б. Шчабол (трэнер Ф. Кір'язаў) – 1 р. А. Марштрупа (трэнер А. Жамяра)".

– Пяць гадоў ніколі не было, і вось табе... І адкуль яны выкапалі гэтага Б. Шчабла?

Сэрца „першаразрадніка" парывіста грукнула і, як падалося самому Адаму, закацілася некуды на самае дно страўніка.

– Дык што... выходзіць...

Ён не дагаварыў – у глотцы захрас даўкі камяк.

Парад удзельнікаў завяршала іхняя дружына. Наперадзе адбіваў крок Жамяра, а замыкала шэсце каструбаватая і няўклюдная постаць Марштрупы, якая адразу ж прыцягнула ўвагу нешматлікіх гледачоў. „Гляньце, хто гэта?!"

Адасю было не да парада – матляючы не ў такт хадзе рукамі і пужліва азіраючыся, ён сюд-туд наступаў на пяткі папярэдніка, і калі той нарэшце паваліўся, да вуха няўдалага атлета даляцеў злавесны шэпт Жамяры:

– Ды выпрастайся ты... Што ты ідзеш, як...

– Не магу-у... Барцоўка трашчыць. Адам сцяўся і, як ніколі дагэтуль, адчуў сваю нікчэмнасць.

Пасля парада „першаразраднік" зашыўся ў распранальні. Ён сядзеў у кутку і ўздрыгваў ад кожнага зыку, што далятаў з залы. Адседзеўшы гэткім чынам каля трох гадзін, Адась пачаў быў спадзявацца, што на яго забыліся, як раптам дзверы расчыніліся і ў распранальню зайшоў Жамяра.

– А, вось ты дзе... Ну, давай, уставай – зрабі размінку.

– Не ўстану... Хворы я... – атлет шмаргануў носам, глянуўшы на трэнера вачыма, якія прагнулі спагады.

– Хворы? А ў рэстаранах сядзець – здаровы? – па твары ў Жамяры пайшлі нездаровыя чырвоныя плямы.

– Адчапіцеся ад мяне. Я ніколі не дужаўся і не збіраюся, так і скажыце там...

– Не дужаўся, кажаш? А гэта што?! – трэнер сунуў пад нос выхаванцу жмутак папер. – Та-а-ак... Марштрупа. Адам. Першы разрад... Другое месца ў спаборніцтве сярод пажарных дружын у Сыктыўкары, удзел у мемарыяле...

– Якога Сыктык... Ды я там ніколі не быў...

Алег Жамяра хвілю маўчаў, набіраючы паветра для новага выбуху.

– Ах, не быў! Дык гэта Жамяра ўвёў у зман спартыўную грамадскасць, а Марштрупа, выходзіць, анёл бязгрэшны?

Павярнуўшыся тварам да ржавай сценкі душавой, ён раскрыліў рукі і прадэкламаваў:

– Арыштуйце мяне!

– Ты... Вы мяне ашукалі. Вы ведалі, што я не ўмею дужацца, – плечы Адася гатовы былі затрэсціся ад роспачнага плачу.

– Падманулі хлопчыка! Дужацца хлопчык не ўмее, а вось ставіць подпіс у ведамасці ўжо навучыўся. А прэмія... таго – незаслужаная.

Трэнер нервова прайшоўся з кута ў кут і, крыху супакоіўшыся, выгукнуў:

– Ну што ты кіснеш? Ды гэты Шчабол цябе баіцца больш, чым ты яго. Можа, нават такі ж барэц, як і ты. Ведаем мы гэтых кандыдатаў... у калодніікі...

Жамяра з абурэннем глянуў на дзверы, нібыта за імі і сапраўды знаходзіліся тыя, каго ён гэтак рашуча выкрываў, і неўзабаве тыя азваліся вясёлым грукатам.

– А-а-а... Фелікс Артуравіч! З прыездам! – голасна ўсклікнуў інструктар, адчыніўшы дзверы.

– Чаго хаваецеся? Дапрацоўваеце, напэўна, тэхнічныя навінкі? – адгукнуўся прыемны барытон, і ў распранальню ўваліўся трэнер сяброў-самернікаў Кір'язаў, асвяціўшы сцены прамяністаю ўсмешкай і заняўшы добрую палову памяшкання.

– Ану, паказвай сваю „чорную маску”, – Кір'язаў падышоў да Адася і, паціснуўшы потную пяцярню, ляпнуў таго па карку.

– Дык вось які ты, Адам Марштрупа! Хвалюешся?

Адась бадну́ў галавой.

– А мой Барыс хвалюецца, баюся, каб не перагарэў.

Правёўшы далонню па непаслухмяных кучарах, ён расчуленым голасам прамовіў:

– Цудоўныя хлопцы! – і, апусціўшы вочы, ужо ледзь чутна паўтарыў: – Цудоўныя!

Далі свісток. Кандыдат у майстры прыкметна хваляваўся. Трымаючы дыстанцыю, ён кружляў вакол саперніка, не раўнуючы як лісіца вакол вожычыхі, і пільнаваў момант на атаку. Працаўнік жа, сунімаючы дрыготку ў лытках і выставіўшы наперад рукі, увесь час ішоў у наступ, відавочна навязваючы блізкі бой.

Развязка надышла нечакана. Не паспеў Адась пачухаць сваю чырвоную патыліцу, як кандыдат намёртва ўчапераўся ў кісць.

Гэта ўжо было што-нішто, і Шчабол на момант расслабіўся. Моманту гэтага Адасю хапіла на тое, каб схапіць саперніка за чупрыну і, што было моцы, туза-

нуць. Гэты арыгінальны спохват уразіў не толькі хваленага кандыдата, але і рэферы, які нават забыўся дзьмухнуць у свісток, і той, выпаўшы з разяўленага рота, бездапаможна матлянуўся на матузку.

Ачмурэўшы ад болю, Шчабол адчайным рухам схапіў Адама за нагу і, уклаўшы ў гэта ўсю моц сваіх сталёвых цягліцаў, славутым „млынам" узняў працаўніка над галавой.

Апошняе, што бачыў і чуў „першаразраднік" Марштрупа, былі лямпы дзённага асвятлення, што знічкамі праляцелі пад нагамі, і натужлівы трэск казённае апранахі. Вылузаўшыся з ліхенькай барцоўкі, Адам бразнуўся вобзем ля самага краю дывана.

Запанавала мёртвая цішыня, і ў гэтай цішыні прагучаў ціхі, не, нават не голас, а штосьці падобнае да здушанага піску мышаняці ў запеччы:

— А ма-а-ці мая Казімераўна...

Рогат некалькіх дзесяткаў гледачоў скалануў сцены спартзалы. Некаторыя з аматараў спорту не маглі трымацца на нагах і курчыліся, хапаючы ротам паветра.

Але Адась нічога не чуў і не бачыў. У вачах ягоных ападалі рознакаляровыя зоркі. Што з ім, дзе ён? Чые гэта рукі кратаюць яго? Ілона, гэта ты? Ты вярнулася, Ілона?

Паступова вярталася свядомасць... Вакол чынілася штосьці няўцямнае. На яго накінулі коўдру, яму згіналі-выпроствалі рукі, ляпалі па твары, піхалі ў нос нейкую брыдоту, ад якой калола ўвушшу, і на розныя галасы патрабавалі насілкі.

Нарэшце заслона з вачэй спала, і нізрынуты цяжкавагавік убачыў перапужаны твар Жамяры. Стогнучы, Адась глытнуў паветра.

— Маўчы, маўчы — табе шкодна размаўляць... Усё ведаю!

— Пайшоў прэч! — выдыхнуў Адам, і скупая мужчынская сляза цьмяна бліснула на ягоным твары.

# Жэрарава памылка

Тых, хто наважыцца прачытаць гэты аповяд, мушу адразу папярэдзіць: Жэрар ніякі не іншаземец. Ён нарадзіўся і жыве на Беларусі, вучыцца ў сярэдняй школе з англійскім ухілам і марыць стаць аўтагоншчыкам.

Школа з англійскім ухілам месціцца ў цэнтры горада, і Жэраравай маці даводзіцца раненька, яшчэ дворніцкая мятла не шоргала знадворку, выцягваць свайго пестуна з цёплае пасцелі. Прачнуўшыся, пястун, як заўсёды, доўга пацягваецца, пазяхае, а калі матчыны дакоры становяцца невыноснымі, паволі ідзе на кухню, дзе пад недарэчна-вясёлым паглядам Жэрара Філіпа, пажоўклы здымак якога вісіць на буфеце, лена жуе кавалак смажаніны. Праз колькі часу Жэрар збягае па гулкіх сходах, бухае дзвярыма параднага і бяжыць у бэзавым прыцемку на тралейбусны прыпынак.

Прыпынак бязладна гамоніць, чхае, сварыцца, натужліва рыпіць асаджанымі набок тралейбусамі. З хвіліну хлопец стаіць нерухома, збірае сілы, пасля чаго спрытна ўплішчваецца ў гурт атлетычных, апранутых у выцвілыя штармоўкі дзяцюкоў. Гурт той пад здушаныя воклічы: „Нахабнік!”, „Маўчы, цешча!” уносіць яго ў тралейбуснае нутро, дзе ён сцісшваецца, прыціснуты нечым мажным і цёплым да халодных нікеляваных парэнчаў.

Праз восем прыпынкаў Жэрар спрабуе паварушыцца.

— Куды точышся, салага! — сіпла выдыхаюць над вухам. „Салага” тузаецца, пралазіць між нечых ног і

ўрэшце ўдыхае волкае і да звону ўвушшу хмельнае паветра ранішняга горада.

На школьным ганку Жэрара, як заўсёды, сустракае Пецька Заруба.

Пецькаў бацька – трэнер па боксе, а сам Пецька не першы год займаецца ў секцыі картынга. Жэрар быў і сам запісаўся ў тую секцыю, але ўсё скончылася несамавіта: пачуўшы пра гэта, маці здзерла са сцяны выцінкі з „Матор-рэвю", а бацька металёвым голасам параіў сыну брацца за розум.

Таго ранку Пецька стаяў на ганку з футбольным мячыкам пад пахаю. Настаўніца заалогіі ўжо другі тыдзень хварэла, і замест вывучэння членістаногіх вучні з захапленнем ганялі мячык па школьным двары. Ганялі, дарэчы, не проста так: пасля ўрокаў пераможцы па старой завядзёнцы частаваліся за кошт сапернікаў ліманадам.

– На ліманад? – запытаўся Жэрар, ціснучы цёплую Пецькаву руку.

– На ліманад, – кіўнуў той, і зацягнутыя ў гаманкі натоўп дружбакі рушылі ў школу.

Класныя сцены дрыжэлі ад галасу і беганіны, таму з'яўленне Лаліты Піліпаўны напачатку ніхто не заўважыў. Гэтая кволенькая дзяўчына, якая атрымала сваё імя ў гонар нейкай аргенцінскай спявачкі, толькі летась скончыла педінстытут і працавала ў школе піянерважатаю.

Лаліта Піліпаўна добрую хвіліну стукала лінейкай па стале, заклікаючы 6 „А" суняцца, але гэта, ведама ж, не дапамагло. Уздыхнуўшы, маладая настаўніца пахітала галавою і пачала развешваць на дошцы наглядныя дапаможнікі.

– Запішыце, калі ласка, тэму: „Квадры развіцця хрушчоў".

Настаўніца гучна паўтарыла тэму, а Жэрар, абмяняўшыся з Пецькам журботнымі позіркамі, глянуў у вакно.

У шэрым імжыстым сутонні прачынаўся сумны восеньскі дзень.

На школьным двары не было ні душы, і толькі на разгатай таполі, што расла ля майстэрняў, гойдаўся вялікі, з добрага пеўня, крумкач.

„Вось у каго жыццё, – падумаў Жэрар, назіраючы, як птушка, бліснуўшы чорным крыллем, зляцела долу. – Не жыццё, а вечныя канікулы – ляці куды хочаш і не трэба забіваць сабе галаў усімі гэтымі хрушчынымі квадрамі".

Канікулы... Колькі разоў вяртаўся ён у думках да той чароўнай пары, калі можна да ачмурэння гуляць у футбол, чытаць кніжкі пра аўтагоншчыкаў ці папросту ўдосыць выспацца, зашыўшыся ў духмянае сена на гары цётчынай хаты. Жэрару раптам да болю выяўна прыгадалася вёсачка Звёздная, дзе жыве брат Міхась, успомнілася, як яны лавілі рыбу, як роспачна аблізваўся цётчын кот Базыль, калі яго частавалі пячкурыкам, і прыгадкі тыя апавілі сэрца шчымлівым, пакутліва-светлым сумам.

– А зараз адкажыце, каго мы бачым на гэтым плакаце?

Дакучлівы голас развеяў салодкія згадкі, і Жэрар з неахвотаю зірнуў на дошку. На плакаце быў намаляваны звычайны конік, і пытанне Лаліты Піліпаўны нічога, апроч крывой усмешкі, выклікаць не магло. Змаўчалі, занятыя размовамі, і астатнія, і толькі двоечнік Мінкевіч, вядомы як аматар паспаць на ўроках, на ўвесь клас галёкнуў: „Коніка! Мы бачым коніка!" Настаўніца перачакала выбух рогату і дрыготкім ад хвалявання галасам абвясціла.

– Не, таварышы піянеры... Гэта не конік, не цвыркун. Гэта саранча, наш з вамі люты вораг!

Гамонка, якая вось-вось павінна была перарасці ў гамэрню, аціхла, і ўсцешаная гэтым Лаліта Піліпаўна ўзяла са стала тоўстую кнігу.

– Вось паслухайце...

Адгарнуўшы ў патрэбным месцы, яна стоеным голасам пачала:

– Там, дзе апусціцца саранча, квітучы край ператвараецца ў голую пустэчу. Яна пралятае незлічонымі хмарамі, якія засцяць сонца. Пошум мільёнаў крылаў можна параўнаць толькі з шумам вадаспаду. Калі гэтае страшнае войска апусціцца на зямлю, галіны дрэваў і дахі пабудоў ломяцца пад яго цяжарам...

Лаліта Піліпаўна на момант перапынілася і спадылба паглядзела на клас. Дзесьці між шыбін адчайна зумкала самотная восеньская муха. Папраўіўшы акуляры, настаўніца працягвала:

– Збажына з'едзеная аж да камля, дрэвы стаяць без лістоты, усё зруйнаванае і зжэртае. Калі на зямлі не застаецца анічога, жудасны рой уздымаецца і, пакінуўшы пасля сябе голад і роспач, ляціць шукаць новы палетак. Сама саранчовая смерць становіцца яшчэ большым няшчасцем. Іхнія незлічоныя трупы, прыгрэтыя сонцам, пачынаюць гнісці і атручваць паветра, ад чаго ў людзей пачынаюцца хваробы...

Некалькі дзесяткаў пар вачэй з трывогай глядзелі на сваю піянерважатую. Тая акінула вучняў усхвалявальным позіркам і, паклаўшы кнігу, казала далей:

– Так было раней, у тым ліку і ў царскай Расіі, а сёння саранча ўжо не з'яўляецца той смяротнаю небяспекай, якой яна была калісьці. Наша навука перамагла гэтага ворага!

Па класе пракаціўся ўздых палёгкі, і ўзрушаная ўвагаю вучняў Лаліта Піліпаўна пачала захоплена апавядаць пра авіяэкспедыцыі, якія труцяць шкодніка ў Сярэдняй Азіі.

– Але мы не павінны супакойвацца. Саранча пера-

можаная, ды сям-там яшчэ спрабуе псаваць нам жыццё. Наша задача – знішчаць шкодніка ў зародку, не даючы яму распаўсюдзіцца. Пра гэта не павінны забываць і вы, піянеры...

– Што, зноў па тройцы несці? – выгукнуў тым разам двоечнік Мінкевіч.

Але Лаліту Піліпаўну гэты недарэчны жарт не збянтэжыў.

– Кожны піянер, які знойдзе на полі, у лесе альбо ў збажыне адну ці колькі асобін саранчы, павінен, прыкмеціўшы месца, неадкладна паведаміць аб гэтым у бліжэйшы сельсавет. Адрозніць саранчу ад вядомага вам коніка даволі проста. Па-першае, яна значна большая па памерах, даўжыня саранчы-шыстацеркі дасягае шасці сантыметраў, а па-другое...

Лаліта Піліпаўна хацела яшчэ штосьці сказаць, але ў гэты момант празвінеў званок, і 6 „А" дружна падхапіўся з месцаў. Прабягаючы каля класнай дошкі, Жэрар яшчэ раз глянуў на малюнак лютага ворага. У той момант хлопец і не падазраваў, які злы жарцік выкіне гэтая кузурка, што з халоднаю няўмольнасцю аб'ядала пшанічны колас.

Пагодным чэрвеньскім днём, блізу поўдня, у вёску Зорная, што яшчэ пазалетась называлася Бочкінцы, павольна ўехалі чырвоныя „Жыгулі". Легкавік, узнімаючы клубы жоўтага пылу, хвацка праехаў па калдабаністай вуліцы, запарушыў вочы цікаўным кабетам і спыніўся каля хаты-пяцісценкі.

– Авой, авой... А я гляджу раніцою, а голуб у шыбу і так ужо б'ецца, і так б'ецца.

Жэрарава цётка, у фартуху, з даёнкаю ў руцэ, подбегам трухала насустрач.

– Што ж ты, Хведзя, без ціліграмы? – цётка Палута плюснула Жэраравага бацьку ў скронь. – А Жорык які вялікі стаў!

Жорык няспешна вылез з кабіны, падставіў цётцы шчаку і, абышоўшы машыну, выцяў нагою па скату, як гэта робяць сапраўдныя аўтагоншчыкі.

Тым часам у канцы вулкі засвісталі, і з-за паваротківылецеў гурт вясковых хлапцоў. Наперадзе, махаючы даўжэзнаю вудаю, бег стрыечны Жэрараў брат Міхась.

— А мы тут... з мальцамі... на рыбу сабраліся, — задыхана апраўдваўся Міхась, паціскаючы братаву руку.

Госць с усмешкаю глянуў на альховую крывуліну, памацаў самаробны, выразаны з віннага корка, плавок і, адчыніўшы багажнік, выцягнуў пластыкавае складанае вудзільна.

Праз чвэрць гадзіны сталічны госць на чале сябрыны вудалёў шыбаваў па гасцінцы, і басаногая блазнота не магла адарваць ад яго вачэй. Дый дзіва што! На Жэрару былі новыя джынсы „Левісы", фірмовая майка з відарысам Чыка Карыа, а на галаве зухавата чырванела кепурка з гучным надпісам „Кент". Па дарозе на рэчку ён дзяліўся сваімі багатымі рыбацкімі ведамі. Жэрар паведаміў новым сябрам сакрэты лоўлі сіга, назваў некалькі прынадаў, на якія добра бярэцца таймень, параіў не шукаць стронгу ў вярхоўях Пячоры, дзе ён змарнаваў аднойчы цэлы месяц, і нагаварыў яшчэ шмат з таго, што яму запомнілася з размоў бацькавых знаёмцаў.

Каля вялікай крушні сябрына спынілася накапаць чарвякоў. Уладкаваўшыся на валуне, Жэрар пачаў быў апавядаць новую небыліцу, ды нечакана яго перапынілі.

— А ланцуг на руку ты што — дзеля прыгажосці начапіў? — знянацку спытаў рабацiністы Яська, самы малы з вудалёў. Жэрар горка пасміхнуўся і, пакруціўшы на запясці бранзалет, ціхім, але ўпэўненым голасам прамовіў:

— Тым, хто займаецца картынгам, гэты ланцуг

проста неабходны. Бачыш, на ім выбіты група крыві і рэзус...

Хлопцы, якія пра картынг мелі даволі цьмянае ўяўленне, зачаравана паглядзелі на гоншчыка.

– А якая хуткасць у гэтага картынга? – не сунімаўся Ясь.

– Ну, вядома, я не Стэн Барэт, а мой карт не „Будвайзэр", але хуткасць даволі сур'ёзная.

Пасля такіх слоў усталявалася шматзначнае маўчанне, якое недарэчна парушыў няўрымслівы Яська.

– А хто такі... гэты Барэт?

– Ну, слухайце, не ведаць Стэна Барэта...

Жэрар быў абражаны. Падхапіўшыся з валуна і міжволі пераймаючы бацькавы рухі, ён нервоваю хадою абышоў крушню.

– 17 снежня 1979 года на палігоне Роджэрс у Паўднёвай Каліфорніі быў пабіты...

Але хто быў пабіты на тым палігоне, уражаныя слухачы так і не даведаліся. Іхні гарадскі сябрук знячэўку асекся. Вочы ягоныя ненатуральна пашырыліся і ўтаропіліся ў чэзлую бружмеліну, што кусцілася ля крушні. Усе паглядзелі на куст, але, не заўважыўшы нічога, што магло б уразіць, скіравалі дапытлівыя позіркі на Жэрара. Той, стоена дыхаючы, яшчэ колькі часу стаяў у здранцвенні, потым увесь сцяўся і асцярожна сцягнуў з галавы кепурку. Вяскоўцы збянтэжана назіралі, як гараджанін вокраччу падпоўз да куста і, выставіўшы перад сабою шапку, кінуўся на бружмеліну. Пачабохтаўшыся ў кустоўі і пераможна гікнуўшы: „Не ўцячэш, гад!", ён падхапіўся на ногі, трымаючы ў руцэ вялікага палёвага коніка. На твары ягоным ляжаў цень незразумелай трывогі.

– Хлопцы, бяжыце ў бліжэйшы сельсавет, падымайце людзей! Саранча ідзе! – голас у Жэрара быў цвёрды і рашучы. Некалькі хлопцаў матлянуліся ў бок вёскі, але свойчас спыніліся і недаверна паглядзелі на Жэрара,

намагаючыся дапяць, хто такая гэтая саранча, куды яна ідзе і навошта трэба падымаць людзей.

– Ну, чаго вы сталі, як ёлупні? Дарагая кожная хвіліна. Хочаце, каб усё тут было зруйнаванае і зжэртае? Хутчэй, кажу вам, бяжыце ў сельсавет – няхай выклікаюць авіяэкспедыцыю!

Да вёскі ён бег, надзейна заціснуўшы шкодніка ў кулаку. Ён не крыўдаваў на хлопцаў, якія, пэўна, і дагэтуль качаліся па траве, заходзячыся ад рогату. Крыўдаваць не было калі – трэба было дзейнічаць.

Падбягаючы да гародаў, ён убачыў цётку Палуту, якая хадзіла па бульбянішчы, збіраючы ў слоік каларадскіх жукоў.

– Цёця-а! Бяда-а! – з астатніх сіл крыкнуў змагар са шкоднікамі і, спатыкнуўшыся, паваліўся ў разору. Цётка Палута, згледзеўшы нябожа, ад нечаканасці выпусціла з рук слоік і, рынуўшыся насустрач, заляманатавала:

– Ці ж руку пашкодзі-і-іў!

– Каб руку... Тут страшней, – хапаючы ротам паветра, выгукнуў Жэрар. – Дзе тут у вас бліжэйшы сельсавет? Трэба тэрмінова паведаміць аб з'яўленні саранчы.

Цётка пужліва агледзелася.

– Якога Шаранчы?

– Вось, злавіў на полі, кіламетры два адсюль.

Небарака-конік роспачна трапятаўся між пальцаў, марна спрабуючы вырвацца.

Цётка паволі апусцілася на ляху.

– Як жа ты мяне, Жорык, улякнуў...

Яна выцерла ражком хусткі халодны пот з ілба і, глянуўшы на кузурку, ужо спакойным голасам прамовіла:

– Якая ж гэта шаранча? Мы пра такую і не чулі. Гэта ж жамяра такая, ну, насякомае па-вашаму. У нас іх казялкамі завуць.

– Якая там жамяра! Гэта пералётная саранча, наш люты вораг і шкоднік!

Пачуўшы пра шкодніка, цётка прыхапілася і выцерла рукі аб фартух.

– Ды ён нічога асабліва не шкодзіць, – сцішана пачала цётка. – Скача, сvіршчыць... Ну, можа, калі і з'есць якую травінку...

Цётка Палута казала яшчэ штосьці ў абарону шкодніка, ды слухаць яе не было часу.

„Якія ўсё ж такі нядбалыя людзі, – пранеслася ў галаве ў Жэрара, калі ён, не разбіраючы дарогі, ляцеў па лехах маладой капусты. – „Жамяра”... Вось як збярэцца гэтая жамяра ў кучу, ды пасядзе на хату, ды абрыне дах на галовы – тады пасмяецеся”.

Бацька сядзеў на лаве пад яблыняй і, пыхкаючы люлькай, чытаў раённую газету. Такая лагодная бацькава пастава крыху збянтэжыла сына. Ён у нерашучасці спыніўся пасярод двара і яшчэ раз паглядзеў на кузурку. Не, сумневу быць не магло – зялёны скакунец, што цялёпаўся ў руцэ, быў дакладнай копіяй таго, з плаката, ды і ўдоўжкі меў не меней як шэсць сантыметраў.

– Глянь, каго я злавіў! – выпаліў Жэрар.

Бацька на момант адарваўся ад газеты, зірнуў на коніка, але замест таго, каб расхвалявацца і кінуцца шукаць кіраўнікоў сельсавета, безуважна кіўнуў і зноў заглыбіўся ў чытанне.

– Што ж ты сядзіш? – у словах Жэрара гучала абурэнне. – Трэба штосьці рабіць, выклікаць авіяцыю.

– Авіяцыю? Якую авіяцыю, навошта?

– Як навошта? Саранчу труціць.

Хвіліну бацька глядзеў на беднага коніка, пасля з шумам набраў паветра і, адкінуўшыся на прыслон лавы, зарагатаў так гучна, што кот Базыль з перапуду сігануў на касцёр бярозавых дроў, а певень, што хадзіў па надворку, натапырыўся і незадаволена кудахтаў.

— Ты, дарэчы, у якім класе вучышся? — спытаў нарэшце бацька, выціраючы слёзы.

— Ну, у сёмы перайшоў.

— Дык вось, у тваім узросце ўжо трэба ведаць, што адрозніваюць статкавых прастакрылых — саранчу, якая шкодзіць сельскай гаспадарцы, і нястаткавых — кабылак, адну з якіх ты трымаеш у руцэ. Яна хоць і падобная да саранчы, але асаблівай шкоды не робіць. Дый саранча ўвогуле да нас, здаецца, не залятае.

Пальцы разняліся самі сабою. Хвілю конік сядзеў нерухома, і Жэрар падумаў ужо, што ён нежывы, але неўзабаве той схамянуўся і вомігам пераляцеў на жоўтую багатку пад плотам. Уладкаваўшыся на пяшчотных, прысыпаных пылком пялёстках, зялёны скакунец спачатку асцярожна, а потым усё гучней і гучней застракатаў сваю песню. Конік трашчаў так натхнёна, так радасна, як, бадай, ніколі дагэтуль: у Жэрара нават пазакладала вушы. Ды коніку было з чаго радавацца — ён вырваўся з палону, ён застаўся жыць, і стракаценне ягонае ўлілося ў велічны і такі непаўторны голас роднай зямлі.

## Апошні кватарант

Сінім травеньскім адвячоркам, блізу дзевяці гадзін, з варот пасёлка трубаправодчыкаў выйшаў падгалісты мужчына ў капелюшы і з маленькай „лазеннай” валізай у руках. Выходзячы з варот, мужчына на хвілю супыніўся, зірнуў нядобрым вокам на крайні вагончык, на якім, калі прыгледзецца, можна было ўгледзець няэграбны надпіс „Сталовая” і, пацёршы далонню чэрава, рушыў у накірунку хутара Хвашчавік.

На працягу наступнай гадзіны мужчына блукаў у прырэчных кустах, колькі разоў пераходзіў уброд балоцістую рачулку, а калі ўрэшце выбіўся на сухое, на галаве ягонай не было капелюша, а змораны, крануты зелянінаю твар, сведчанне застарэлай нястраўнасці, быў густа падрапаны маладым малиннікам.

З першага погляду мужчыну можна было палічыць за шпега, і менавіта за шпега і палічылі яго падшывальцы, якія тым вечарам вудзілі на рэчцы рыбу, але добрыя, глыбока пасаджаныя вочы, адсутнасць цёмных акуляраў і тое, як шчыра мужчына лаяўся, выкручваючы шкарпэткі, пераканала падшывальцаў, што гэта чалавек наскі, і яны, адседзеўшы ў кустах цэлую гадзіну, на злом галавы кінуліся дадому.

Ноч між тым абяцала быць ядранай. Волкі ветрык, які павяваў з усходу, нервовымі дрыжыкамі абмацваў мокрыя лыткі, сцягваў скуру на патыліцы і дробна матляў бледна-зялёны лісцік хмелю на левым вуху. Адзінае, што цяпер саграваала прараба Антановіча, дык

гэта цёплыя ўспаміны пра Калмыкію — пра начныя цяпельцы ў стэпе, пра смажаную на шырокай калмыцкай патэльні сайгачыну і пра сам стэп — бязмежны і пляскаты, нібы тая патэльня, на якім не расце праклятушчы алешнік, у нетрах якога так лёгка зблудзіцца.

... Гаспадар хутара, каржакаваты дзядок у пажоўклых вайсковых падштаніках сядзеў ля пустой сабачай будкі і абіраў бульбу. Павітаўшыся, Мірон Пятровіч паставіў валізу, памасіраваў рукой нібыта хворае сэрца, войкнуў на знак страшэннай змогі, але хітрыкі ягоныя пайшлі на марна.

— Вы ж, напэўна, на кватэру? — не падымаючы галавы, запытаўся гаспадар. — Толькі ж дарма ішлі. Мы на кватэру не бяром. Швагерка была ўзяла двух вашых, дык яны ў яе сабаку з'елі і пуню спалілі. — Шпурнуўшы ababраную бульбіну ў саган, гаспадар з вохканнем падняўся на ногі.

Мірон Пятровіч прыпаліў цыгарэту, зірнуў на абгарэлыя, падобныя да рэбраў дагістарычнай жывёлы, кроквы нейкай спаруды, што чарнелі ў глыбіні двара, і толькі тады зразумеў: зваршчыкі, якія параілі яму звярнуцца на хутар, папросту нахабна кпілі. Зацягнуўшыся гаркавай „Прымай", Мірон Пятровіч летуценна памахаў рукой, разганяючы ці то дым, ці то астатнія спадзеўкі ўладкавацца на пастой. Балючая крыўда — крыўда на сваё беспрытульнае жыццё, на сваю былую жонку, на гэтага старого куркуля ў падштаніках гостраю рэззю азвалася пад дыхніцай. Ён пайшоў, не разбіраючы дарогі, і старому куркулю, перш чым ён супыніўся, давялося колькі разоў голасна крыкнуць:

— Таварышок... Чамаданчык забярыце.

Прараб вярнуўся, схапіў сваю падраную валізу, з якой не разлучаўся з часін асваення цаліннай і абложнай зямлі, і, не гледзячы на куркуля, працэдзіў:

— Б'емся як рыбы... здароўе кладзем, каб ім газаправод пабудаваць, а яны...

– Аво-ой, чалавеча! – спеўна азваўся на тое куркуль. – Газу твайго я не пабачу. Вось калі б ты мне яго ў хату правёў, тады б была размова.

Знаёмы ад дзяцінства зык: сыканне малака ў даёнцы і саладжавы пах сырадою, што струменіў з разнасцежаных дзвярэй хлеўчука, прымусілі Мірона Пятровіча сур'ёзна задумацца над апошнімі дзедавымі словамі. Праглынуўшы густую сліну, ён азірнуўся на бакі, зняў з вуха бледна-зялёны лісцік хмелю і ціхім голасам прамовіў:

– Газ будзе!

Кватарант, распешчаны і распараны, прыбраны ў новыя дзедавыя споднікі, сядзеў пры стале і са шматхвілінными паўзамі, пад час якіх сёрбаў адвар дзівасілу, скардзіўся на сваё дарэшты сапсаванае здароўе.

– Ох, і паклаў жа я здаровейка на тых трубаправодах, – слёзна казаў ён дзеду з бабуляй. – Перад тым як сюды ехаць... зайшоў праверыцца... Лекар прагледзеў аналізы і ці-і-ха так кажа: – Пятровіч, у цябе кіслотнасці – ноль... Ноль! – бразнуў кулаком па стале кватарант, і бабка Агата, якая змежыла было павекі, спалохана падскочыла на табурэце.

– Хочаш, кажа, жыць – кідай сваю працу... Здаровы сон, кумыс, малако... гэтага... ні кроплі! – кватарант мелькам зірнуў на абтрушчаны кукурузны кіях, якім была закаркаваная бутля, і заклапочана пакруціўся на крэсле. – Ды як кінеш? Дваццаць пяць гадоў на трасах... Бухара – Урал чулі? – Дзед Яўхім асавела паглядзеў на пастаяльца, заківаў галавой. – Першы мой трубаправод. Цяпер тыя, з кім пачынаў, – ого-го! Хто трэстам кіруе, хто ў главку, а я... як быў прарабам, так і застаўся.

Мірон Пятровіч суцішыў, пачухаў тое месца, дзе быў намаляваны інвентарны нумар споднікаў, і зноў, у каторы ўжо раз, утаропіўся на кукурузны кіях.

– Гоніце? – нечакана запытаўся вечны праараб, у голасе якога чуўся дакор уадначас са шчырым захапленнем.

– Ганю, Пятровіч, ганю... – гаспадар ашчадна кашлянуў у жменю. – А што рабіць? Хто-небудзь пра нас, старых, падумаў?

– Ніхто не падумаў! – падтрымаў гаспадара пастаялец, удругарадзь бразнуўшы кулаком па стале.

– „Чарніла" таго не стала, а тут... гарод узараць – гусак, дровы прывесці – гусак, за газ дык ажнуль тры літры паставіў...

– Газ, дзеду, я табе дармавы правяду. Зраблю прамую ўрэзку ў газаправод.

– Дык мо, Пятровіч, яшчэ чарачку? – ураз пажвавеў гаспадар.

Пятровіч рашуча замахаў рукамі, але, адчуўшы, што сваім адказам можа пакрыўдзіць дзеда, падсунуў чарку пад мутны струмень.

Усю ноч за сталом гасціннай хаты дзеда Яўхіма лілася гутарка. Пастаялец са слязамі на вачах распавядаў гаспадару аб сваім пакутніцкім лёсе, даводзіў, што гэта дзякуючы яму, прарабу Антановічу, хутар Хвашчавік, які знаходзіцца ў ахоўнай зоне газаправода, не быў знесены, вадзіў відэльцам па цыраце, малюючы схему ўрэзкі ў газаправод, колькі разоў парываўся зацягнуць „Шатландскую бяседную", аж пакуль не заснуў пры стале, у абдымку з пустой трохлітровай бутляй. Дзед Яўхім спрабаваў быў яго пабудзіць, але прараб адно храпянуў спрасоння, прымусіўшы старую Агату спалохана перахрысціцца.

Прыгрэтая нязыркім вераснёўскім сонцам муха з рэактыўным гудам заляцела ў хату і, даўшы кругаля вакол лямпачкі, уладкавалася на мясістым носе Мірона Пятровіча. Кватарант рохнуў, бязгучна замыляў вуснамі і неўзабаве захроп яшчэ натужлівей.

„Во спіць, мухі поўзаюць як па нябожчыку", – падумаў дзед Яўхім і, захінуўшы фіранку, якая аддзяляла ложак ад святліцы, улёгся ямчэй. Старому не спалася. Дакучлівыя думкі восеньскімі мухамі раіліся ў галаве, не давалі спакою. Звычайна, у гэтыя кароткія хвіліны паўдзённага спачыну, ён спаў як забіты і нават волатаўскі храп яго не надта каб турбаваў. За гэтыя пяць месяцаў стары зжыўся і з храпам пастаяльца, і з ягонымі п'янкамі, і з немым лямантам, калі той размаўляў па рацыі, і з грукатам цяжкой тэхнікі пад вокнамі. Прычына дзедавай бессані была як раз у адваротным: у адчуванні, што ўсё гэта неўзабаве скончыцца і пастаялец з'едзе ў сваю Калмыкі, пазаставіўшы па сабе пустую кладоўку, устойлівы пах мазуты і салодкія байкі пра дармавы газ. Дзеду манулася пагаманіць з Міронам, але ўсё не выпадала – прараб дні і ночы гібеў на трасе, а калі і прыбіваўся на пастой, дык выгляд ягоны да сур'ёзнай размовы аніяк не пасаваў.

Учора ўвечары пастаялец уваліўся ў хату ў абдымку з нейкім лысым. Усенькую ноч пастаялец і лысы аб нечым зацята спрачаліся – Мірон Пятровіч падпіхваў госцю жмутак паперын, той адпіхваў, і толькі на золку, пад роспачную Міронаву кляцьбу сёння ж ліквідаваць недаробкі, лысы таропка распісаўся ў паперах.

– Божухна, як храпіць! – азвалася за спінаю Агата. – Хату разваліць. Пабудзіў бы, ці што?

– Спі ты, кароста, – буркнуў дзед Яўхім і наструніў слых. У гэты момант пад тапчаном, на якім спаў кватарант, пачуўся няўцямны свіст і нехта ахрыплым голасам замармытаў:

– Трэці, трэці, адкажыце чацвёртаму!

„Трэці" схрапянуў на астачу, пакутліва войкнуў і, пашнарыўшы рукою пад ляжанкай, выцягнуў адтуль чорную скрыню рацыі.

Рацыя тая (фінская, фірмы „Нокія" – як тлумачыў уладальнік) мела паганую звычку брыдка лаяцца, таму

пастаялец хаваў яе далей ад бабчыных вачэй, запіхваючы пад ляжанку.

– Ты Радзян... кх. Ты Радзянка? – Мірон Пятровіч кашлянуў, але голас у яго так і не прарэзаўся. – Колькі на манометры? Пяцьдзесят?! Пампуй яшчэ пяць ачкоў, і годзе... І гані тэхніку на саракавы пікет.

Скончыўшы размову, Мірон Пятровіч войкнуў, памацаў далонню патыліцу і няўпэўненай хадою пасунуўся да дзвярэй.

– Добра! – адно толькі і паспеў сказаць праараб, дыхнуўшы паветра, тым часам як у спіну яму баднула сівая дзедава галава.

– Што ж вы, Пятровіч... паелі, папілі і хвастом накрыліся? – яшчэ ад парога пачаў стары. – Мы з Агатаю да вас як да сына, а вы...

Пятровіч уважліва зірнуў на старога, выцер пот з ілба і, зразумеўшы, аб чым гаворка, гарачай рукой абхапіў дзедавы рамёны.

– Дзеду... Дарагі ты мой чалавек! – расчуленым голасам прамовіў Мірон Пятровіч. – Газу ж таго яшчэ і ў трубе няма. Сёння толькі пнеўмавыпрабаванні скончылі. – Прытуліўшы дзеда да грудзіны, Мірон Пятровіч паказаў рукою на рэшткі вялікай кучы перагною, якія меліся раскідваць па трасе і які дзед Яўхім перацягнуў ў начоўках на сваю цяпліцу.

– Вунь, бачыш гумус на рэкультывацыю? Дык вось, я туды вывеў трыста метраў трубы ад газаправода. Так што засталося толькі падключыцца, – Мірон Пятровіч кемлівым вокам зірнуў на гародчык. – Давядзецца крыху папсаваць твае соткі – пракапаем праз іх траншэю. Так што збірай ураджай! – Пастаялец ляпнуў дзеда па плячы і жвавым подбегам рушыў за хляўчук.

Паваліўшы агароджу, канавакапальнік з натужлівым рокатам уз'ехаў на лехі, і хаця гуркі былі даўно сабраныя, бабця Агата заламала рукі:

– А мае ж вы гурочкі-і! А ці ж не я вас садзіла-палівала-а!

–Сціхні ты, кароста! – крыкнуў, як адрэзаў, дзед Яўхім, неадрыўна пазіраючы на загарэлы прарабаў плех. Пастаялец, абкруціўшыся гумовымі шлангамі, як утаймавальнік пітонамі, цягнуў іх па дне траншэі, і на паверхні тырчала толькі ягоная галава.

– Хадзема сюды! – гойкнуў неўзабаве Мірон Пятровіч аднекуль з разлеглай яміны, ад якой пачыналася траншэя.

Стары патрухаў на покліч.

– От, бачыш, труба з засоваю? – Мірон Пятровіч ухапіўся рукой за ржавую трубу, што вытыркалася з зямлі, і павярнуў кран. Ён яшчэ нешта казаў, але голас ягоны заглушыла злавеснае сыканне. Закруціўшы кран, пастаялец задаволена пасміхнуўся: – Чуеш, як прэ? Рабочы ціск пяцьдзесят атмасфер!

Насунуўшы канец шланга на трубу, Мірон Пятровіч намёртва прыхапіў іх сталёвым дротам.

А ўвечары ўсё чатыры фаеркі дзедавай пліты шугалі блакітным полымем і над усімі чатырма смажылася, страляючы тлушчам, апетытная свежаніна.

У першы дзень кастрычніка, акурат праз тыдзень па ад'ездзе Мірона Пятровіча, чатыры блакітныя вогнікі, што ўдзень і ўначы гарэлі над фаеркамі, пачалі гаснуць. І як ні круціў дзед Яўхім краны, як ні стукаў дрыготкімі пальцамі па медзяной рурцы, усё было марна: вогнікі наўвоч марнелі, а напрыканцы дня згаслі зусім.

Цэлы тыдзень дзед Яўхім бязмэтна блукаў па падворку, па колькі разоў на дні заглядваў у пусты парсючыны закутак, у кладоўку, якая яшчэ зусім нядаўна ламілася ад кумпякоў і кілбас, а згледзеўшы на бруднай падлозе сляды парсючка ды пустыя крукі пад столлю кладоўкі, жаласліва войкаў:

— Вось гэта лоўка!

Пэўнага ранку, зліўшы з каністраў рэшткі „вогненнай вады”, дзед Яўхім выправіўся ў мястэчка, да знаёмых хлопцаў з „Сельгастэхнікі”. Хлопцы пачастунак прынялі, але направіць сістэму адмовіліся — складаная, — сказалі, — тэхніка. Да таго газаправода і падыходзіць страшна.

Вечарам дзед Яўхім ішоў да свайго спустошанага кватарантамі котлішча, ачмурэла размаўляў сам з сабою:

— Вось гэта лоўка! Вось гэта раскулачыў, дык раскулачыў! — і жыць яму не хацелася.

Ачуўся стары ўжо каля самага хутара. Падняўшы вочы, ён агледзеў родную сялібу, і ясачка надзеі адбітка барвовага сонца бліснула ў ягоных вачах: на агароджы, на ўсю яе даўжыню, вісела рыбацкая мярэжа, а на двары, усутыч да згарэлай пуні, стаяў прапылены „уазік”.

Сын Міхась, прафсаюзны работнік аднаго з прадпрыемстваў сталіцы, прыехаў, як заўсёды, не адзін — апрача яго, за бяседным сталом сядзеў, махаючы відэльцам з уздзетым скрылём кілбасы, пажылы інтэлігентны мужчына.

— Добрага вам здаровейка! — ледзь чутна прамовіў Яўхім і, каб не зваліцца ад стомы, цяжка абапёрся на рукамыйнік.

— Ты што, стары, хворы ці... таго? — у голасе Міхася чуліся ноткі сарказму.

— Во-во. Няхай раскажа людзям пра свае хваробы,— засакатала старая Агата і, каб не чуць абразлівага „Сціхні”, падалася ў сенцы.

— Давядуць гэтыя кватаранты да торбы, — гукнула яна з сенцаў, незадаволена бразнуўшы даёнкаю.

Стары ўздыхнуў, зняў з галавы аблавух, апусціўся на ўслончык.

– Не ведаю, ці можна... пры чалавеку?...

– Давай, давай, – Міхась гарэзліва міргнуў інтэлігенту. – У мяне ад Пятра Пятровіча сакрэтаў няма.

– Ну, калі няма... – стары засяроджана пачухаў за вухам. – Стаяў тут у мяне адзін чалавек.

– Гэта хто, той вайсковец? – перапытаў Міхась, выцягваючы са слоіка крамяны маласольны агурок.

– Ды не, ну гэты... што газаправод будаваў...

– А-а! „Нуль кіслотнасці". Цудоўны хлопец! – узрадавана зазначыў Міхась, надкусваючы агурок.

– Дык вось, паабяцаў мне той „нуль кіслотнасці" газ у хату правесці.

– Пачакайце, пачакайце, – перабіў старога Пятро Пятровіч. – Як гэта – правесці?

– Ну так... Паабяцаў зрабіць... гэтую... як яе... прамую ўрэзку.

– І што, зрабіў? – госць перастаў жаваць і неяк дзіўна паглядзеў на Міхася, у роце якога захрас крамяны маласольны агурок.

Зразумеўшы, што збалбатнуў лішку, Яўхім падняўся з услона і вінавата развёў рукамі.

– Не, вы чулі, Міхал Яфімавіч, да чаго дайшло? Ужо і тут налаўчыліся! Ужо і газ крадуць! – госць усхапіўся з месца і нервовым крокам прайшоўся да печы.

– Божухна, куды ідзем... куды ідзем! – спыніўшыся пасярод кухні, Пятро Пятровіч дапытліва зірнуў на гаспадара. – Але ж гэта немагчыма... Там жа страшэнны ціск. Патрэбны адмысловыя трубы, запорная арматура...

Падумаўшы хвілю, Пятро Пятровіч садраў з вешака капялюш і рашуча нацубіў яго на самыя вочы.

– Вось тут, – паказаў стары на пяшчысты грудок, – ён сюды трубу вывеў, а адсюль ужо шлангі паклалі.

Рыдлёўка мякка ўвайшла ў пясок. Госць капаў як апантаны. Поруч, цяжка сапучы, торкаў прытуплены жалязняк Міхал Яфімавіч. Праз колькі доўгіх хвілін

лязо рыдлёўкі бразнула аб метал. Госць нахіліўся, разгарнуў рукамі вільготны пясочак і лёгкім рухам выдраў з пяшчыстых нетраў чырвоны прапанаўскі балон.

— Прамая ўрэзка, — зазначыў Пятро Пятровіч, выцiраючы рукавом узмакрэлую шыю. Садраўшы з балона гумовы патрубак, які злучаўся з жалезнаю трубой, ён крутнуў вентыль і, слухаючы жаласлівае сіпенне, уражліва пахітаў галавою.

Пад сховаю ночы Міхась з Пятром Пятровічам выправіліся ставіць пераметы, і ў хаце запанавала цішыня — адно тахкалі ходзікі ды мерна пасопвала пад бокам Агата. І бледная месяцавая яснасць, што лілася з проймы незашмаргнутых фіранак, поўніла душу нейкай невыказнаю трывогай. Адкінуўшы фіранку, стары зірнуў на смарагдавы, нібыта ў бутэльку пасаджаны веташок, а калі змежыў павекі, вятох ізноў паўстаў уваччу бледным і нежывым ценем. Пішэлі, аддаляліся зыкі: тахканне ходзікаў, сапенне Агаты, уласнае дыханне, і ярчэў, наліваўся трывожнай яснасцю смарагдавы сярпок. І ўбачыў стары, што пастаялец ягоны, Мірон, ляжыць на месяцы, як на тапчане, і, закінуўшы рукі за карак, смаліць цыгарку. Страсянуў дзед Яўхім галавой, перахрысціўся і згадаў раптам пра балон, які так і застаўся ляжаць за гародам, не прыхаваны ад чужых вачэй.

„Прападзе дабро", — падумаў дзед Яўхім і скінуў ногі на халодную падлогу. На двары было ядрана, пад нагамі парыпвала шэрхлая зямля, але ён не адчуваў холаду. Ён ішоў, амаль бег, апантана ўглядаючыся ў парадзелую ад месяцавага святла цямрэчу.

Балон ляжаў на старым месцы, прывідна свецячы ў цемры сваімі крутымі бакамі. Абмацаўшы халаднавата-пукатую паверхню, дзед Яўхім схапіўся адной рукою за вентыль, другою — за дно і адчайным рухам паспра-

баваў ускінуць балон на плячо. У гэты момант пад дыхніцай у Яўхіма штосьці абарвалася, сапрэлыя падштанікі затрашчалі, і стары, не ўтрымаўшыся на дрыготкіх нагах, паляцеў разам з балонам у выкапаную Пятром Пятровічам яміну.

– А Яўхімка ж ты мо-ой, а куды ж ты сабраўся-а!– голас Агаты прагучаў прыглушана, як не з таго свету.

Стары расплюшчыў павекі, выцер крывавую пену з губы і ашклянелымі вачыма паглядзеў на месяц.

– Вунь ён, вунь ён, нячысцік, – жаласліва застагнаў Яўхім, схапіў у жменю пяску і кінуў яго ў Агату.

– Свенты паньсцы! Ды што ж гэта такоя-а! – залямантавала старая.

– А каб цябе, нячысцік, так д'яблы елі, як ты майго парсючка еў... А каб ты, падлюка, стуль зваліўся!

Вятох затузаўся ўваччу. Прараб Антановіч, які дагэтуль ляжаў на месяцы і піў нагбом з вялікай бутлі, паволі з'ехаў па лязе смарагдавага серпіка, выпусціў з рук бутлю, кулём паляцеў долу.

– Ага-а! Зваліўся! Вось табе! А ці будзеш?! – закрычаў дзед Яўхім і, прыкмеціўшы месца, куды зваліўся прараб, заліўся бязгучным смехам.

# Яша

Над галавою мерна лапаціць дождж, адзін з тых спорных халаднаватых дажджоў, на якія багатыя жнівеньскія адвячоркі. Яша спіць, і душа ягоная, зануpаная ў мроіва аднастайнага лопату, поўніцца шчымліва знаёмымі зыкамі, кволымі пахамі нечага даўно забытага, і час паволі цячэ, падаючы рэдкімі кроплямі з набрынялай столі кардонавай хаткі.

Яшу сніцца лес.

Ён ляціць у вечаровым прыцемку, і пад лёгкімі крыламі ягонымі шумяць, уваскрашаючы маладосць, кроны магутных хваін. Похапы ветрыку б'юць у крылы, збіваюць з лёту, але ён упарта прастуе да ўзлеску, туды, дзе займаецца барва далёкай палымніцы, дзе далягляд азораны агнямі.

Агні тыя запальвае вялікі горад.

Россыпы зыркіх, вясёлкава-мігатлівых зярнятак вабяць сваёй недатыкальнай прыгажосцю. Яму карціць паляцець за небакрай, сабраць іх да адной і перанесці сюды, у цёмны, пахмурны лес...

На дзюбу, развейваючы соннае мроіва, падае кропля. Яша прачынаецца, пераступае з лапкі на лапку і, схаваўшы дзюбу пад крыло, ізноў зводзіць павекі.

... Жыццё Яшава прайшло на ўскрайку векавога бору. Недзе там, у недасяжнай хворым крылам далечы, буцвее на хісткай вілаваціне яго радавое котлішча. Там, на вершаліне высознай, аблепленай шэрымі лапікамі лішая хваіне, ён упершыню захлынуўся соладам ляснога паветра, упершыню ўбачыў весняе, да плям увач-

чу, зыркае сонца, тамсама, на ўзлеску, яму лёсіла сустрэцца з людзьмі.

Людзі, гэтыя загадкавыя стварэнні, у якіх замест крылаў былі рукі, а замест лапак – літыя гумовікі, пачасту наведвалі ўзлессе. Яны прыходзілі туды невялічкімі чародкамі, пілі нагбом з вялікіх бутляў, а наталіўшы смагу, аб нечым гучна каркалі. Па іхніх бяседах заставалася процьма рознай спажывы, таму здавён замілавала ўзлессе, а кроны навакольптаства ных дрэў былі густа закіданыя калматымі кучмамі гнездавін.

Жаўтаротым пташуком ён любіў слухаць бязладныя людскія размовы і, паколькі быў надзвычай здольны, ужо на сконе сёмага лета пачаў разумець чалавечую мову. Ён быў вельмі ўражаны, даведаўшыся, што ў людзей з узлеску таксама былі ворагі. Ворагамі тымі былі жонкі. Жонкі ўяўляліся яму страхотлівымі лісіцамі, якія сядзелі на дрэвах, пільнавалі людзей, а згледзеўшы якога чалавека, кідаліся таму на голаў. Прыхоўваючы страх, людзі распавядалі аб крыважэрных лісіцах розныя вясёлыя показкі. Галоўным апавядальнікам быў каржакаваты дзядзька з плехам, які траха не штодня з'яўляўся на ўзлеску і ад якога, як казалі, збеглі, падкурчыўшы хвасты, аж чатыры жонкі. Крумкач захоплена слухаў аповяды, уздрыгваў ад выбухаў раскацістага рогату, і яму праглася хоць нечым быць подобным да хаўрабрага дзядзькі.

Аднойчы пагоднай познавосеньскай парою, той чароўнай парою, калі лясную вусціш парушалі толькі шэрх апалых лісцяў ды звон халодных кропель расы, ён завітаў на ўзлесак. Над радзімаю старонкай лунала журботная песня; чуўся бразгат шклянак, задаволенае крэканне, і чалавечы важак, згледзеўшы яго ў высокім небе, махнуў рукой і весела гракнуў:

– Гэй, варона, давай да нас... нальём!

Падзяліўшыся на пары, людзі спявалі, кляношыліся

адно аднаму ў адданасці і па старой звычцы, лаялі прараба. Зводдаль, ля куста пажоўклай шыпшыны, ён убачыў і старога знаёмца – каржакаватага дзядзьку з плехам. Знаёмец, які ўвесь час з нецярплівасцю пераступаў з нагі на нагу, неўзабаве хіснуўся, роспачна замахаў рукамі, намагаючыся, як бачна, узляцець, і кулём паляцеў у шыпшыннік.

– Трымайся, Лёха! – гукнуў важак, і чарада зноў зарагатала. Маладому крумкачу было да болю шкада бяскрылага чалавека, таму, падляцеўшы бліжэй да куста, ён таксама гракнуў:

– Лёха, трымайся!

Дзядзька падняўся на ногі, неяк дзіўна павёў вачамі і, выгукнуўшы штосьці няўцямнае, шпурнуў недапітую бутэльку. Страшны ўдар падхапіў, сыпануў у птушыныя вочы жменю зыркіх іскраў, закруціў у гарачкавым каламутным віры. Ужо непрытомны, крумкач адчайна распасцёр крылы, прачыкільгікаў на перабітай лапцы, ратуючыся ад нясцерпнага болю, і,зачапіўшыся за нешта, распластаўся на мяккім, халаднавата-расяным шыльніку. У вушах яшчэ гучала гамонка, спевы, потым усё сціхла, і душу спавіло гарачае млоснае забыццё.

Крумкач ачуўся на золку. Абапіраючыся на здаровае крыло, ён дацягнуўся да збуцвелага грыба, у брыльку якога сабралася кропля вільгаці, і, каўтнуўшы гаючага халадку, слёзна паглядзеў угору. На бэзавым купале сусвету згасалі зоркі. Зоркі цьмянелі, аддаляліся, і вось апошняя з іх астылаю ясачкаю знікла ў бездані чорнага неба. Разам з зоркамі згасала і крумкачовае жыццё.

Сон на імгненне абрываецца, свядомасць цёплаю хваляй падкочваецца да сэрца і, дыхнуўшы пошумам залевы, незваротна адступае. Галава кружыцца ад незнаёмых пахаў, сляпучага святла, ад пякельнай болесці, што распаленаю дзідаю працінае істоту.

Ён спрабуе паварушыцца.

– Сядзі, сядзі, а то крыва зрасцецца, – гучыць над галавой, і крумкач сцішваецца, безуважна пазіраючы, як цёплыя чалавечыя пальцы абкручваюць лапку анучкаю. Пехта вялікі і белы стаіць збоку, лашчыць яго, потым адыходзіць, і недзе зусім побач цурчыць вада.

– Ну, хлопцы, забірайце свайго крумкача!

Купка маленькіх людзей упырхвае ў пакой.

– Дык, кажаце, на экскурсіі знайшлі? – чалавек у белым выцірае рукі касматым ручніком.

– На экскурсіі, у лесе! – бязладна гамоніць чародка.

– Ляжаў і не варушыўся, толькі сэрца білася. Ну, мы яго адразу сюды, на ветпункт, – адказаў за ўсіх рухавы белагаловы хлапчук.

– Гэта вы добра зрабілі, – вусны чалавека кранула ўсмешка. – Памятаю, калі я вучыўся, у нас таксама крумкач быў – Яшам звалі. Час, ведаеце, цяжкі быў, па вайне адразу, але мы Яшу не крыўдзілі, нават булкамі частавалі.

Сказаўшы так, ён глыбока ўздыхнуў, прыгадваючы штосьці, і, выцягнуўшы хусцінку, таропка працёр шкельцы акуляраў.

– І мы Яшу не дамо ў крыўду! – грымнула чародка, а крумкач, сабраўшы рэшткі сіл, удзячна гракнуў у адказ.

Так пачалося ў Яшы гарадское жыццё.

Бясконцымі гадзінамі ён сядзеў на фарбаваным пні і глядзеў на выцвілы лапік далёкага неба. Маленькі, аблямаваны зіхотка-шараю намаразззю лапік той быў адзінаю повяззю з былым светам, вялікім і чароўным светам, зведаць і абляцець які не хапіла б і крумкачовага жыцця і які цяпер ператварыўся раптам у задушлівы, хоць высалапі язык, катух. Катух меў гучную назву „жывы куток" і быў апошнім прытулкам аблез-

лай вавёрцы, гарапашнаму вожыку, двум хамякам ды нейкім стракатым птушкам, якім у клетцы было даспадобы і якія несупынна цвыркалі, радуючыся ўежнаму жыццю. Ад гэтага цвыркання ў крумкача часта балела галава, і тады ён гучна гракаў, заклікаючы цвыркуноў аціхнуць.

Але каго Яша незалюбіў па-сапраўднаму, дык гэта рабацiністую цётку, што раз-поразу з'яўлялася ў кутку, абкружаная збоем першакласнікаў.

З'яўленні гэтыя называліся экскурсіямі.

– Ой, як яны расшчабяталіся, – яшчэ ад дзвярэй звягала цётка, а ў крумкача ад таго воклічу, прынамсі, на тыдзень знікаў смак да едзіва. Падкаціўшы да клеткі, цётка кідала стракатым недарэкам жменю зярнят і, павёўшы рабацiністым носам, пачынала:

– Гэтыя прыгожыя птушкі, дзеці, называюцца канарэйкамі і жывуць на далёкіх Канарскіх астравах. Вы чулі, як яны спяваюць?

– Чулі, – хорам адказвалі вучні, і цётка задаволена ківала.

– Самец і саміца, дзеці, розняцца па экстэр'еры. Вось бачыце, у самца спінка зялёная, а грудка жоўтая.

Яна прапіхвала між прэнтаў доўгі кій, паказваючы на перапуджанага самца, а вучні выцягвалі шыі, намагаючыся ўбачыць экстэр'ер.

Ад канарэек выправа ішла да фарбаванага пня.

– А гэта, – доўгі кій тыцкаў крумкачу ў дзюбу, – усім нам вядомы крумкач. Крумкачы, дзеці, птушкі неперабарлівыя, таму ўзімку іх можна сустрэць на сметніках ды памыйніцах.

На хвілю цётка перапынялася, чухала кіем свой нос, пасля чаго шурпаты голас ізноў казытаў крумкачовыя нервы.

– Птушкі гэтыя – вялікія аматары бліскучых цацак. Вось глядзіце... – Рука з залатымі пярсцёнкамі блізілася да вачэй, і Яша хапаў цётку за палец.

– Крумкачы, дзеці, цягнуць у гнёзды літаральна ўсё, што зіхціць: грошы, пацеркі, пярсцёнкі, кавалкі шкла. Аднойчы нават бачылі крумкача з кухонным нажом у дзюбе...

Яша паныла апускаў галаву і больш не слухаў цётчынай балбатні.

Аднаго разу цётка прывяла на экскурсію кучаравага даўгялу ў спартыўным гарнітуры. Даўгяла, несучы перад сабою цяжкую чорную скрыню, крадком зайшоў у куток і, замест таго каб ісці глядзець канарэек, роспачна замармытаў:

– Глаша, я больш так не магу... Я заб'ю яго!

– Каго, Абакумчык? – азвалася цётка, прымаючы з рук наведніка скрыню і ставячы яе на стол.

– Твайго мужа!

Рабацінiстая залілася дробным смехам, а Яша, якому паводзіны экскурсанта падаліся падазронымі, тым часам гучна гракнуў.

Даўгяла, што ўткнуўся быў носам ў цётчыную шыю, спуджаным пеўнем матлянуўся да дзвярэй.

– Супакойся, Абакумчык, нікога не бойся! – спеўна прамовіла цётка і, укруціўшы ў скрыню аркуш паперы, запытала: – Дык што, у аблана накіроўваем?

Неўзабаве яна замалаціла пальцамі па клавішах, а яе сябрук, правёўшы рукою па мокрым лабешніку, пачаў мераць катух ашчадным крокам, дыктуючы дзіўныя аповяды пра маральную няўстойлівасць дырэктара школы.

Зрэдку катух наведвалі Пецька з дружбакамі. Гэта ён, белагаловы Пецька, знайшоў яго тады на ўзлессі. Убачыўшы сяброў, Яша лапатаў здаровым крылом і штосілы гракаў:

– Прывітанне, хлопцы!

Хлопцы лашчылі яго, частавалі пражаным гарохам і хвалілі за кемлівасць.

„Што кемлівасць,калі не ўмею гаманіць па-людску”,

– са скрухаю думаў крумкач і, скончыўшы з пачастункам, браўся за вывучэнне чалавечай мовы.

– Яша, скажы: „Карл у Клары ўкраў каралі...” Ну!

Ён чысціў дзюбу і гучна паўтараў: – Каррл!

– Карл! Укккрал!

– Карл! Украў!

Цёплае сакавіцкае сонца, зарапад кропель-знічак, што ляціць з высокіх капяжоў, і вясёлы смех дзятвы поўніць крумкачовую душу нясцерпнаю радасцю.

– Гляньце, Яша на фортцы! Яша, ляці да нас!

Срэбразычны званок працінае дрыготкае паветра і, паблукаўшы ў закутках двара, ляціць у высокі блакіт. Забыўшыся пра ўрокі, вучні зачаравана глядзяць на адчыненую фортку, і, калі Яша саслізгвае долу, школьны двор скаланае магутнае „ура!”.

Крыло страшэнна шчыміць, але ён не чуе болю.

– Карл! Украў! – галёкае крумкач. Яму вельмі хочацца, каб людзі зразумелі яго, зразумелі, якое гэта вялікае шчасце – вырвацца з задушнага катуха, распасцерці крылы і палядець над весняю зямлёю.

Ненароджаны крык пераняў дыханне, і Яша прачнуўся. Колькі часу ён сядзеў з прыплюшчанымі вачамі і слухаў дрымотную цішу, у нетрах якой нараджаліся сумныя, цягуткія, як ліпеньская жывіца, зыкі, – гэта ціўкалі, сарваўшыся са змакрэлай столі, кроплі нядаўняе залевы. Знадворку дождж даўно аціх, а тут, у кардонавай скрыні, што тулілася на даху школьных майстэрань, усцяж крапала. Расплюшчыўшы вочы, Яша выпрастаў знямелую лапку, пацягнуўся і нетаропка выйшаў з хаткі.

Гмах школы, чорны, падобны да вялізнай жывёлы, глядзеў у ноч адзіным асветленым вакном, у жоўтай яснасці якога рухавай зрэнкай варушылася нечая постаць. Крумкач падляцеў да вакна, скочыў на падваконне і толькі тады пазнаў дырэктара – той сядзеў пры

стале і па старой завядзёнцы вадзіў рукою па белай паперыне. Святло выхоплівала з цемры вялізны партфель, які стаяў ля сцяны, і Яша, падумаўшы між іншым, што ў партфелі можа ляжаць што-небудзь смачнае, з нецярплівасцю пастукаў у шыбу. Адарваўшыся ад папер, дырэктар зірнуў цераз плячук.

– Чаго, Якубе, не спіш, людзей пужаеш? – запытаўся ён праз хвіліну, бразнуўшы просвамі.

Крумкач скочыў у адчыненае вакно, вінавата азірнуў кабінет.

– Згаладнеў? – дырэктар пасміхнуўся і ляпнуў па кішэні, шукаючы якіх крыхотак. – Не сядзелася ў „жывым кутку"... Збег... Даканала, пэўна, Глафіра Ягораўна?

Яша кіўнуў дзюбаю.

– Нічога, браце, не цябе аднаго, – тым часам кабінет напоўнілі дзіўныя звінючыя зыкі, і дырэктар, кінуўшы кароткае „Нарэшце!", рушыў да тэлефона.

–Пятро?! Гэта я, Іван, – гукнуў ён праз хвілю, прыціскаючы да вуха тэлефонную трубку. – Выбачай, што так позна, удзень да цябе не датэлефанавацца,– дырэктар пацёр далонню грудзіну.

– Карацей, я напісаў заяву... – у гэты момант тэлефонная трубка незадаволена зумкнула. – Так-так... Аб сыходзе на пенсію, – гэтым разам у трубцы штосьці зарыпела, і яна ізноў азвалася працяглым зумканнем. – Нават не тыя ідыёцкія ананімкі вінаватыя. Папросту я стаміўся – кажу гэта табе не як загадчыку аблана, а як сябру... І прашу цябе, не трэба нікуды пісаць...

Намагаючыся ўцяміць, з кім гэта дырэктар размаўляе ў пустым кабінеце, Яша скочыў на стол і, умасціўшыся на мініяцюрным бюсце педагога Ушынскага, занурыў дзюбу ў нейкую цёмную вадкасць.

– Кінь пэцкаць паперу! Прэч ад стала! – прыціскаючы трубку плячом, дырэктар схапіў крылатага дуроніка і кінуў яго на падлогу.

– Прабач, гэта не табе. Гэта я тут... з адным таварышам. Ну, дык як, прыедзеш? – пачаў быў дырэктар акрыялым голасам, але Яша ізноў з'явіўся на чарнільным прыборы.

– Ваня! Што там у цябе? – зумкала пакінутая трубка, пакуль дырэктар лавіў Яшу і зачыняў вакно.

Калі ж размоўца прыцiснуў, нарэшце, трубку да вуха і задыхана выгукнуў „Алё", абанент даверна і з разуменнем справы запытаўся:

– Жанчына?

У наступнае імгненне трубка жаночым голасам загадала:

– Канчайце! – і азвалася кароткімі, рашуча нецярплівымі гудкамі.

Больш за ўсё на свеце Яша любіў сонечныя ранкі. Яшчэ зацемна ён узлятаў на школьны дах і адтуль, з верхавіны тэлевізійнай антэны, назіраў, як ружавее ўсход, як сонца, працяўшы неба гострымі дзідамі промняў, павольі ўздымаецца над небасхілам. А яшчэ ён любіў страчаць дзятву, якая штоpанку гаманкім натоўпам ішла на заняткі. Яша кружляў па-над іхнімі галовамі, голасна крумкаў, і дзятва адказвала яму радасным лямантам.

Але неўзабаве надышло лета, вучні з невядомай Яшу прычыны кінулі хадзіць на заняткі, і толькі сівы дырэктар па-ранейшаму ў адзін і той жа час спяшаў у школу. Згледзеўшы ягоную постаць, Яша ляцеў насустрач, ведаючы, што ў вялізным дырэктаравым партфелі заўсёды знойдзецца які-небудзь пачастунак.

Рэшту дарогі яны ішлі разам – крумкач падскокам шыбаваў да школьнага ганка, а следам, хаваючы ўсмешку ў сівыя вусы, цяжкою хадою ступаў пажылы чалавек.

Вось і гэтым ранкам Яша страчаў світанне, седзячы на верхавіне тэлевізійнай антэны. Наўкол было ціха: не

трымцела парыжэлай лістотаю гаманкая таполя, птушкі не ціўкалі ў застрэшцы, і нават нястомны гудзьбіт – тэлеграфны слуп не гудзеў, сцішыўшыся да часу, па самы верх зашыўшыся ў шары вэлюм ранішняе смугі. І ружавела неба на ўсходзе, і прасвецці між дрэваў поўніліся гарачым пунсам, і сонца, слізгануўшы па гонкіх, колеру адшараванай медзі, хваёвых ствалах, паволі ўздымалася над зубчастай выцінанкаю гарадскога лесапарку. Колькі бясконца доўгіх ценяў беглі за далягляд, над лазнева-пральным камбінатам узнялася аблачынка пары, і да саладжавага паху таполевай лістоты дамяшаўся ўстойлівы пах гомельскага мыла, выпетраных венікаў і польскай парфумы „Урода". І вось ужо дзесьці зарыпелі дзверы, у застрэшшы школьных майстэрань усчалі вэрхал маладыя вераб'і, а па гулкім, кранутым пяшчотнай ружавізнаю асфальце загрукаталі боты першага прахожага, які валок вялізны скрутак поліэтылену.

Яша ўзняўся ў паветра, крылы ягоныя з лёгкай радасцю разрэзалі празрыстае пахкае паветра, а сэрца крумкачовае зазвінела ад шчасця. Прагнучы падзяліцца гэтаю радасцю быцця з прахожым, ён плюхнуўся на даўжэзны скрутак і штосілы гракнуў: „Украў!"

– Кыш, каб цябе разарвалі! – тузануў дзядзька плечуком і так імпэтна страсянуў скрутак, што пацёрты капялюш зваліўся ў яго з галавы і, падхоплены ранішнім ветрыкам, пакаціўся ў бліжэйшую лужыну. Пераспелая цыбуліна сонца цьмяна адбілася ад дзядзькавага плеха, і Яша, пазнаўшы харобрага Лёху, роспачна кінуўся ў накірунку да лазні.

Блізу дзвюх гадзін крумкач сядзеў на лазенным коміне і чысціў з перапуду парадзелыя пёры. Невядома, колькі б ён яшчэ там адседзеў, калі б не пачуў раптам лагоднага дзіцячага смеху. Дзятва, што высыпала з пад'ездаў шэрага пяціпавярховіка, з клункамі, з пукамі кветак, гамузам рушыла па вуліцы.

„Куды гэта яны?" – збянтэжыўся быў Яша, але ў той жа момант убачыў сярод сціжмы вучнёўскіх галоў бялявую галаву сябра.

– Пеця! – гракнуў ён, зрываючыся з коміна.

– Яша! Яша прыляцеў! – грымнула дзятва, а крумкач, даўшы кругаля над вучнёўскаю сябрынай, скочыў на плячук шасцікласніка Бяляцкага.

– А нашай школе трыццаць гадоў! Нас будуць здымаць на тэлебачанне.

І Яша, які цэлае лета не бачыў сяброў, бліснуў пацеркамі вачанят і радасна залапатаў крыламі.

Над школьным дваром, у прадонні яшчэ цёплага неба, кружлялі танюткія павуцінкі. Яны вясёлкава зіхцелі на сонцы, здавалася, напята звінелі, а пачапіўшыся да святочна-белых стужак, казыталі шчаслівыя тварыкі першакласніц. Адна з павуцінак апавіла чорную дулю мікрафона, і, перш чым сказаць словы вітання, Глафіра Ягораўна з нейкім дзіўным спакоем цікавала за яе трымценнем.

Глафіра Ягораўна, жанчына энергічная і паважная, мела зычны голас, апрача таго, яна пісала вершы, якія друкавала ў раённай газеце, і таму адкрыць свята было даручана менавіта ёй.

Удыхнуўшы паветра, яна зірнула на свой адбітак у аб'ектыве тэлекамеры і ўсхвалявана прамовіла:

– Дарагія сябры! Перш чым даць слова нашым дарагім гасцям, – Глафіра Ягораўна няўзнак зірнула на загадчыка аблана, што прыехаў на свята, – я хачу прачытаць свой новы верш, які напісаўся сягоння ноччу і які прысвячаю трыццатай гадавіне нашай школы.

„Дарагія сябры" стаілі дых, павуцінка на мікрафоне ніца абвісла, баючыся нат зварухнуцца, а паэтка, кархануўшы ў жменю, пачала:

—Веру я, што пакажа прымер
Са шчаслівай зямлі піянер

І на крыллях стальных у прастор —
Узляціць да нязведаных зор...

Дзеля большай выразнасці паэтка ўзняла ўгору палец, і шыкоўны пярсцёнак-пячатка здрадліва бліснуў на сонцы. Праз хвілю, нібыта пацвярджаючы прароцтва, у небе суха залопалі крылы, а на галаву Глафіры Ягораўны абрынуўся вялізны крумкач. Уладкаваўшыся на кучме рудых валасоў, крумкач схапіў паэтку за выстаўлены палец.

— Пакарыцца яму далячынь... —

ікліва прашаптала Глафіра Ягораўна і паволі асела долу.

Зрабіўшы сваю справу, разбойнік пераляцеў на мікрафонны старчак, незадаволена гракнуў, і Яшаў крык громам нябесным пракаціўся па наваколлі.

Паэтку падхапілі, ахвяравалі насоўку, пырснулі ў твар вады.

„А гэта правал", — з разважлівасцю, вартай Ісаева-Шцірліца, падумаў дырэктар і, каб хоць нечым улагодзіць сітуацыю, махнуў аркестру.

Аркестр падшэфнай цеплаэлектрацэнтралі ўрэзаў туш. Музыкі адчайна дзьмулі ў трубы, бубнач лупіў булавешкаю так натхнёна, што паласатая кепурка на музыкавай патыліцы пайшла ў скокі, але ніякія тушы не маглі заглушыць выбухаў здаровага дзіцячага рогату.

Пад час апошняга ўрока Яша сядзеў на школьным даху і з неадчэпнаю думкаю пра харч чысціў пёры. Ён ужо збіраўся быў зляцець долу, як у будцы, дзе мясціўся паддашкавы люк, бразнула засаўка і нехта няўцямна замармытаў. Неўзабаве века ўзнялося, і Яша ўбачыў выкладчыка беларускай мовы і фізкультуры Абакумчыка. Вылезшы з будкі, Серафім Януаравіч абабіў калашыны і заклапочана глянуў на кардонавую скрыню.

– Прывітанне! – ужо ў паветры гракнуў Яша, падлятаючы да госця.

Госць пужліва падскочыў і, дастаўшы з кішэні акраец здобнай булкі, расцісну мякіш.

– Еш, еш, – шчыра шапянуў Серафім Януаравіч, скідваючы свой гаматны, запэцканы ў пабелку, пінжак.

Лямант захрас у глотцы разам з крыхоткамі здобнай булкі. Яша торгаўся, тузаўся, драпаўся, але марна.

– Сядзі, сядзі! – адлётаўся, – прагучала ля вуха, і ён сцішыўся, намёртва апавіты мадняцкім крымпленавым пінжаком.

А потым было пекла – цёмны, навылёт прасмярдзелы бензінам і паленаю гумаю, закутак. Тут, у закутку, яго страшэнна трэсла, шпурляла на ўсе бакі, па дне закутка ўсцяж перакочваліся нейкія пляшкі і даводзілася пераскакваць праз іх, стукаючыся патыліцай аб нізкую столь. Стукнуўшыся разоў дваццаць, ён страціў прытомнасць і ўжо бесклапотна качаўся па пекле ў абдымку з пустымі бутэлькамі.

Да жыцця яго вярнуў глыток свежага паветра. Апрытомнеўшы, Яша адчуў, што ляціць дагары нагамі, і, не паспеўшы распасцерці крылы, ляснуўся вобзем. Ён паспрабаваў устаць, але не здолеў – галава гула і круцілася, не раўнуючы як заведзены жэўжык.

Услед яму з багажніка паляцелі нейкія брудныя шматкі, кавалкі „Настаўніцкай газеты” і пабітая піўная бутэлька, якая, цьмяна бліснуўшы на сонцы, мякка чвякнула ў прыдарожны жвір.

Бразнуўшы вечкам, Серафім Януаравіч ускочыў у легкавік. Хвіліна, і чырвоны „жыгуль”, дыхнуўшы бензінавым гарам, знік за павароткаю наезджанай вясковай дарогі.

Прайшлі два доўгія месяцы.

Пасля аблрожных дажджоў, якім, здавалася, не будзе канца, выдарыўся смужны святочны зазімак.

Зямля за ноч падсохла, плыткія лужыны зацягнуў лядок, і заняткі па фізкультуры вырашылі правесці на стадыёне.

Парна дыхаючы стылым паветрам, вучні выбеглі таго ранку на шэрхлую сцяжыну, а Серафім Януаравіч з насалодаю дзьмухнуў у свісток.

– Два кругі, высока ўзнімаючы калені! – гукнуў выкладчык і пляснуў у далоні.

Шасцікласнікі рынулі па крузе, але Пецька Бяляцкі, які бег першы, неўзабаве спыніўся: наперадзе, на другім канцы стадыёна, клыпаў, прыпадаючы на хворую лапку, вялікі крумкач.

– Яша! – насцярожліва, каб не спудзіць кволую надзею, вымавіў Пецька, і ў адказ яму крумкач праступджана крахтануў: „Карл! Украў!"

Серафім Януаравіч дзьмухнуў у свістульку, але пералівісты і дагэтуль уладны пошчак патануў у радасным ляманце:

– Яша прыляцеў! Яша вярнуўся!

У прыцемку класных пакояў пазначыліся невыразныя тварыкі. Светлымі плямамі яны пакрылі шарыя школьныя вокны. Падышоў да вакна і дырэктар. Зірнуўшы на двор, ён убачыў бязладны натоўп, які бег ад стадыёна, а наперадзе, на галаве ў шасцікласніка Бяляцкага сядзеў і махаў крыламі неўмiручы разбойнік. Сэрца дырэктарава пахаладзела. Ён падбег да вешалкі, ірвануў паліто, рашуча нацубіў капялюш і, толькі схапіўшыся за ручку дзвярэй, ачуўся.

– Яша прыляцеў! Яша вярнуўся! – грымела па калідорах, а падлога прыкметна зыбалася ад дружнага тупату. Дзверы нечакана падаліся, і перад вачыма паўстаў спалатнелы Серафім Януаравіч.

– Іван Пятровіч... там... зноў гэты... – задыхана пачаў выкладчык, але дырэктар не даслухаў. Павярнуўшыся, ён паволі пайшоў да вакна.

Школьны двор віраваў. Вучні скакалі, свісталі, падкідвалі ўгору шапкі і стогалоса крычалі:

– Яша прыляцеў! Яша вярнуўся!

Івану Пятровічу раптам да свербу ў пятках захацелася пабегчы на двор, пасадзіць на голаў Яшу і, дыхнуўшы на поўныя грудзі, засвістаць, як калісь, у чатыры пальцы. Ён зняў з галавы капялюш, правёў далонню па рэштках сівых валасоў і ўпершыню за апошнія месяцы голасна засмяяўся.

# Час камара

— Напішы ж, як там, на тым курорце, — настаўляў дзед Базыль свайго ўнука, трыццацідвухгадовага нежанатага маладзёна.

Унук баднуў галавой, паабяцаўшы гэткім чынам напісаць, і падняў з зямлі напакаваную валізу.

— Ты гэта вось што... — старэчыя пальцы ўхапіліся за рукаў, прабеглі па штрыфелях пінжака і, не надумаўшы нічога лепшага, піхнулі за пазуху ўнуку пачак крамнай махоркі.

— Ды што ты, дзеду... у мяне ж цыгарэты.

— Бяры, бяры. Закурыш мо калі, мяне, старога, успомніш, — дзед Базыль закашляўся, таропка змахнуў расстайную слязіну.

— Ну, дзеду... Ну што ты... Хутка зноў прыеду, — унук вінавата азірнуўся на перапоўнены „пазік", ляпнуў дзеда па плячы, маўляў, мацуйся, стары, і подбегам рушыў да аўтобуса.

— Вось як, без маткі, без бацькі, а вырас... інстытут скончыў... хату дзеду перакрыў, — скрозь слёзы прамовіў стары, і вясковыя жанкі, што стаялі на супынку, спачувальна кіўнулі галовамі.

Чэрвеньская ноч дыхнула водарам бэзу і саладжавым смуродам нагрэтага асфальту. Расчыніўшы вакно, Янка сеў на падваконне і з нейкім дзіўным зачараваннем зірнуў на барвовы, пакрэслены асверамі вежавых кранаў, далягляд. Там, у самым прадонні згуслай барвовасці плыла, мільгаючы белым святлом, жарынка далёкага самалёта. Хлопец праводзіў яе позіркам і з

ціхай радасцю падумаў, што да адпачынку засталося дванаццаць дзён. Мінуць два тыдні, і ён, ператварыўшыся ў гэткую ж міргатлівую зорку, паляціць у начным бязмежжы насустрач цёпламу мору. Узрушаны такім ператварэннем, ён правёў далонню па сцягне – ці не знойдзецца дзе цыгарэта і ў тую ж хвіліну згадаў пра дзедаву махорку.

Пяршывы махорачны дым перацяў дыханне. Янка выгаліў вочы, астматычна-доўга кашляў, пасля чаго кінуў недакурак у разнасцежанае вакно і паваліўся на ложак. Колькі часу ён ляжаў незварушна, слухаў начную цішу, і шчымлівыя, па-дзіцячы светлыя думкі поўнілі ягоную галаву.

„Усе ж такі паважае мяне Пятровіч, – кранула Януковыя вусны лагодная ўсмешка, – вунь і шыферу дапамог дастаць, і пуцёўку ў прафкаме выбіў. А на пуцёўку тую сама Фановіч мерылася".

Бліснуўшы вачыма, начны летуценнік закінуў за галаў спрацаваныя рукі (за выхадныя ён перакрыў дзедаву хату шыферам) і неўзабаве пачуў ля вуха дакучлівае камарынае зумканне. Хлопец ляпнуў сабе поўху, у вуху зазвінела яшчэ натужлівей, а камар тым часам заказытаў ля скроні.

Праз паўгадзіны летуценнік вылез з-пад коўдры, запаліў у пакоі святло і, схапіўшы са стала бібліятэчнага Друона, пачаў шалёна лупіць ім па сценах, пазначаючы жоўтыя інтэрнацкія шпалеры брудна-чырвонымі плямамі расціснутых камароў.

На світанні ён заснуў трывожным замарачным сном.

Майстар цэха алюмініевага ліцця Іван Вікенцьевіч Пузік быў таго ранку не ў гуморы. Махнуўшы рукою кранаўшчыцы Зіне, якая па старой звычцы вітала яго званком з верхатуры, майстра спыніўся ля печы Станіслава Бабронка. Сам Бабронак, васемнаццацігадовы абібок з цяжкім лёсам, якога прыслалі ў цэх на перавы-

хаванне, ляжаў на скрыні з чэхаславацкай аўтаматыкай і пускаў колцы тытунёвага дыму.

– Бабронак, што гэта такое? – майстар кіўнуў на аблітую застылым металам печ.

– З начной пакінулі, – падаў голас выхаванец калоніі, з цяжкасцю падымаючыся на ногі.

Майстар зазірнуў у вагранку: печ дыхала пякельнай гарачынёю, а расплаўлены алюміній пакрываўся ўжо шараю плеўкай.

– Чаму зліткі не кідаеш, метал стыне?!

Бабронак узяў у рукі манціроўку, тыцнуў ёю ў паветра, паказваючы некуды ў канец цэха, і з неахвотаю пачаў аббіваць застылыя рагі.

Прымружыўшы вочы, майстар галасна вылаяўся: адзіны цэхавы электракар стаяў упоперак праезду, а ля яго, бліскаючы ў неонавым святле вялізным плехам, шчыраваў кіроўца Струк.

– Што, лысая галава, зноў паламаўся? – яшчэ здаля крыкнуў Пузік.

– Зноў, каб на яго, – Струк падняў свой вінавата-замурзаны твар і, азірнуўшыся, сцішана дадаў: – Вас тут Фановіч шукала.

... Начальнік аддзела навуковай арганізацыі працы сядзела ў Януковым „кабінеце" – адгароджаным фанераю катуху і, чухаючы за вухам вязальным прутком, гартала зменны журнал. Муза Андрэеўна Фановіч, жанчына магутнага целаскладу і волатаўскага здароўя, была жывым увасабленнем грамадзянскай смеласці і прынцыповасці. Прынамсі, так яе характарызавалі на заводскіх прафсаюзных сходах. Праўда, пры гэтым шмат хто ў душы пасмейваўся з Музы Андрэеўны, з яе, як казалі, „дэмагагічнага імпэту", але тым, хто ставаў на яе шляху, было потым не да смеху. Насупраць Музы Андрэеўны, заслаўшы газецінай закураны ўслон, сядзела кволая дзяўчына, якую Янка бачыў упершыню і

якая з невядомай прычыны трымала ў руцэ секундамер.

Не адказаўшы на дабрыдзень, Муза Андрэеўна цэлую хвіліну вывучала пакусаны твар Івана Вікенцьевіча.

– Вы што, таварыш Пузік, заўсёды спазняецеся...

– На чатыры хвіліны, – цёхкнула тым разам дзяўчына, гучна пстрыкнуўшы секундамерам.

Янка прыклаў руку да сэрца...

– Свае тлумачэнні дасце ў пісьмовым выглядзе, а зараз адкажыце, чаму вас зноў не было на семінары эканамічнай адукацыі? – Фановіч ускочыла з лавы, абышла стол і, дыхнуўшы пахам часнаку і парфумы, усутыч падышла да майстра.

– Замест таго каб быць прыкладам у дысцыпліне, вы, таварыш Пузік, яе свядома руйнуеце. Гледзячы на вас, кінулі наведваць семінар і маладыя спецыялісты. Такім чынам, гэта з вашай, – Фановіч узрушана патрэсла вязальным прутком, – з вашай, таварыш Пузік, ініцыятывы ў пятніцу былі сарваныя чарговыя заняткі.

– Няма часу хадзіць на тыя семінары. Працую на два ўчасткі, з планам завал, – голас майстра дрыжэў і зрываўся.

– Час, таварыш Пузік, трэба ўшчыльняць, сціскаць, як спружыну, – Фановіч звяла растапыраныя пальцы, паказваючы, як трэба сціскаць спружыну часу.

– У вас таму і з планам завал, што не прадумана арганізацыя працы. Але мы вам дапаможам, – у голасе Фановіч пазначыліся лагодныя ноткі.

– Мой аддзел сумесна з сацыялагічнаю лабараторыяй завода вырашыў правесці эксперымент – даследаваць работу майстра і выпрацаваць пэўныя рэкамендацыі. Жанна, – Фановіч кіўнула на кволую дзяўчыну, – наш малады сацыёлаг, правядзе сёння хранаметраж вашага працоўнага часу.

„Праз пуцёўку лютуе”, – змрочна падумаў майстар

і на самыя вочы нацубіў свой дзіравы ад прапалін берэт.

– Што, Пузік, нарматывы здаеш? – крыкнуў нехта з тэхнолагаў, і вясёлы рогат заглушыў на момант натужлівае сыканне прэсаў. Янка ўтуліў голаў у плечы і паскорыў крок. Услед яму, трымаючы ў выцягнутай руцэ секундамер, трухала малады сацыёлаг Жанна.

– Што ж, так і будзеце за мною хадзіць? – не вытрымаў нарэшце майстар, калі яны падышлі да галоўнага склада.

Замест адказу сацыёлаг пагрозліва пстрыкнула секундамерам.

– Цяжкая жанчына, – уголас зазначыў майстар і, пхнуўшы непадатлівыя дзверы, занурыўся ў вохкі прыцемак заводскага склада.

Аляксандр Карымавіч Якубовіч, знакаміты балака і весялун, стаяў ля шпулі кабелю і, кідаючы дапытлівыя позіркі на столь, запаўняў накладныя.

– А-а! Янка! Зноў без транспарту? – потная жменя кладаўшчыка сціснула цэўку рукі. – Што гэта вы, таварыш Пузік, такі невясёлы? Не інакш, – кладаўшчык шматзначна пачухаў квадратны кадык, – вырашалі праблему прэс-астатка?

Янка кісла пасміхнуўся. Пасля артыкула „Бяссонныя ночы рацыяналізатара”, што з’явіўся ў заводскай шматтыражцы, жарт гэты ён чуў ад кожнага стрэчнага.

– Усё, Карымавіч, завязаў, – Янка пашукаў вачыма аўтакар.

– Ды не спяшайся ты... Як кажуць на Капыльшчыне, – Якубовіч выцягнуў з кішэні пачак „Мальбара”, – усіх спраў не пераробіш. Ты, дарэчы, анекдот пра мойву чуў?

– Тс-с-с! – Янка прыклаў да вуснаў закарузлы палец. – Нас падслухоўваюць!

– Хто?! – Чорныя вочкі Якубовіча хваравіта пашырыліся.

– Фановіч падаслала! – прашаптаў майстар і паказаў вачыма на сацыёлага Жанну, якая стаяла ля стэлажоў з запчасткамі, штосьці рупліва занатоўваючы ў памінальніку.

Кладаўшчык выпусціў з рук запальнічку, шалёнай віхурай кінуўся да аўтакара. Падагнаўшы транспарт, ён падчапіў скрыню з алюмініевымі зліткамі, ускінуў наверх зэканомленую бочку салідолу, якім на ўчастку змазвалі прэс-формы, і выехаў на двор.

– Прайдзісвет! – каротка выгукнуў Янка. Азірнуўшы склад і прыхапіўшы з сабою кавалак пяньковай вяроўчыны – у гаспадарцы прыдасца, майстар рушыў следам.

Сонца, па-чэрвеньску пранізлівае і гарачае, глянула з-за аблокаў, крануўшы трапяткое Янкава сэрца. Сонца! Колькі яго будзе там, на далёкім нязнаным Поўдні! Янка ішоў па заводскім двары, а ў вачах ягоных мітусіліся водбліскі нябесна-сініх хваль, зіхцелі нечапанай беллю хлапякі марской пены і мяккім, празрыста-бурштынавым святлом свяціліся валаскі на стройных нагах прыгажуні, якую ён абавязкова сустрэне. Здавалася, ён чуў яе голас, голас чароўнай незнаёмкі, які звонка і чыста гучаў сярод шуму прыбою.

– Таварыш Пузік!– дробны цокат туфлікаў за спінаю вярнуў летуценніка да жыцця. – Вы не маглі б ісці павольней? – сацыёлаг парывіста дыхала, а металічная цыкада ў яе ў руцэ ўсё гэтак жа абыякава стракацела, лічачы працоўныя хвіліны.

– Добры ў вас хранометр, – заўважыў майстар.

– Японскі, – гукнула ў адказ сацыёлаг, спатыкаючыся на выбоях цэментавай падлогі.

– Японскі? Вы былі ў Японіі?

– Ды не, гэта дзядуля...

– А ён у вас што... – майстар энергічна паторгаў локцямі, – спартовец?

Жанна акінула майстра зневажальным поглядам і ледзь чутна прамовіла:

– Мой дзядуля філосаф.

– А-а! Крадзе, значыцца, рацыянальнае зерне, – няўдала пажартаваў Янка і, кінуўшы неакрэсленае: – Памыю рукі, – знік неўзабаве за пашарпанымі дзвярыма курылкі.

Жанна засекла час. Выцягнуўшы з сумкі нарматыўны даведнік, яна пачала размашыста гартаць старонкі, шукаючы графу „Асабістыя патрэбы".

Янка разнасцежыў вакно. Да зямлі было метраў восем. З дапамогаю Бабронка, які тырчаў у курылцы, ён прывязаў вяроўку да батарэі і, папляваўшы на далоні, пачаў спуск. Усе, хто быў той хвіляй на заводскім двары, здзіўлена назіралі, як майстар Пузік з ліцейнага боўтаўся паміж небам і зямлёй.

– Ты што, звар'яцеў? – грымнуў нечы вясёлы голас.

– Звар'яцееш... з гэтым хрэнаметражом, – буркнуў майстар і, скокнуўшы на зямлю, стрымгалоў пабег на ўчастак.

Час, змарнаваны на асабістыя патрэбы, блізіўся да месячнай нормы. Хронаметрыстка Жанна стаяла ля пашарпаных дзвярэй і кідала падазроныя позіркі на рабацяг, што выходзілі з курылкі. Яна ўглядалася ў суровыя, кранутыя лёгкім пярэпалахам твары, але ні ў адным з іх не знаходзіла нават далёкай падабізны да блазнаватага і, як ёй падавалася, крыху дурнаватага твару Пузіка. Натоўп практыкантаў-пэтэвушнікаў шчыльным кальцом атачаў сацыёлага. Кудлатыя, у аднолькавых чорных камбінезонах, яны нагадвалі чарцянятаў, ды і жарцікі, якімі яны частавалі дзяўчыну, былі годныя хіба што самога Люцыпара. Шчокі дзявочыя гарэлі, як апараныя. Жанне карцела збегчы, збегчы

ад гэтых мурзатых чарцей, ад іхняга вар'яцкага рогату.І яна напэўна збегла б, каб не тая стрэмка неспакою, якая балюча вярэдзіла сэрца: „Што з ім, чаму ён не выходзіць?" Жанне прыгадалася смерць Кацярыны Вялікай, на памяць ёй прыйшлі вусцішныя кадры тэлевізійнага дэтэктыва, у якіх агент заходніх спецслужб спрабаваў засіліцца ў прыбіральні, і галавакружная, да млосьці жахлівая здагадка начной маланкаю высвеціла свядомасць – „Вяроўка! Так-так... пяньковая вяроўчына, якую ён прыхапіў са склада. Навошта яму вяроўка?". Развітальная ўсмешка Пузіка, мурзатыя твары пэтэвушнікаў, нязграбная літара „М" на дзвярах курылкі – усё змяшалася ўваччу, ператварылася ў адну вялікую размытую пляму.

– Таварышы! З майстрам Пузікам штосьці здарылася! Гадзіну таму ён пайшоў мыць рукі... – дрыготкі палец дзяўчыны паказаў на пашарпаныя дзверы, – і назад не вярнуўся!

Пэтэвушнікі выбухлі рогатам, і сярод гэтага гвалту чуйнае Жаннiна вуха ўлавіла голас самога Пузіка. Майстар бег па цэху, роспачна махаў рукамі, лаяў нейкага Бабронка.

Скупая, густа замяшаная на тушы слязінка збегла па дзявочай шчацэ і, пакінуўшы на ёй завілы след, упала на шкло японскага секундамера.

Насупраць прозвішча Бабронка майстар вывеў лічбу „35" і зірнуў на гадзіннік. Трэба было спяшацца – пасля змены яны ўсім цэхам вырашылі пайсці ў кіно. „Ці пойдзе кранаўшчыца Зіна?" – думка гэтая не давала пакою, і Янка, аблашчыўшы вачыма газетную выцінку з раскладам авіярэйсаў, якая ляжала пад шклом, рашуча падхапіўся на ногі.

– Што, зямеля, працуеш? – начальнік цэха Кім Пятровіч Жук, ці папросту Пятровіч, як звалі яго рабочыя, цяжкою хадою зайшоў у „кабінет"

– Як з планам?

– Ды як... Зноў Бабронак... – Янка ляпнуў далонню па зменным журнале. – 35 фланцаў за змену. І гэта пры норме 120. Не ведаю, што і рабіць з гэтым „выхаванцам".

– Ты мне лепей скажы, што з табою рабіць? – знянацку перабіў Пятровіч і, грымнуўшы ўслонам, сеў насупраць. – Толькі што ад дырэктара... Там на цябе прыйшла дакладная аж на пяці старонках. Руйнуеш дысцыпліну... Зрываеш палітычныя мерапрыемствы, – начальнік узняў на майстра стамлёныя вочы, – давёў да істэрыкі дачку адказнага работніка.

Да горла падступіў халодны камяк, і Янка адчуў раптам, што дыхае ўпоравень з цяжкімі ўздыхамі молата, які ажываў пасля кароткай перазменкі. „Дзесяць гадоў у гарачым цэху... Зацямненне ў лёгкіх... І вось табе, руйную дысцыпліну..."

– Не трэба тае пуцёўкі. Няхай едзе... адпачывае, – ціха прамовіў майстар і, не ведаючы, за што зачапіць дрыготкія рукі, выцягнуў пачак дзедавай махоркі.

Праз колькі хвілін, скруціўшы з газетнай выцінкі, што ляжала пад шклом, тоўстыя самакруткі, Янка з Пятровічам напоўнілі катух шызым махорачным дымам.

– Гэтую бабу абыходзь за кіламетр. Яе сам дырэктар баіцца, – сказаўшы так, Пятровіч бліснуў слязістым вокам і летуценна патрос галавой: – Не, віцебская махра была лепш.

Тлела цыгарка. Знікалі,ператвараліся ў попел газетныя радкі авіярэйсаў. Спачатку знік „Адлер", потым надышла чарга „Мінска", а чырвоная рыска, якая іх падкрэслівала, набывала, перад тым як згарэць, атрутна-зялёны колер. Янка зацягнуўся пяршывым дымам і, каб падтрымаць размову, безуважна прамовіў:

– Ад камароў дапамагае.

– Лютуе камарэча, ноччу няма паратунку. Але нічога, – майстар адчуў на сваім плечуку цяжкую руку Пятровіча, – перажывём!

– Перажывём, – кіўнуў той і, пляснуўшы па карку, забіў набрынялага крывёй камара.

Праз два тыдні, у апошні дзень гарачага і пыльнага чэрвеня, Янка Пузік прыехаў у родную вёску. Ён вылез з тлумнага „пазіка", удыхнуў на поўныя грудзі паветра і замёр на месцы: дзед Базыль стаяў на супынку, акурат там, дзе яны развіталіся ў мінулы раз, і глядзеў з-пад рукі на аўтобус. „Як ведаў, што прыеду", – падумаў расчулены ўнук і ў душы падзячыў Фановіч, якая паехала замест яго ў Сочы.

## Кантакт

Пульхнатая, кранутая лёгкай ружавізною аблачынка наплыла на сонца, у шары помрак агарнуўшы наваколле. Свет страціў свае калёры – не зіхцелі шыбы пасажырскага цягніка, шаты таполевых прысадаў, што атачалі прыстанцыйны пляц, таямніча спахмурнелі, сталі зусім цёмныя, і толькі статуі на гзымсе вакзала па-ранейшаму залаціліся, аблашчаныя касымі сонечнымі промнямі.

Адна з статуй – мажная жанчына з велізарным снапом – неўтаймавана-шчаслівымі вачыма глядзела некуды ў бок універмага, а яе таварыш – заседжаны вераб'ямі дзяцюк з адбойным малатком – паглядаў з-пад рукі якраз туды, дзе віраваў гаманкі натоўп, які шчыльна атачаў піўную бочку.

Не толькі гіпсавы гарняк углядаўся тым часам у далеч светлую. З прачыненага вакна цягніка гэтак жа сама ўтрапёна глядзеў на бочку ўскудлачаны, сярэдняга веку пасажыр. Пасажыру смажыла – мружачы вочы, ён раз-пораз аблізваў асмяглыя вусны, голасна гукаў: „Колькі стаім?!", а пачуўшы, што цягнік стаіць паўгадзіны, знік у глыбіні вагона.

Праз хвілю ён скочыў на перон, заклапочана зірнуў паўзверх людскіх галоў і пабег, парыпваючы новаю скуранкаю, у накірунку да бочкі.

Станцыя сачэння, схаваная ад вока людскога ў нетрах пульхнатай аблачыны, паволі круцілася вакол сваёй восі, цьмяна бліскаючы ў малочнай смузе адзіным ілюмінатарам. Там, у сярэдзіне гэтага пляскатага, падобнага да талеркі дыска кешкаліся двое. Дакладней

кажучы, кешкаўся адзін — блакітнатвары карантыш, які, седзячы ў глыбокім фатэлі, разблытваў нейкія дроцікі, другі ж, сінятвары, значна старэйшы ад першага, ляжаў на пластыкавым лежаку і, махаючы ў паветры сваімі няўклюднымі адросткамі, якія ўмоўна можна было назваць рукамі, павучаў маладзейшага.

— У вас, шаноўны стажор, вельмі зручная пазіцыя, — узрушана прамаўляў сінятвары, — быць з усімі лагодненькім. Але ж вам, напэўна, казалі: дзве цывілізацыі на адной планеце — гэта задужа. Альбо мы, альбо яны! Вы чуеце?

Маладзейшы павярнуў свае пукатыя зекры ў бок старэйшага, але нічога не адказаў.

— Зрэшты, яны самі сябе знішчаць, — суцішна прамовіў сінятвары. — У гэтым ёсць заканамернасць. На змену старому прыйдзе новае, больш дасканалае. Пасля „гадзіны Х" на Зямлі ўтворацца спрыяльныя для нас умовы — прахалода, высокі радыеактыўны фон, і паверхняй завалодаем мы. Мы! — гучна паўтарыў сінятвары, узбуджана бліснуўшы сваімі і рачынымі вірламі.

— Я разумею... Яны асуджаныя... — голас маладзейшага прыкметна трымцеў, зумкаў на высокіх нотах.— Цывілізацыя іхняя пайшла згубным шляхам. Матэрыяльнае пераважыла духоўнае, збочылі, але ж...

— Настройце голас... Зумкае! — перабіў стажора сінятвары, падымаючыся з лежака.

Карантышы, якія ў звычайных умовах размаўлялі з дапамогаю біяхваляў, тут, на станцыі, гаманілі на чысцюткай беларускай мове. Згодна з інструкцыяй Цэнтра пілоты станцый сачэння павінны былі валодаць усімі мовамі свету, у тым ліку і мёртвымі. Чалавечы ж голас утваралі сінтэзатары, якія разам з іншымі штучнымі органамі месціліся ў карантышоў на патыліцы.

— Такіх, як вы, людзі называюць абстрактнымі гуманістамі, — выгукнуў сінятвары, павольна ўзнімаючыся ўгору. Пластыкавы ляжак, на якім ён толькі што

адпачываў, трансфармаваўся раптам у фатэль і павіс над галавою ў стажора.

— Табе іх шкада? Ну, вядома, людзі... разумныя істоты. П'юць, ядуць... зноў ядуць, лашчацца пад сонцам, тым часам як мы гібеем у падземных лёхах.

Апусціўшыся долу, сінятвары махнуў рукою-адросткам, паказваючы тым самым, што гамонка скончаная, і рашуча прамовіў:

— Пачалі!

— Сёння ў іх 15 верасня 1980 года, — па-акторску выразна прамовіў стажор, узнімаючы вочы да белай столі. — Першы пункт праграмы — выбраць аб'ект назірання.

— Выбірайце! — загадаў сінятвары і стомлена адкінуўся на прыслон фатэля.

Станцыя панурылася ў бэзавы паўзмрок, і на белай асноведзі столі ўзнікла размытая чорная пляма, якая хутка змяншалася ў памерах, аж пакуль не ператварылася ў звычайную кепурку-васьміклінку. Уладальнік кепуркі, падхорцісты дзядзька ў пакамечаным пільчаку, няўпэўнена стаяў пасярод прыбітага скатамі пляца і з яшчэ большай няўпэўненасцю пазіраў у бок піўной бочкі.

— Бабронак Сцяпан. Жыхар вёскі Прагрэс Благадатненскага раёна, 52 гады, жанаты, мае траіх...

— Ну, гэты нам не цікавы, — перапыніў сінятвары, кіўнуўшы на столь. На столі, нібыта ў разнасцежаным вакне, узнікла абвешаная торбамі цётка, якая піхнула Бабронка ў каршэнь, і той папыліў па пляцы, смешна выкідваючы наперад хударлявыя ногі.

На малюнку мільгнуў цеплавоз, праплыў даўжэзны шыхт зялёных вагонаў, і, нарэшце, вачам пілотаў станцыі сачэння адкрылася ўскудлачаная галава пасажыра. Стажор зірнуў на старэйшага, і той ледзь прыкметна кіўнуў.

— Гарашчэня Рыгор. Сорак гадоў. Двойчы разве-

дзены. Працуе буравіком на Ямале. Заробіў на Поўначы 15 тысяч.

– А што яшчэ заробіў? – з'едліва запытаўся старэйшы, і сіні твар ягоны кранула падабізна ўсмешкі.

– Так, гэта ёсць... Але гэта не галоўнае. Галоўнае – сэрца... Арытмія, міякардыт. Працягне яшчэ гадоў адзінаццаць.

– А дакладней?

– Дзесяць гадоў і восем месяцаў.

– Да „гадзіны X", значыцца, не дацягне. Ну што ж, тым лепей для яго.

– Глянь-глянь! – сінятвары паказаў пальцам-адросткам на малюнак. – Глядзіць на аблачыну, адчувае, што за ім сочаць. Орган гэты, як вядома, у людзей зусім атрафіраваны. Дарэчы, вазьмі пробу піўных пароў.

Стажор націснуў гузік на падлокатніцы фатэля.

– Нуль цэлых восемдзесят пяць сотых працэнта алкаголю. Цэнтр паведамляе, што па дарозе з піўзавода прадаўшчыца Міронаўна з дапамогаю шафёра Кадука ўліла ў бочку два вядры вады.

– Гэта нам і без Цэнтра вядома, – прамовіў сінятвары і салодка пазяхнуў сваім бяззубым ротам.

Да бочкі было не падступіцца. Рыгор Гарашчэня, заціснуты між лядашчай цётухнай на мыліцах і нейкім рабацінічтым недаросткам, падаўся быў наперад і ў той самы момант адчуў, як нечыя кашчавыя пальцы схапілі за рукаў.

– Куды прэш, каз-зёл! – прагугнявіў пад самым вухам недаростак. Рыгор рэзка павярнуўся, але зрабіў гэта няўдала, і цётухна на мыліцах загрэла яму ў лоб двума пустымі кухлямі.

– Мне паўтарыць! – крыкнула кабета, дыхнуўшы на Гарашчэню такой агідай, што ў таго аж пацямнела ўваччу.

„Усё нармалёва", – супакоіў сябе Рыгор і, стаўшы на

дыбкі, зірнуў на прадаўшчыцу. Ружовашчокая, падпяразаная, быццам той разнік, цыратавым хвартухом, прадаўшчыца са спакойнай разважлівасцю лічыла кухлі, раз-пораз куляючы іх у бяздонны поліэтыленавы мех.

– Міронаўна! Хутчэй там! – гойкнулі тым часам з натоўпу, і Міронаўна, перапыніўшыся на хвілінку, пагрозліва агледзела натоўп.

– Не замінайце! Саб'юся!

Пасля лічбы „пяцьдзесят" мех узвалілі на карак нейкаму спрэс лысаму, і Рыгор прабіўся да бочкі.

– Мужыкі, дазвольце кухлік... Я з цягніка, – прамовіў ён, улюбёным паглядам азіраючы прысутных.

– Усе з цягніка, – звягнуў за спінаю недаростак, перадаючы цераз Рыгораў плячук парожні посуд.

– Два гады піўка не каштаваў... з Поўначы еду...

– А хоць з Бігосава! – падаў голас недаростак, і ў натоўпе стрымана рагатнулі. Захоплены сваім дасціпным жартам, недаростак удругарадзь выгукнуў: „А хоць з Бігосава!" і, пераймаючы з нечых рук тузін перапоўненых куфляў, плёхнуў кіславатага пойла на ўскудлачаную галаву Гарашчэні.

Хвіліну Рыгор стаяў у непаразуменні, глытаючы кіслыя кроплі, потым увесь сцяўся і, крыкнуўшы штосьці няўцямнае, рынуўся наперад.

– Колькі каштуе твая бочка? – сарваным голасам крыкнуў Рыгор, занураючы руку ва ўнутраную кішэню скуранкі.

Міронаўна спуджана залыпала вачыма.

– Дзвесці рублёў учора здала... як да капейкі. Яшчэ на дзвесці засталося.

У наступнае імгненне аматары піва, што збіліся таго ранку да „свінаматкі", убачылі і пачулі неверагоднае. Мокрагаловы фацэт у скуранцы выцягнуў з кішэні гаманец і, адлічыўшы з важкага пачка чатыры зялёныя, кінуў іх на вільготную талерку.

– Бяру бочку. Чатыры кухлі мне, астатнія – людзям!

Узяўшы з рук уражанай Міронаўны кухаль, ён павярнуўся да недаростка, дзьмухнуў таму на штаны пенныя хлапякі і, злавесна пасміхнуўшыся, загадаў:

– А гэтага выдаліць!

Імгненне збой наструнена маўчаў, утрапёна гледзячы на пацямнелыя ад вільгаці паперкі, потым усе разам загаманілі, заварушыліся, і чыясьці пудовая, з надпісам „Варкута" на запясці, рука схапіла недаростка за каршэнь.

– Хто ён такі, гэты недаростак?

Стажор націснуў кнопку на левай падлакатніцы.

– Рысеў Анатоль. 28 гадоў. Адукацыя восем класаў. У 1978 годзе, на падпітку, збіў да паўсмерці сваю жонку Рысеву Марыю. Ад вязніцы адмазаў родны брат. Стала нідзе не працуе, перабіваецца выпадковымі заробкамі.

– Напэўна, па братана пабег, – прамовіў сінятвары і, каторы ўжо раз пазяхнуўшы, выцягнуўся на пластыкавым лежаку.

– Скончыш праграму – пабудзі! - бадзёра прагучала з сінтэзатара, і праз хвілю біяхвалі данеслі да стажора натужлівае храпенне сінятварага.

Акружаны ўсеагульнаю ўвагаю, Рыгор Гарашчэня сядзеў на ганаровым месцы – засланым газетаю вечку каналізацыйнага люка, што вытыркаўся з зямлі, і з асалодаю пацягваў халаднаватае піва.

– Восемсот маю, – з абыякавасцю ў голасе казаў ён падпітым дзядзькам, косячы вокам то на свой цягнік, то на трохметровага алімпійца, што пасміхаўся яму з вялізнага, пакрытага знізу адметнымі жоўтымі пісягамі, шчыта.

Ніколі ў жыцці Рыгор Гарашчэня не пачуваўся так добра, як цяпер. „Што там нейкія дзве сотні ў параўнанні

з людскою павагаю", – расчулена падумаў ён, падносячы да вуснаў чарговы кухаль.

Тоўстае шкло ледзь не выбіла зубы, піва палілося па барадзе, і Рыгор, спрабуючы вызваліцца з жалезных шчымётаў, усхапіўся на ногі.

– Дакументы! – рашучы голас пераняў дыханне, спыніў на хвілю сэрца. Рыгор павярнуў галаву і, згледзеўшы сяржанцкія лычкі, паспрабаваў вызваліць руку.

– Якія дакументы? Усё ў цягніку.

– Выпілі і буяніце? – пагрозліва запытаўся міліцыянер і, сціснуўшы Рыгораву руку яшчэ ямчэй, працадзіў: – Прайдзёмце!

Няўтульным імжыстым адвячоркам на пероне чыгуначнай станцыі з'явіўся пахілы, дарэшты скарчанелы чалавек. Волкі ветрык навылёт праціпаў ягоную зрэбную, відавочна, з чужога пляча, кашулю, шкамутаў калошы зашмальцаваных штаноў, а сам ён, мокры і натапыраны, не раўнуючы як той верабей, стаяў на краі перона, прагавіта гледзячы на ўсход – туды, дзе сыходзіліся ў адно бліскучыя рэйкі, дзе гарэлі фіялетавым агнём жарынкі ўваходных стрэлак. Войкнуўшы, чалавек асцярожна памацаў рэбры, потым рашуча сціснуў пальцы ў кулакі, жарынкі ўваходных стрэлак ліхаманкава заскакалі ў ягоных вачах. Павярнуўшыся, чалавек рашучым крокам пашыбаваў на станцыю.

Газетны кіёск, на шчасце, быў адчынены. Нейкая цётка, утыркнуўшы свой мясісты нос у малюпасенькае акенца, перадавала кіяскёрцы апошнія навіны.

– Слухай, што скажу! – не выцягваючы носа з акенца, цётка нядобра зыркнула на Гарашчэню і сцішана выдала: – Міронаўну ж сёння ледзь не зарэзалі!

– Мне канверт, калі ласка, – нецярпліва выдыхнуў Рыгор, прапіхваючы пятак між шклом і мясістым цётчыным носам.

Кіяскёрчыны вочы пашыраліся:

– Што ты кажаш?!

– Дык слухай, што скажу... Прыходзіць нейкі, не стары такі, апранены... Выцягвае ножык і кажа: „Выкладвай, Міронаўна, дзвесце рублёў, калі жыць хочаш".

Кіяскёрчыны вочы пашырыліся яшчэ больш:

– А яна?

– Выклала! – цётчын нос крутануўся ў вакенцы. – Добра, Толік Рысішын падвярнуўся, брата з міліцыі прывёў, дык абаранілі.

– Які гэта Толік?

– Ай, во... Невялікага расточку такі... Рысішын мужык.

– А людзі што?

– А што гэтым п'янтосам? Яны й радыя – давай піва задарма жлукціць.

– Канверт дайце! – не сваім голасам грымнуў Рыгор і, каб не ўпасці ад раптоўнай сардэчнай спазмы, упёрся рукою ў спіну да смерці перапалоханай жанчыны.

– Дзе ён цяпер? –спытаў сінятвары, калі прачнуўся.

– У вакзальнай пачакальні. Піша скаргу ў Вярхоўны Савет.

– Скаргу? – сінятвары ўскочыў з ложка. – Не пазайздросціш гэтаму Гарашчэню. Колькі там... за паклёп на органы правапарадку?

– Артыкул сто дваццаць восьмы. Да пяці гадоў.

– Што ж, вас можна павіншаваць, – голас сінятварага прагучаў аднекуль з тэлепартацыйнай кабіны. – З заданнем Цэнтра, няхай і вучэбным, вы справіліся паспяхова. Зараз зраблю вонкавы агляд, і мы...

– Дазвольце мне агледзець! – нечакана выгукнуў стажор, крутануўшыся ў фатэлі.

Сінятвары выйшаў з кабіны, памаўчаў хвіліну і, апусціўшы галаву, панікла прамовіў:

– Толькі не забывайцеся, інструкцыя Цэнтра забараняе нам умешвацца ў іхняе жыццё!

– Не забудуся! – кіўнуў стажор і вокамгненна знік у чорнай зеўры тэлепартацыйнай кабіны.

Сінятвары плюхнуўся ў фатэль, колькі часу сядзеў у здранцвенні, потым паволі, як бы з неахвотаю, націснуў кнопку сувязі з Цэнтрам і ўжо на сваёй роднай біямове прамовіў:

– Шкада, – і, памаўчаўшы, дадаў: – Мог бы атрымацца добры пілот.

Запытаўшы пра скрынку, Рыгор рушыў у ноч, спружна пераскокваючы цераз чорныя люстэркі лужын. Ён падбег быў ужо да паштовай скрынкі, што вісела на плоце, але тут здарылася непрадбачанае – аднекуль з вышыні нечакана дзьмухнуў халодны вятрыска, выхапіў з рук канверт, і той, крутнуўшыся ў паветры, падбітай птушкаю паляцеў у лужыну.

Кроў гарачаю хваляю ўдарыла ў скроні – Рыгору здалося раптам, што там, у вышыні, у беспрасветцці начнога неба, хтосьці ёсць, хтосьці сочыць за ім, пасміхаючыся сваімі нечалавечымі пукатымі вачыма.

Ачомаўшыся, ён няўмела перахрысціўся, выцягнуў з лужыны набрынялы вадою канверт і, рвучы яго на шматкі, пасунуўся, не разбіраючы дарогі, да чыгуначнай станцыі.

# Палонны Чорнага стэпу

– І гэта ўся капуста? – уразіўся баец Манько, веерам раскінуўшы храбусткія чырвонцы.

– А ты што хацеў? У моры песціцца, вінам абапівацца ды яшчэ і кучу грошай адхапіць? – падняў стамлёныя вочы камісар Галабурда. – Будатрад – не шабашка. Мы ў Дагестан не дзеля грошай прыехалі.

– А дзеля чаго? Мацаваць сувязі паміж народамі?– з апалітычнасцю ў голасе пажартаваў баец. – Дык яны, гэтыя сувязі, і так маналітныя.

– Вось што, Манько. Атрымаў сваё – адыходзь, не замінай астатнім. Я, дарэчы, атрымаў столькі ж, колькі і ты.

Манько сабраў веер у стосік, ляснуў ім па далоні і, выходзячы з барака – пахілага, сто гадоў не рамантаванага будынка, у якім жылі будатрадаўцы, сцішана звягнуў:

– Гэта яшчэ трэба праўдзіць, колькі вы з Іванньковічам хапанулі.

Левае брыво камісара нервова тузанулася:

– Ты... ты што гэтым хочаш сказаць?

– Ды так, нічога асаблівага, – ужо знадворку азваўся Манько, і голас ягоны пакрыла натужлівае рыпенне нязмазаных дзвярэй.

У наструненай цішыні, працяты дапытлівымі позіркамі будатрадаўцаў, камісар падняўся з табурэткі і, не сказаўшы ні слова, таксама пайшоў на падворак. „Ай ды Іваньковіч... – нядобра падумаў той хвіляй камісар пра камандзіра. – Абазнаны ў гэтай справе. Гайсануў на

занальную нараду – толькі яго і бачылі. А ты тут круціся паміж гэтымі Манькамі".

З байцом Віктарам Манько, ці папросту Манькам, як звалі таго на курсе, у камісара былі складаныя дачыненні. Яшчэ на другім курсе, праявіўшы не абы-якую прынцыповасць, ён, камсамольскі актывіст Галабурда, прапанаваў на студсавеце выселіць Манько з інтэрната. Прычыны на тое былі важкія: Манько заўзята парушаў усе сорак пяць пунктаў Правілаў пражывання, у адкрытую паліў анашу, а па вечарах зацягваў на звязаных прасцінах да сябе ў пакой практыкантак з мясцовай птушкафабрыкі.

„З гэтым Манько да трох не лічы, – разважліва падумаў Галабурда, удыхнуўшы горнага халадку. – Таго разу ў аркестровую яміну спіхнуў, а там, глядзіш, і глыбей куды ўкіне". Твар камісаравы знянацку пасуравеў, а чырвоны пісяг на шчацэ набыў хваравіта-бэзавае адценне. Галабурду зноў, у каторы раз, прыгадаўся той няшчасны выпадак, калі ён падраў шчаку, і сэрца ягонае балюча сціснулася ад незагойнай крыўды.

У той вечар, як заўсёды па суботах, будатрадаўцы ладзілі канцэрт у горным ауле. Дакладней кажучы, нават не канцэрт, а так – выступ агітбрыгады. Праграма іхняя мела назву „Мы рождены для подвига" і была добра абкатаная яшчэ пад час вучобы. Браў удзел у агітбрыгадзе і камісар Галабурда. На ягоную артыстычную долю прыпадала ствараць вобраз класава-чужога элемента – кудлатага хіпака з гітарай, які пад музыку заходняга ансамбля зяпаў нямым ротам і, пужаючы старых табасаранак, роспачна біўся галавою аб падлогу. Згодна сцэнарыю кудлаты хіпак выдаляўся са сцэны двума хлопцамі ў спяцоўках, ролю якіх выконвалі Манько са сваім сябруком Шверубовічам. Клуб саўгаса „Дагестанскія агні" ледзь не развалiўся ад рогату, калі класава-чужы элемент, узяты пад рукі падпітымі хлоп-

цамі, паляцеў не за кулісы на загадзя падрыхтаваныя маты, а ў аркестравую яму, дзе сядзеў, натхнёна расцягваючы мяхі, баяніст Іванькові.

Перапыняючы цяжкія ўспаміны, дзесьці ў даліне завуркатаў матор, і з-за шчыльнай сцяны вінаградніку выехаў чырвоны „пазік". Згледзеўшы аўтобус, камісар задаволена пацёр рукі.

– Збірайцеся, едзем! – крыкнуў ён, ускочыўшы на ганак і, як бы ставячы кропку ў сваім невясёлым будатрадаўскім дыярушы, выцяў рукою па рассохлых дзвярах барака.

Гадзіны праз тры, з боем узяўшы высокія вагонныя прыступкі, байцы будатрада „Гвардзейцы семідзесятых" убіліся ў цягнік. Дзень быў базарны, і цісканіна ў пятнаццатым вагоне была неверагодная: натоўп адарваў камісара ад падлогі, занёс у канец вагона, запіхнуў у цёмны кут, і нечы дыхтоўны, туга напакаваны мяшок балюча прыціснуў яму лытку. Камісар паспрабаваў быў пашырыць жыццёвую прастору, піхаючы мех нагамі, але ў сярэдзіне меха хтосьці жаласліва застагнаў, і ён суціх, прытуліўшыся распаранай скронню да халоднай вагоннай шыбы.

Манько са Шверубовічам натоўп занёс у тое ж самае купэ, і яны атабарыліся насупраць, наставіўшы на камісара свае барвовыя, абязвечаныя пачуццём глыбокага незадаволення твары.

– Нават форму прапілі, нягоднікі, – з уздыхам прашаптаў камісар і, перш чым панурыцца ў дрымоту, зірнуў з-пад вясёлкавых веяў на бутафорскія спяцоўкі, у якія былі апранутыя хлопцы.

Мерна стукалі колы, паволі калыхаўся вагон. У гэтым замарачным перастуку яму чулася адна і тая ж чароўная мелодыя, мроіліся дзіўныя вершы, якія здаваліся геніяльнымі і якія адразу ж забываліся, кранаючы сэрца кволым святлом азарэння. Ён доўга не мог даўмецца – адкуль яны, гэтыя сумныя, бясконцыя, як сама

дарога, вершы, аж пакуль не зразумеў, што гэта гучалі ў ім адгалоскі тых ненапісаных песень, якія нарадзіліся некалі ў душах іншых людзей і цяпер блукалі па свеце, зліўшыся з перастукам вагонных колаў. А ягоныя думкі, ягоная душа? Ці сальюцца яны з пошумам ветру за вакном, з тахканнем колаў і з усім тым, што поўніць свет чароўнай музыкай жыцця? Галава ягоная хітнулася ці то ў такт калыханню вагона, ці то ад роспачнай думкі, што нічога гэтага не будзе і што аднойчы ўсё скончыцца: і дарога, і песні, і жыццё.

– Ды прачніся ты, халера! – прасіпелі ля вуха, і камісар размежыў павекі. Медзведзяваты сусед па лаве голасна крэкнуў, сцягнуў з паліцы свайго прыспанага сябрука і, папляваўшы на далоні, рашуча ўхапіўся за мех. Мех прывідна мільгануў уваччу, збіў набакір фуражку міліцыянеру, дамоклава завіс над галовамі пасажыраў.

– Кізляр! Кізляр! – гукалі ў розных канцах вагона.

Адчуўшы свабоду, камісар пацягнуўся і раскрыліў рукі.

– Э-эх! Размяцца трэба! – выдыхнуў ён, зірнуўшы на Манько са Шверубовічам, і тыя, усхапіўшыся з месцаў, уголас прамовілі:

– Трэба!

Праз хвілю іхнія магутныя спіны зніклі ў праёме дзвярэй, і камісару давялося зноў пакутліва ўздыхнуць. „Па віно пайшлі. Ізноў перап'юцца, д'яблы", – са скрухаю падумаў камісар і падняўся з лавы.

... У бязлюдным і суцішным купэйным ён тыцнуў праваднiку пакамечаны трульнік, залез на палок і ў наступнае імгненне ўжо бестурботна спаў, паклаўшы пад голаў свае дарэшты падраныя кеды.

У вагоне было задушна, і, мабыць, з тае прычыны сон вярнуў яго ў той далёкі, не па-восеньску гарачы дзень, пануры у сквар і задуху, ад якой шарэла ў вачах і свет страчваў свае калёры. І паўсталі перад

вачыма шары інстытуцкі пляц, гуж калгасных машын у канцы двара і гаманкі натоўп, сярод якога ён блукаў, выглядаючы на пыльных бартах грузавікоў нумар сваёй групы. Мільгацелі ўзбуджаныя твары, з рэпрадуктараў грымелі раскацістыя песні пра БАМ, і замарачнае тахканне колаў, уварваўшыся ў сонны мозг, на момант пераблыталі яву і сненне. Адчайна грукацелі колы, калыхаўся вагон, а ён, шчаслівы першакурснік, бег да шарага „газона", на борце якога былі намаляваныя крэйдай чатыры нязграбныя лічбы. Там, у кузаве, смяяліся дзяўчаты, брынькала гітара і бязладны хлапечы хор спяваў незнаёмую песню:

– Ой, леса, леса Белоруссии, да погода по-девчоночьи капризная.

Нечыя рукі падхапілі пляцак, дапамаглі залезці ў кодаб, балюча сціснулі пальцы. „Алег", – буркнуў ён, зачаравана пазіраючы на кудлатага хлопца з гітарай, а плюхнуўшыся на абярэмак саломы і прыкрыўшы пацярухаю лапік на зрэбных штанах, ён таксама засяпяваў, шырока разяваючы бязгучны рот, бо не ведаў ні слоў, ні мелодыі той шчымлівай, дагэтуль нягучнай песні.

Вагон тузанула, за тонкай перабойкаю пасыпаліся бутэлькі, і нехта са злосцю мацюкнуўся. Ачуўшыся, ён зірнуў на гадзіннік, а праз якую хвіліну рука ягоная, бязвольна саслізнуўшы з парэнчы, мякка легла на грудзіну.

І прыснілася дарога, доўгі шыхт бярозавых прысадаў і маленькая хатка на асмужаным даляглядзе.

– Вунь там і будзеце жыць, – прамовіла брыгадзірка, кіўнуўшы ў бок сядзібы, і, памаўчаўшы трошкі, запалым голасам дадала: – Выбачайце, але хата без тэлевізара.

– Цудоўна! – адказаў за ўсіх бялявы хлапец у акулярах. Хлопца, як ён ужо прачуў, звалі Алесем. – Будзе нарэшце магчымасць папрацаваць.

– А што ў цябе за праца такая? – перапытаў другі пастаялец, цыбаты дзяцюк у зношаных джынсах.

– Ды так... – бялявы перасмыкнуў плячыма, ускінуў ямчэй пляцак, і рэшту дарогі яны ішлі моўчкі.

– Вось, Куліна, прымай пастаяльцаў, – брыгадзірка бухнула кірзачамі аб парог прысадзістай хаткі. – Студэнты на бульбу прыехалі.

Куліна, маленькая, дарэшты скурчаная бабулька, выйшла на ганак і, паправіўшы хусцінку, асуджана апусціла рукі.

– Ну, ладкуйцеся, хлопцы, а заўтра а восьмай на працу, – брыгадзірка шырокім жэстам змахнула пот з ілба, – толькі ж глядзіце, не праспіце!

– Не праспім! – гукнуў Алесь, і яны рушылі ў хату.

Сцены бабчынай хаткі прыкметна здрыгануліся, калі цыбаты ўваходзіў у святліцу. Пацёршы пабіты аб вушак лоб, ён акінуў святліцу дапытлівым поглядам і летуценна зазначыў:

– Інтэр'ер...

Інтэр'ер быў і папраўдзе несамавіты, у цёмным куце, побач з электралічыльнікам, вісела пацьмянелая ад часу Багародзіца, трохногая лава ўздоўж сцяны была годная этнаграфічнага музея, а на саміх сценах, у поўным бязладдзі, віселі фотаздымкі дзядзькоў у канфедэратках, каляровыя ілюстрацыі з відарысам Сталіна і ганаровыя граматы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выставы.

Прыклаўшы да лба пятак, цыбаты прайшоўся па хаце, керхануў у далонь:

– Вам, бабуля, пенсію плоцяць?

Бабуля Куліна зайшла ў святліцу, сцягнула з вуха хусцінку, наструнена залыпала вачыма.

– Пенсію, пенсію, кажу, вам плоцяць? – падвысіў голас цыбаты.

– А як жа, дзеткі... дваццаць рублёў. Кожны месяц прыносяць.

– А дзеці ў вас ёсць?

Бабуля наставіла вуха, але, відаць, не пачуўшы, неакрэслена махнула рукой:

– Чалавек жа мой памёр, царства яму нябеснае. Вось і граматы ягоныя, – старая змоўкла і, пастаяўшы крыху, нячутна сышла ў прысенак.

– Праваднра народаў мухі абседзелі, – прамовіў пасля паўзы цыбаты, пстрыкнуў запальнічкай, і пакой напоўніўся духмяным водарам „ Залатога руна".

– Гэткім чынам, кожны атрымаў яму належнае... Бабуля Куліна, у прыватнасці, атрымала дваццаць рублёў пенсіёну, чалавек яе – жмутак ганаровых грамат і, шчаслівы, сышоў у нябыт...

– Недарэчны сарказм, – азваўся Алесь, запіхваючы пад ложак свае рэчы.

– Сарказм, шаноўны, гэта мова нонканфармізму, – цыбаты павярнуўся да Алеся, чакаючы працягу спрэчкі, але той змаўчаў і, пайшоўшы на кухню, доўга піў з вядра.

– Ат! – цыбаты імпэтна махнуў рукой. – „Не бяры да галавы", як казала бабуля-нябожчыца.

Сказаўшы так, ён паваліўся на тапчан і прыпаліў згаслую цыгарэту.

– Не, вы чулі? Дваццаць рублёў! – шызая аблачына дыму паволі ўзнялася пад столь. – Дай каму-небудзь гэткія грошы ў лапу, дык у міліцыю здадуць, пакрыўдзяцца. Чуеш, летуценнік?

Алесь зноў змаўчаў, адно гучна бразнуў конаўкаю.

– Напіцца, сапраўды, ці што? – разважліва запытаў сам сябе цыбаты і, зацягнуўшыся раз астатні, падхапіўся на ногі.

У краму яны пайшлі з Ге́ктарам, такое дзіўнае імя далі бацькі цыбатаму хлопцу, Алеся ж пакінулі ладзіць бяседны стол.

Абапал здратаванай „Беларусамі" праселіцы, па якой яны ішлі, стаялі старыя, пасаджаныя, відаць, яшчэ

за польскім часам, бярэзіны. Мярэжы ніцых галін звісалі да зямлі, пяшчотна краналіся твару, і вечаровае сонца, заблытаўшыся ў іх сваімі промнямі, святлівымі плямамі клалася пад ногі. Яны доўга ішлі моўчкі. Ге́ктар грыз травінку, штосьці мармытаў сабе пад нос, ашклянела пазіраючы на вярхі разгатых бяроз.

– У цябе колькі балаў? – нечакана для сябе самога запытаўся ён у Ге́ктара, калі яны спыніліся ля куста. Спытаўся не без задавальнення: на ўступных іспытах у яго была толькі адна тройка.

– Дзесяць, здаецца, – прамовіў Гектар, падцягваючы нагавіцы. – Ды і тыя, сказаць па шчырасці, разам з бацькам заробіў.

Словы гэтыя халоднымі льдзінкамі кальнулі ў сэрца. Ён хацеў перапытаць Гектара, пры чым тут бацька, але той прыспешыў хаду і, павярнуўшы галаву, працэдзіў:

– Пайшлі хутчэй... Да сямі ж даюць!

На небе ўжо гарэла Мілавіца, калі яны вярнуліся з крамы і са здзіўленнем убачылі, што Алеся ў хаце няма.

– Дзе гэта ён? – прамармытаў Гек, укараноўваючы бяседны стол нуль-сямілітровай пляшкаю гарэлкі.

У гэты момант над галавою зарыпелі дошкі і са столі ценькім цуркам пасыпалася парахня.

– На гарышчы – праўдзівы архіў! Закрытыя фонды! – яшчэ з парога грымнуў Алесь, цягнучы ў хату абярэмак пажоўклых газет. – Чаго толькі няма... „Лекары-шкоднікі", „Джаз на службе імперыялізму", „Касмапалітычныя іудушкі ў літаратуры"...

– Ды кінь ты, – незадаволена скрывеліўся Гек,– вернемся з бульбы, дастану табе прапустку ў спецсхоў – поркайся ў тым гноі хоць да пасінення, – і, схапіўшы са стала бутэльку, Гек рашуча скруціў бляшаны агаловак.

... У пляшцы яшчэ заставалася гарэлка, калі бразнула шыба і нехта знадворку ашалела закрычаў:

– Студэнтаў б'юць!

Гек ускочыў з-за стала, скінуў на падлогу недапітую бутэльку, цяжка затупаў па маснічынах.

– Гек, пачакай! – сарваным голасам крыкнуў ён сябру і рынуўся следам. Зляцеўшы з ганка, ён прыпыніўся, наструніў слых, і ціхі голас даляцеў да ягонай свядомасці:

– Гарбату будзеце?

Ён прыслухоўваецца да цьмяных зыкаў: перастуку колаў, бразгату шклянкі, да прагнага, з уздыхам, пасёрбвання. Ну так... гэта Алесь п'е на кухні гарбату.

– Дык, можа, яшчэ што засталося? Кніжкі якія, падручнікі? – чуецца з кухні прыспаны Алесеў голас.

– Аво-ой! Мужчыны па вайне ўсё на папяроскі пусцілі. Толькі гэтая ксёнжка і засталася, – бабуля Куліна грыміць засланкай. – Як ужо тую школу арганізавалі, Васіль у Вільню паехаў, па падручнікі. Чалавек той і даў яму ксёнжку.

– А што, Васіль жывы яшчэ?

У хаце становіцца ціха, толькі і чутно, як тахкаюць ходзікі ды гудзе ў коміне агонь.

– У трыццаць трэцім падаўся наш Васіль у Саветы. Так і згінуў недзе.

Шэры паўзмрок пануе ў хаце, і ў гэтым паўзмроку неверагодна прыгожымі здаюцца малінавыя адбіткі агню, што бягуць па белай фіранцы. Рыпіць тапчан. Гек падымае ўскудлачаную галаву і, жаласліва войкнуўшы, ізноў панурваецца ў падушку.

– Хто гэта мяне біў учора? – здушана пытаецца Гек, не адрываючы твару ад падушкі.

– Вы што там, „На дне" рэпеціруеце? – гукае з кухні Алесь. – Ідзіце, святаянніку сёрбніце. Дапамагае.

– Мне можа дапамагчы толькі піва, – Гек гучна крэкае. – Учора, як у краму ішлі, верш склаўся, а сёння ані слова не памятаю... Во, гарэліца!

– Маладыя хлопцы... і навошта піць! – устаўляе

слова бабка Куліна. – Будзе вам, як нашым мужчынам. Тыя ўжо зусім пашалелі...

– А ты хіцёр, Александзёр! – крычыць Гек, перабіваючы бабчына буркаценне. – Пакуль мы баранілі гонар інстытута, ты адседжваўся ля печкі.

– Што зробіш, абдзяліў Бог здароўем, – Алесь выплывае з паўзмроку, трымаючы ў руцэ нейкую шарую кніжку. – Гляньце, што знайшоў... „Граматыка" Тарашкевіча. З ахвяравальным подпісам аўтара.

Гек паварочваецца да святла, мружыць вочы: „Кіраўніку Бярозаўскай ТБШ Васілю..."

– Васіль – брат Акуліны Іванаўны. Загінуў у трыццатых.

– Але-э! Былі людзі, душу народную ратавалі, – Гек сцярожка гартае старонкі, – толькі дарма ратавалі. Абмяняў народ душу на куфаль піва.

– Навошта ж так катэгарычна. Я, напрыклад, піва не ўжываю, – Алесь з насалодаю сёрбае адвар святаянніку. – Лепей пра сябе скажы...

– Чым я розніюся ад тых механізатараў, з якімі ўчора біўся?

– Вось-вось.

– А што я... – Гек падымае з падлогі свае зашараваныя джынсы, – я – прадукт свайго часу.

– Ну, то ўставайце, прадукты. А восьмай трэба быць ля клуба.

Дзверы купэ з грукатам расчыняюцца, і абуджаны камісар прыўзнімае галаў.

– Спіш, гвардзеец?! – гукае чырванатвары таўстун, міргае яму маленькім пацучыным вокам і, плюхнуўшыся на лаву, пытае: – Што пішуць?

На доле бразнула шклянка, і нечы натхнёны голас паведаміў:

– Смелы артыкул!

Камісар зірнуў долу. На ніжняй паліцы сядзеў

лысаваты, падобны да актора Ралана Быкава пасажыр, барвова-ўзмакрэлы нос якога неадрыўна блукаў па радках вальнадумнага артыкула. Працёршы вочы, камісар прачытаў назву: „Куды падзеліся мужчынскія баваўнянапапяровыя шкарпэткі?"

– Развялося пісак! – прабурчэў таўстун і, нібыта дэманструючы лысаму свае бліскучыя, перашытыя са старых халяваў боты, закінуў нагу за нагу.

– А чым вы, уласна кажучы, незадаволены? – запытаўся лысы, разгарнуўшы ўшыркі газету.

Уладальнік хромавых ботаў ляснуў далонню па стале, і шклянка з недапітаю гарбатаю спалохана дзынкнула.

– Старую гвардыю з арміі звольнілі, смаркачоў панабіралі, а потым схапіліся за галовы: „Аяяй, што нарабілі!" – Маналог гэты быў відавочна не па тэме.

– А вас што, таксама закранула гэтае, так бы мовіць, скарачэнне штатаў?

Заўчасна звалены ў запас працяў лысую галаву гаротным паглядам:

– Аб тым, што вам трэба ведаць, вам паведамяць! І не трэба задаваць лішніх пытанняў.

– Такім, як вы, сапраўды не пазайздросціш, – не застаўся ў даўгу суразмоўнік, – рабіць жа нічога не ўмееце. Адно і навучыліся, што глотку драць...

На сківіцах былога вайскоўца заварушыліся жаўлакі, вушы ягоныя драпежна натапырыліся, а пацучыныя, дарэшты звар'яцелыя вочы наліліся крываваю барвай. Ад такога відовішча лысы змарнеў, сцяўся, пужліва прыкрыўся газетай.

– Хто... хто даў вам права плявузгаць на нашу армію? – тонам, якому пазайздросціў бы і пракурор Вышынскі, запытаў былы вайскоўца і, суцішыўшы голас да невыразнага сіпу, дадаў: – Я ж магу вамі і пацікавіцца...

Пасля такіх слоў лысы з галавою панурыўся ў газеціну, і тая дробна заскакала ў ягоных руках.

Колькі часу спадарожнікі ехалі моўчкі. Камісара зноў было пацягнула на сон, аж неўзабаве на доле заварушыліся, і былы вайскоўца, бразнуўшы аб дзверы прытарочаным да рэчмяшка ліхтаром, падаўся да выхаду.

– Бачылі вы яго, салдафона! – узняў угору палымяныя вочы лысы пасажыр. – Выліты Прышыбееў!

– У вас папіць не знойдзецца? – запытаўся ў адказ камісар, і суразмоўнік, адкінуўшы ад сябе абрыдлую газеціну, пакрыўджаным голасам прамовіў: – На станцыях кавуноў процьма. 10 капеек кэгэ. Цудоўна наталяюць смагу.

У прадчуванні наталення смагі камісар намацаў у кішэні жалезны рубель і, калі цягнік, прарэзаўшы паветра басавітым гудком, суцішыў ход, спружна саскочыў з паліцы.

Кавуноў на станцыі і сапраўды было процьма. Вялікія кучы іх ляжалі ўздоўж платформы, цьмяна бліскаючы на сонцы сваімі круглявымі бакамі. Кінуўшы рубель сівому вагаўшчыку, камісар ускінуў кавун на плячук і борздым крокам пашыбаваў да свайго пятнаццатага вагона – трэба было пачаставаць дзяўчат, ды і сцізорык застаўся ў валізе.

Дзверы апошняга, пятнаццатага, выгона былі, на шчасце, адчыненыя. Задыханы, ён падбег да вагона, пастаяў крыху, пераводзячы дых, і, калі цягнік скрануўся з месца, ухапіўся рукой за поручань. Зарыпелі, застагналі тамбурныя дзверы, з глухім воплескам зачыніліся, і камісар, сарваўшыся з прыступкі, ашалелымі вачыма паглядзеў угору. У закураным, пакрэсленым паскамі кратаў вакне квітнела, наліваючыся густою барваю, нахабная фізіяномія Манько.

Метраў пяцьсот ён бег за цягнікам, штосьці крычаў машыністам, і тыя, мінуючы ўваходныя стрэлкі, віталі яго працяглым гудком з-за далягляду. Хвіліна, і жарынкі чырвоных ліхтароў зліліся ў адну, расталі ў імгле, і сасмяглыя вусны ледзь чутна прашапталі:

— Вось гэта ўліп!

Камісар перакінуў з рукі на руку крутабокі справунак, зірнуў з-пад рукі на прыстанцыйную вадавежу, на кусцікі чэзлай акацыі, што прыжыліся неяк на гэтай пяшчыстай, густа замяшанай на дзындры глебе, і, уздыхнуўшы, патрухаў на ватных нагах уздоўж чыгункі.

Начальнік станцыі, маленькі, чарнявы чалавек, галава якога толькі напалову вытыркалася з-за стала, безуважна выслухаў наведніка і, пазяхнуўшы, запытаў:

— Дакументы ёсць?

— Вось... — разгублена вымавіў наведнік, працягваючы начальніку крутабокі кавун.

Начальнік з недаверам зірнуў на кавун, перавёў позірк на голае чэрава наведніка, што вытыркалася з-пад расхлістанай будатрадаўскай курткі, і з разважнасцю ў голасе прамовіў:

— На жаль, гэта не дакумент.

— А вы што, і ў таго, хто топіцца, дакументы патрабуеце? — наведнік прыціснуў пальцам дрыготкае брыво.

— Вам, малады чалавек, гэта не пагражае. У нас тут вады няма. Бязводдзе. Чорны стэп, адным словам. — Начальнік выцягнуў з бакавой кішэні зашмальцаваны нататнік, руплівa перагарнуў старонкі. — Калі вы і сапраўды камісар, дык нам патэлефануюць. Вы ж, як я зразумеў, усе разам ехалі? Як, дарэчы, вашае прозвішча?

— Галабурда. Алег Іванавіч, — змарнела выдыхнуў наведнік.

— Як-як? Бурда?

— Гала... — узмацніў голас наведнік.

— Што — гала? — не зразумеў начальнік.

— Бурда! — грымнуў камісар і, закаціўшы вочы, суцішна дадаў: — Ідыёт!

Чарнявы чалавек штосьці. замармытаў па-свойму,

няўцямна вылаяўся і, зняўшы з вагара тэлефонную трубку, высокім дыскантам закрычаў:

– Вагоны з угнаеннем на сёмы тупік! Сёмы тупік! – і голас ягоны згасальным рэхам адбіўся ў разнасцежаным вакне.

Упёршы кавун вакзальнай прыбіральшчыцы, Алег Галабурда выйшаў на падворак, сеў на лаўку і, абхапіўшы рукамі туманную галаву, цяжка ўздыхнуў. Уздыхаць было ад чаго: цягнік на Маскву ішоў праз суткі, а грошай, якія бразгалі ў кішэні, не хапала нават на тэлеграму. Камісар уявіў на хвілю, як роспачна будуць гукаць ягонае імя на пероне маскоўскага вакзала, і стала яму ад тае ўявы непамысна. „На бюро гэты факцік не абмінуць, вытлумачаць па-свойму, – са скрухаю падумаў камісар, сцяўшы, нібыта ад пякельнага болю, павекі. – І собіла ж яму ехаць у тым купэйным! Ехаў бы ў агульным, разам з усімі. Цяпер чакай таго званка!"

– Што, дарагой, зуб балыт? – спачувальна прамовілі за спінаю, і камісар азірнуўся. Хударлявы каўказец стаяў у метры ад яго і спагадліва варушыў вуснамі. – Пачакай, дарагой, у мяне тут анальгін... Сам мучаюс...

– Ды які там анальгін! – скрывіўся камісар, падхопліваючыся з лаўкі. – Грошы патрэбныя, дахаты заехаць. Бачыш, – ён ляснуў сябе па голым чэраве, – у адной куртцы застаўся.

– Го-о! Сам карцёжнік, сам прайграваў! – адразу пажвавеў каўказец. – Але чаму невясёлы, чаму галава трымаеш? Грошы? Го-о? Грошы на зямлі валяюцца, толькі не лянуйся падняць! – сказаўшы гэта, каўказец азартна махнуў рукой: – Слуп бачыш?

Камісар пакруціў галавой, азіраючы далягляд, але нічога, апрача пяшчыстых выдмаў, не згледзеў.

– Ну! – прабурчаў ён, сілячыся ўцяміць тайную сувязь паміж слупом і грашыма.

– А нарыхтконтору ля слупа бачыш?

На гэты раз камісар не павярнуў галавы і ўдругарадзь, ужо з нецярплівасцю ў голасе выдыхнуў:

– Ну!

– Ідзі ў кантору. Найміся на колькі дзён гуртаправам, авечак на станцыю ганяць. Ходку зробіш – пятнаццаць рублёў у кішэні. Скажаш – кунак Еруслану.

Камісар яшчэ раз агледзеў чырванаватыя выдмы, што пукаціліся за лініяй, і, падзячыўшы кунаку за добрую параду, заклапочана пачухаў шыю.

... Ля канторы „Нарыхтжывёла", глінабітнай, урослай у пясок халупы, камісара пераняў вялізны карнавухі сабака. Зычным брэхам скаланаючы наваколле, сабака кінуўся да незнаёмца, і той, падаўшыся з перапуду назад, апусціўся неўзабаве на кучу зляжалай дзындры.

– Мухтар, да мяне! – уладна крыкнулі непадалёку, і з-за глінабітнай халупы выехаў вершнік на вараным кані.

– Што за чалавек? Чаму ходзіш? – вершнік, стары, да чарноцця загарэлы калмык, скіраваў каня на камісара.

– Ды вось, ад цягніка адстаў, – дрыготкім голасам вымавіў камісар.

– Эгэ-эй! Адстаў?! – гойкнуў калмык і, адкінуўшыся ў сядле, голасна зарагатаў.

„Яшчэ адзін ідыёт", – падумаў камісар, абабіваючы ад пылу нагавіцы. Вытрымаўшы паўзу, ён з годнасцю, на якую толькі быў здатны, прамовіў:

– Руслан казаў, вам пастухі патрэбныя...

– Пастухі?! Ха-ха-ха, – блазенскім смехам грымнуў калмык, але нечакана зрабіўся паважным і спехам злез з каня. – Еруслан? Дзе ты бачыў гэтага шайтана?

– На станцыі, хвілін пятнаццаць таму.

– Збег, збег, шайтан! З'ехаў на вяселле! А-а! Гора мне! – ці то жартам, ці то папраўдзе залямантаваў калмык, занурваючыся лбом у конскую грыву. – Збег! Найлепшы чабан збег! – ускудлаціўшы пяцярнёй сівую

чупрыну, нарыхтоўшчык зірнуў на камісара і, ужо лагодным голасам, запытаў: – Авечак калі-небудзь стрыг? У стэпе арыентуешся? Верхам можаш ездзіць?

Камісар пацёпаў плячыма.

– Ну, добра, – стары калмык упіхнуў нагу ў стрэмя, – сядай за спіну.

З трэцяга ці чацвёртага разу камісар узлез на каня і, адчуўшы, як перакочваюцца пад ім напятыя цяглы, спалохана абхапіў старога.

– А яму не цяжка? – запытаўся ён, ціснучыся чэравам да конскае спіны.

– Каму? Цыгану? Ха-ха-ха! Ды конь гэты самога шайтана звязе! Будзёнавец! Мінулым летам з конезавода выбракавалі.

Бязмежны абшар: парослыя чэзлым кустоўем выдмы, пыльная, з чырванаватым водценем смуга на даляглядзе, пясок у куточках асмяглых вуснаў і маленькі крыжык драпежнай птушкі над галавою. Чорны стэп.

– Чорны стэп, – уздыхае стары Урубджур. Голас старога глуха булькоча пад світкаю – закалыханы дарогай, Алег дрэмле, прыціснуўшыся вухам да шырокай Урубджуравай спіны.

– У мяне тут пяць чабанскіх пунктаў. Па тысячы галоў на кожны. Пры перагонах пару галоў страчваем. Дадумаліся, шайтаны, на перагонных дарогах яміны капаць. Выкапаюць яму, чым-небудзь прыкрыюць, авечка туды і ўвальваецца. Уяўляеш? – стары змаўкае, паварочваецца тварам да камісара: – Эй, заснуў?

Алег асавела прыўзнімае павекі.

– Нічога, хутка прыедзем. Кіламетраў пяць яшчэ. Но! – стары ляпае Цыгана па крыжы, і той тупае жвавей. – Едзем на кашару Улан-Хол. Адтуль і будзеш ганяць. Удзень гоніш, а ўвечары Чатыр, гэта чалавек са станцыі, цябе на матацыкле зноў на кашару падкідваць будзе. Я

дамоўлюся. Зробіш пяць прагонаў – бараном прэміруюь Шкуру толькі здасі на справаздачу.

– Што я з тым бараном рабіць буду? – прыспана азываецца Алег.

– Хо-о! Што рабіць... Бёрг* згатуеш. А то... ідзі да цягніка. З рукамі адарвуць, – Урубджур суцішна цмокае. – Заўтра ўдвух пагонім, а паслязаўтра ўжо адзін.

Пачуўшы такое, Алег уздыхае.

– Ты не хвалюйся, – бадзёра гукае стары, – я табе ў памагатыя Правакатара дам.

– Якога правакатара?!

– Казла. Правакатара. Ён ужо каторы год гурты на станцыю водзіць.

Мухтар, які ўвесь час бег наперадзе, нечакана наструніўся, заліўся брэхам, знік за пясчаным пагоркам.

– Сайгака пачуў, – задаволена прамовіў стары. – Добры сабака. Купіў шчанюком у аднаго чэчэнца.

– А чаму ў яго вушы абкарнатыя? – пацікавіўся тым часам Алег, хаваючы позех у жменю.

– Як чаму? Каб ваўка лепей чуў!

– Ваўка?!

Урубджур смешлівым вокам зірнуў на Алега.

– Вось што, хлопец. Галоўны вораг у гуртаправа не чатырохногія, а двухногія. Зразумеў? – і, сцёбнуўшы Цыгана, стары заспяваў тужлівую, напэўна, толькі яму аднаму вядомую песню.

Да кашары Улан-Хол яны дабраліся на змярканні. Збольшага пералічыўшы авечак, Урубджур пасек на дровы збуцвелы тын, што атачаў пастаўнік, і расклаў агонь. У стэпе цямнее хутка – не паспела закіпець вада ў сагане, як насунулася цемра, ад усходу пацягнула

---

*Бёрг – калмыцкая нацыянальная страва.

прахалодаю, і прадвесніца ночы – вечарніца – мякка прашапацела над галавою.

Прыемна было разлегчыся на цёплай, яшчэ не астылай пасля дзённага сквару зямлі, падперці рукамі падбароддзе і глядзець, глядзець неадрыўна, як прагна ліжа агонь збуцвелае дрэва, фантастычным ценем адбіваючы рухавую постаць Урубджура на сцяне авечніка, як лятуць у чорную бездань плоймы вогненных знічак. Стары сядзеў пры агні, памешваў у сагане драўлянай лыжкай і на дзіўнай мешаніне калмыцкіх і рускіх слоў распавядаў пра сваё жыццё, пра першую і адзіную сваю жонку Кэрмэн, якая так і не даехала да Алтая, пра далёкі сіні Алтай, дзе ён пражыў трынаццаць гадоў, і пра ўсё тое даўняе, напаўзабытае, што прыйшло на абуджаную начным цяпельцам памяць.

Рабіліся цяжкімі павекі, цішэў голас старога, вясёлкавыя шары ўзнімаліся ў чорнае неба; шары разбіваліся,ападалі каляровым дажджом, і іншы голас, па-акторску ўпэўнены і няшчыры, гучаў ля начнога цяпельца.

Агонь шугаў аж да неба, ад паху шашлыкоў кружылася галава, а ён, студэнт другога курса Галабурда, ачмурэлы ад салаўіных песень, дармавой гарэлкі і ідыёцкіх жарцікаў Базевіча, апантана махаў хваёвай галінкаю, разганяючы дым над мангалам. Ён слухаў тыя жарцікі, і яму зусім не хацелася смяяцца, але ён смяяўся гучней ад астатніх, а згледзеўшы на плячы камсамольскага бога парушынку, сцярожка зняў яе дрыготкімі пальцамі.

Пасля шашлыкоў усе гамузам кінуліся купацца, і толькі яны з Базевічам засталіся ля вогнішча. Схіліўшы галаў так, што на шыі пазначыліся глыбокія зморшчыны, задуменна мружачы п'янаватыя вочы, ён усім сваім выглядам паказваў, што нават тут, на загараднай базе, куды яго ўпершыню запрасілі, думкі ягоныя не

пакідала турбота пра надзённыя камсамольскія справы.

— Ёсць меркаванне паслаць цябе ў Балгарыю, кіраўніком тургрупы. — Базевіч выцягнуў з агню жарынку і, перакідваючы яе з далоні на далонь, прыпаліў цыгарэту.

Нервова тарганулася брыво, даўкі камяк захаплення пераняў дыханне, і ён, задыхаючыся ад шчасця, страшным голасам выдыхнуў:

— Ехаць не маю права. У будатрадах зусім занядбаная камсамольская работа.

— Разумею, — ціха прамовіў Базевіч, — разумею, Алег. Ад работы проста душымся. — Базевіч паклаў яму на спіну сваю загарэлую, прапахлую дарагім адэкалонам руку. — Дарэчы, Вараб'ёў Аляксандр, ён што... разам з табою жыве?

Гэтае кароткае, здавалася б, бяскрыўднае пытанне, выпетрыла хмель з галавы, халоднымі шчымётамі сціснула сэрца.

— Ты ж чуў, напэўна, што Вараб'ёў выдаў на сходзе: „Камсамол — кузня бюракратыі"... „фармалістычная багадзельня"... камсамольскае бюро назваў зборняй кар'ерыстаў, карацей, — Базевіч пудліва азірнуўся, — пакаціўся твой сябручок не па той дарожцы.

Кволыя языкі полымя зялёнымі плямамі адбіліся ўваччу, і здалося на міг, што ўсё наўкол: гэтае ачахлае вогнішча, абрус з гарою едзіва, гэтыя гладкія хлопцы і дзяўчаты, камсамольскі важак Базевіч і сам ён, камсамолец Галабурда, — толькі знявечаныя адбіткі нейчага сапраўднага і годнага жыцця.

— ...Твая задача — высветліць, з кім ён, апрача, вядома, Сарокіна, кантактуе, чым займаецца ўвечары, якія кніжкі чытае... Іхнія размовы з Сарокіным няблага было б і занатоўваць. І яшчэ. Папрасі ў яго сшыткі... ну тыя, дзе ён піша пра Тарашкевіча, — Базевіч удругарадзь

азірнуўся. – Разглядай гэта як адказнае камсамольскае даручэнне.

– Базевi-iч! Рату-у-й! – пракаціўся па наваколлі жартаўлівы вокліч, і камсамольскі важак усхапіўся на ногі. Якраз за іхнімі спінамі, у сутонні парадзелай ночы, актор драмтэатра Вартанян хапаў за голыя лыткі загадчыцу турбюро „Спутник" Эсмеральду.

Ён таксама ўстаў з бервяна і, зірнуўшы на спалатнелы твар Базевіча, завілай хадою пабрыў да абруса.

– Дык вось... дык вось навошта [redacted] яму спатрэбіўся. – Кульнуўшы чарку, ён хітнуўся, перакуліў мангал з шашлыкамі і, дарэшты перапэцкаўшыся ў сажу, панурыўся тварам у расяны дзядоўнік. Апошняе, што данеслася да ягоных вушэй, быў вясёлы рогат сябрыны, калі генеральская дачка Эсмеральда абкладвала яго, соннага, пустымі пляшкамі з-пад гарэлкі.

– Эй, зноў спіш?

Ён ачомваецца, прыспана глядзіць на Урубджура.

– На, падмацуйся бёргам, а то заўтра без абеду будзем, – стары працягвае місу з параным едзівам. Алег з неахвотаю ўпіхвае ў рот гарачы камяк, камяк пячэ паднябенне, і даводзіцца прагна ўцягваць паветра, сцюдзячы гарачую ежу.

– Бёрг гэты зусім як нашыя калдуны, – зазначае камісар, лена варушачы сківіцамі. – Толькі ў нас замест цеста бульба.

– Бульба? – насцярожліва перапытвае Урубджур. – Бульба – знаю! Бульба – гэта картошка! – і, бліснуўшы ў цемры раскосымі вачыма, стары задаволена смяецца.

Пры канцы жніўня над Чорным стэпам абуджаюцца сухавеі. Подыхі гарачага ветру гоняць пыльную замець; пыл засціць далягляд, размытымі чорнымі слупамі падымаецца ў неба; пыл рыпіць на зубах, дзярэ ў перасохлым горле, і няма ад яго паратунку на гэтай бязмежнай, адкрытай усім вятрам прасторы.

Выпіўшы рэшткі вады з бутэлькі, гуртапраў агледзеўся. Пукаты пагорак, на які ўчора паказваў Урубджур, надзейным арыенцірам паўставаў сярод стэпавай роўнядзі. „Яшчэ два кіламетры, і трэба будзе забіраць управа”, – падумаў гуртапраў і, падганяючы маладога маркача, які адбіўся ад статка, бразнуў шарготкамі. Шарготкі – налыганыя на вяроўчыну накрыўкі ад кампоту – наводзілі жах на віславухіх. Вось і цяпер, пачуўшы бразгат, маркач пужліва падскочыў і, наставіўшы рогі, брыклівым алюрам рынуўся да гурту.

Пылюка тым часам узнялася неверагодная. Захінаючыся ад пылу, гуртапраў схіліў голаў набок ды так і застыў у непаразуменні: праваруч, у мроіве жоўтай смугі, пустыннаю відмаю паўставаў гэткі ж пяшчысты, парослы белым палыном, пагорак. Кроў горача падкацілa да скроняў. „Учора ж там пагорка не было! Няўжо заблукаў?” – гуртапраў працёр далонню зацярушаныя вочы. Спадзявацца цяпер можна было толькі на Праваkатара.

... Казёл, па мянушцы Правакатар, па-ранейшаму ішоў наперадзе гурту, саманадзейна трасучы адвіслаю барадою.

– Ідзі, ідзі, братка! – прашаптаў гуртапраў, пераводзячы дых пасля шпаркага бегу, і, каб не замінаць чарадзе, ступіў колькі крокаў назад. Штосьці суха затрашчала пад нагамі, шукаючы апірышча, ён узмахнуў рукамі і пад роспачны бразгат ахвяраваных Урубджурам шарготак паляцеў долу. Моташная болесць працяла калена. „Куды гэта я?” – адно і паспеў падумаць гуртапраў, як нешта тупое і важкае абрынулася на голаў, на момант затуманіўшы свядомасць. Галава шалёна круцілася, і нейкая цёплая варушкая маса ціснула да зямлі, не давала прадыху. З астатніх сіл ён скінуў з сябе цяжар, і у той самы момант яго званітавала.

Надрыўна, з глухім прыдыханнем бляяла авечка. Жывёліна балюча ступала між лапатак, тыцкалася

пысаю ў скрываўленую скронь, павяваючы ў твар кіславатым пахам аўчыны. Кружылася галава і нясцерпна хацелася піць.

– Мамачка! – прастагнаў гуртапраў, калі расплюшчыў вочы і зірнуў на акравак барвовага неба. Свет патанаў у чырвоным тумане – туман ліпнуў да твару, пухкаю ватай закладваў вушы, і барвовыя хмары над галавою гатовыя былі абрынуцца крывавым дажджом.

Кроў засціла вочы. Ён паспрабаваў падняцца, але адзінае, што здолеў, гэта прыўзняць голаў і абаперціся плечуком на сценку ямы. Паволі церусіў пясок. Тонкія цуркі, нібыта струменьчыкі пясочных гадзіннікаў, сцякалі на дно ямы, і нечаканая думка, пакінуўшы боль у калене і моташнае галавакружэнне, працяла затлумлены розум: чый час яны лічаць?

– Мамачка, – шапнулі сасмяглыя вусны.

– Ммэ-э? – азвалася пад бокам авечка.

Здаровай нагой ён адсунуў авечку ўбок і адчуў раптам, як штосьці агідна-пачварнае паўзло па грудзіне. Ён часта заміргаў, прымружыўся і, убачыўшы перад носам вялізную пясчаную гадзюку, ізноў, ужо з дрыготкаю ў голасе, выдыхнуў:

– Мамачка!

Валасы падняліся на галаве, разбітая нага нервова тузанулася, а змяя, выпусціўшы з рота даўжэзны падвойны язык, спаўзла па зямелай руцэ на дно яміны. Забыўшы на боль, ён сцягнуў з нагі акарэлы Урубджураў бот, упіхнуў руку ў халяву, штосілы ўдарыў па разамлелай ад спёкі гадзюцы. Гадзюка злавесна сыкнула, а ён, ужо нічога не бачачы навокал, апантана лупіў і лупіў па агідных кольцах, што віліся ля ног.

...Скрозь аднастайны шум у вушах прарываецца густы барытон Базевіча.

– Вы дарэмна фанабэрыцеся, Сарокін. Цяпер, калі

Георгій Максіміліянавіч пайшоў на пенсію, фанабэрыя гэта можа вам зашкодзіць.

Жахам павявае ад ільсняна-вільготных сцен, ад зялёнага абруса на стале, ад патаемнай усмешкі бялявага маладзёна, што сядзіць пры канцы стала, штосьці рупліва занатоўваючы ў сшытку. Ачуцца, пазбыцца наслання, вырвацца з абдоймаў гэтых ільсняна-жахлівых сцен. Цела ягонае працінаюць дрыжыкі. Каб неяк утаймаваць дрыготку, даводзіцца запіхваць далоні пад напятыя сцёгны. Алесь сядзіць поруч, таксама дрыжыць, і толькі Гек захоўвае спакой, выгодна раскінуўшыся ў мяккім крэсле.

– І не проста пайшоў, а загрымеў па стане здароўя, – абзываецца Гек, выцягваючы з пачка чарговую цыгарэту.

– Вы нават над старым бацькам іранізуеце, – з робленым уздыхам прамаўляе Базевіч, – няма ў вас анічога святога!

– Дзе ж яе набрацца, гэтай святасці? Ці не ў вас пазычыць?

Базевіч адкідваецца ў крэсле, бярэ рукі ў крыж.

– Ну, адкуль вы з Вараб'ёвым ды Галабурдам набіраецеся „святасці", нам вядома. Вашы вандроўкі па Гродзеншчыне,ператрусы гарышчаў у пошуках бруднай пісаніны розных там цемрашалаў накшталт Гаруна...

Кропля халоднага поту зрываецца з кончыка носа. „Ну што ты хвалюешся, што хвалюешся, – супакойвае ён сам сябе, – Базевіч жа назваў ягонае імя сумысля, каб хлопцы не падумалі чаго..."

– Ваш апошні выбрык, – Базевіч перапыняецца, прымружвае вочы. – Ваш апошні выбрык, калі Вараб'ёў замест рэферата па „Малой зямлі" прачытаў ілжывы, поўны антысавецкіх прыдумак „жыццяпіс Тарашкевіча", камсамольскае бюро інстытута разглядае як палітычную правакацыю, – голас Базевіча халоднымі

мурашкамі казыча спіну. – Так, мы рэабілітавалі Тарашкевіча, але рабіць з яго...

– Хто рэабілітаваў? Ты?! – пасінелыя ад напружання пальцы Гека раструшчылі прыпаленую было цыгарэту. – Учора хапаў за лыткі дзевак са „Спутніка”, піячыў за дзяржаўныя грошы, драў глотку ў групе скандавання, а сёння рэабілітуеш Тарашкевіча? Ты? Бесхрыбетны мешчанюк, які залез у крэсла дзякуючы бацькавым каўбасам!

На твары Базевіча, нібыта атрамант скрозь бібулу, праступілі нездаровыя барвовыя плямы. Вочы ягоныя павылазілі з вачніц і ашклянела ўтаропіліся на бялявага маладзёна.

– Вы, Сарокін, хворы чалавек, – падаў голас маладзён і падняўся з крэсла.

– Яшчэ адзін... папяровы карчагінец? Таксама, напэўна, кумпякі начальнікам вазіў, каб у людзі выбіцца?

– Вы хворы чалавек, Сарокін. Днямі вас паклічуць на прыём да псіхіятра. Можаце ісці! – нечакана рэзка выгукнуў маладзён і, ляснуўшы па стале пухнатым сшыткам, дадаў: – Галабурду прашу застацца!

„Божухна, што ім трэба? Я ж усё сказаў, усё зрабіў, як яны хацелі!” – ён зацкавана глядзіць уваслед Алесю, і той, перш чым выйсці з пакоя, ледзь прыкметна ківае: „Трымайся!”

– Алег Іванавіч... Наш камсамольскі актыў, – кажа Базевіч, прычыняючы дзверы. – Я табе пра яго казаў.

Маладзён па-кашэчы мякка абыходзіць стол, паціскае пальцы:

– Дзякуй вам, Алег Іванавіч, вы нам вельмі дапамаглі. Сядайце, сядайце. – Белая, без ценю загару рука кладзецца на плячук. – Ёсць у нас, Алег Іванавіч, яшчэ адно, бадай што, апошняе пытанне, – маладзён няспешнаю хадою ідзе да сейфа. – Вам ніколі не даводзілася бачыць долары? – Дзверцы сейфа з лёгкім рыпеннем

расчыняюцца, і маладзён, панурыўшы руку ў жалезныя лёхі, выцягвае адтуль пачатую пляшку каньяку.

„Долары? Якія долары?" – ён выцірае рукавом халодны пот з ілба, рашуча трасе галавою.

– А Сарокін вам іх ніколі не паказваў? – буйная кропля паволі паўзе між лапатак.

– Не, ніколі!

– Вы падумайце, пастарайцеся ўспомніць. Зялёныя такія паперкі.

„Божухна, калі ўсё гэта скончыцца?.. Я ж усё сказаў, усё напісаў... Што ім яшчэ трэба?" Яму моташна, ільсняная сценка мітусіцца ўваччу, і ён, ужо амаль непрытомны, суцішна выдыхае:

– Штосьці было...

„Штосьці было" – гэта так цьмяна, так неакрэслена. „Штосьці было" – рыпяць металёвыя дзверы за спінай. Ён бяжыць па цёмным калідоры, ратуючыся ад гэтага страшнага рыпу, чапляецца за дывановы ходнік, стукаецца аб вушак, а вырваўшыся на залітую сонцам вулку і захлынуўшыся халаднаватым, па-вясеннему п'янкім паветрам, выдыхае:

– Нічога... нічога не было!

Паволі, нібыта кандэлябра ў тэатры, цьмянее сонца. Хвіліну яно яшчэ свеціць, яшчэ кранаецца твару сваім халодным, нежывым святлом, а потым гасне зусім, і недзе над самаю галавой нараджаюцца шпаркія крокі. Крокі цішэюць, глухнуць, зліваюцца з сухім шапаценнем пяску. Пад бокам, абуджаная святлом ліхтара, адчайна мэкае авечка. Ён хапае авечку за шыю, прыўзнімае голаў.

– Людзі, я тут! – нема крычыць ён у ноч і не пазнае свайго голасу. Дзесьці ў стэпе на высокіх абаротах завывае рухавік.

„Збеглі, падумалі, што нежывы... сволачы, – ён плача, але слёз няма, адно агнём гараць зацярушаныя

пяском вочы. – Я загіну, я памру тут, сярод ночы, у гэтай смярдзючай яме. Ужо заўтра мяне занясе пяском...”

– Не! Не! – крычыць ён, ліхаманкава шнарачы навокал. Рукі натыкаюцца на забітую вужаку, на цёплую пысу авечкі, намацваюць кавалак збуцвелай дыкты, якой была накрыта яма. Схапіўшы фанерыну, ён адчайна дзяўбе сухую гліну. „Выдзеўбці прыступку, падцягнуцца на здаровай назе, выбрацца з гэтай жахлівай890 пасткі... Паўзці, перакочвацца, грызці зямлю, але выбрацца”.

Кроў грукоча ў скронях, густым цурком збягае па твары. Свет перакульваецца, і камісар, каб не паляцець у бяздонне начнога неба, ушчаперваецца пальцамі ў халодны пясок сваёй магілы.

Да адпраўлення цягніка заставаліся лічаныя хвіліны. Алеся на прызначаным месцы не было, і ён, азірнуўшыся на бакі, голасна крыкнуў, сілячыся перакрычаць бязладную вакзальную гамэрню.

– Тут я, тут, – азваўся сябра з-за спіны.

Поціск Алесевай рукі запаў у душу нейкай няўцямнай згадкаю: штосьці ў жыцці было звязанае з гэтым поціскам.

– Знайшлі месца, дзе стаяць! – перагарна выдыхнулі адразу некалькі глотак, і яны адышлі на самы край перона.

– Значыць, на Сургут?

– На Сургут, да дзядзькі. Днямі ад яго ліст дастаў. Піша, што ўладкуе да сябе, мулярам па трэцім разрадзе.

– А можа, усё ж такі застанешся, перавядзешся на вечаровы?

– Дарогу, дарогу, грамадзяне! – памаранчавы электракар з шыхтом грукатлівых драбінак паволі выбіраецца з людскога натоўпу.

– Справа вырашаная. Ды і дзядзька чакае, – Алесь

ускінуў на рамёны пляцак, але, згадаўшы аб нечым, скінуў пляцак долу і таропка расшпіліў лямкі. – Вось, вазьмі на памяць. Ахвяруеш калі-небудзь музею.

Сшэрхлая вокладка „Граматыкі" непрыемна казытнула пальцы.

– Ну, давай! – сябар абняў яго, страсянуў на адвітанне за плечы, і ён дакрануўся вуснамі да цёплай Алесевай шыі.

– Сталі тут як азяроды, прайсці няможна! – гукнула цётка ў чырвоным, збітым набакір парыку, якая прабівала сабе дарогу аграмадным дывановым скруткам.

– Алесь, пачакай! – ён адчуў раптам, як шмат яму трэба сказаць сябру гэтай апошняю, расстайнай хвілінай. – Разумееш, мне здаецца, што мы памыляліся, – вочы ягоныя, нібыта шукаючы штосьці, блукалі па запляваным асфальце, – гэтая нашая ілюзорная радзіма, мова, якая нікому не патрэбная, гэтая твая ахвяра. Дзеля чаго яна? Ісці да ісціны трэба з народам...

– Убіцца ў натоўп і бадзёра шыбаваць да...

– З дарогі, з дарогі, мальцы!

– Ісціна таму і ісціна, што нараджаецца не з канфармізму, а з вялікіх і малых ахвяраў, з чалавечых пакут, з памылак, нарэшце...

– Чаго вы тут пасталі, паразіты? – дзядзькі ў цыратавых хвартухах, што цягнулі да вагона-рэстарана скрыні з гарэлкаю, адсунулі Алеся ў самыя нетры натоўпу.

– Пачуеш што пра Гека – напішы! – гукнуў Алесь, і рука ягоная на кароткае імгненне ўзляцела над людскімі галовамі.

– Алесь! Жыццё адно! – адбіліся ад вакзальных сцен словы апраўдання, і раптоўная здагадка зыркім святлом асвяціла памяць: гэта Алесь дапамог яму ўзлезці на машыну, першы падаў руку – тры гады таму, у той далёкі, не па-восеньску скварны дзень.

Дома, не распранаючыся, ён падраў „Граматыку" на дробныя шматкі і ўкінуў у бляшанку з недакуркамі. Папера спорна загарэлася, жоўтая яснасць асвятліла твар, і ён, адчуўшы за спінаю нечую постаць, спалохана азірнуўся. На аблезлай, паплямленай рэшткамі старых выцінанак інтэрнатаўскай сцяне чорнай зданню паўставаў ягоны цень.

Раніцою, калі аціхае вецер, паветра ў стэпе бывае надзіва празрыстае. І калі доўга ўглядацца ў незамглёнае пылам неба, то там, у лазурковым прадонні, можна ўгледзець нябачную ўдзень рухавую кропку. Гэта каршун, гаспадар тутэйшых мясцін, лунае над стэпам, аглядаючы з вышыні сваё гаспадарства.

„Зусім як у кнігах", — з сумам падумаў камісар, узіраючыся ў валошкавы блакіт маладога неба. Над героямі кніг, якія ён некалі прачытаў, таксама кружлялі драпежнікі. Героі паміралі ў пустэльнях, і побач з імі, на распаленым аравійскім пяску, сядзелі ўсходнія прыгажуні. Героі ўлашчвалі прыгажунь рамантычнымі аповядамі, і, вядома, ніхто з іх не валяўся на дне ямы, перапэцканы ва ўласныя ваніты.

— Лухта! Усё лухта! — прашаптаў камісар, і на нерухомых вуснах ягоных застыла гаркавая ўсмешка. Дзіўна, але ён зусім не адчуваў болю, і толькі галава злёгку кружылася ці то ад слабасці, ці то ад саладжавага паху палыну, якім было прасякнутае паветра. На душы было спакойна і суцішна, і нават думка аб смерці, ад якой яшчэ ўчора стаўбурыліся валасы на галаве, сёння не здолела сцерці з ягоных вуснаў іранічнай усмешкі. „Ды і што такое смерць? — думаў ён, пазіраючы на рухавую кропку ў небе. — Так, бясконцы сон без сненняў. Нават добра, што без сненняў. Прынамсі, нічога не будзе нагадваць аб мінулым жыцці, па якім ён прабег зацкаваным хлусам". Камісар прыцісnuўся шчакой да авечай воўны, і таварышка па няшчасці

наструнена наставіла вушы. „Адкуль яна, гэтая зацкаванасць? Можа, генетычны спадак? Продкі ж, палескія сяляне, спрадвеку гнуліся да зямлі, баючыся выпрастаць хрыбціны... " „Філасофія хлусаў, – узгадаліся яму словы Гектара, – валіць усё на паноў ды інтэрвентаў замест таго, каб зазірнуць ва ўласныя душы. Толькі што ў той душы ўбачыш? Адонкі страху на цёмным дне?"

Ён сабраў рэшткі сіл, прыўзняў голаў і пакутніцкім голасам выдыхнуў:

– Даруй мне, Божа! Даруй маёй пустой душы! Калі Ты толькі ёсць – пачуй мяне! – і здалося камісару, што недзе там, далёка, дзесьці на другім канцы бязмежнай пустэльні, нехта голасна пракрычаў ягонае імя.

Тае раніцы над Чорным стэпам лунаў стары каршун. Наставіўшы крылы пад пругкі ветрык, увесь час завальваючыся на левае крыло, каршун пільным вокам сачыў за чалавекам у яме. Чалавек ад самае ночы ляжаў незварушна: рукі і ногі ягоныя былі замоцаны пяском, і побач з ім, апусціўшы долу лабатую галаву, ляжала схуднелая авечка. „Доўга не працягне", – падумаў каршун пра чалавека і, даўшы кругаля над ямай, зірнуў на ўсход. Пунсовы дыск сонца павольна ўздымаўся над стэпам, і ўслед сонцу падымалася да неба празрыста-ружовая аблачына пылу. „Відаць, авечак гоняць, – мільганула ў птушынай галаве, – але чаму так рана і чаму ад усходу?" Склаўшы вострыя крылы, драпежнік слізгануў з вышыні ў напрамку да сонца.

Людзі, якія ішлі па стэпе, паводзілі сябе даволі дзіўна. Расцягнуўшыся ланцугом, яны зазіралі за кожны кусцік, за кожную выдму і раз-пораз хорам выгуквалі нечае імя. Наперадзе, на сваім даўгалыгім кані, ехаў нарыхтоўшчык Урубджур. Каршун добра ведаў гэтага чалавека – Урубджур не першы год ганяў па стэпе чароды. Праляцеўшы над людскімі галовамі,

гаспадар стэпу часта замахаў крыламі і спехам падаўся прочкі: у людзей магла быць стрэльба, і яны, як вядома, ад ранку заўсёды не ў гуморы.

Галасы гучаць глуха, не раўнуючы як з таго свету. Вусны ягоныя размыкаюцца ў высілку сказаць адно кароткае слова „піць", і ў гэтае ж імгненне гаючая вільгаць поўніць асмяглы рот. Вада ліецца праз нос, ён захлынаецца, кашляе. Піць! Піць бясконца, да самазабыцця, аж пакуль кожная клетка не напоўніцца жывою вадой.

– Піць!

– Нельга так многа, дарагой!

– Еруслан, гэта ты?

– Я, я, дарагой.

– Авечку, авечку цягніце, шайтаны!

Пякучы боль працінае калена, ён стогне, скрыгоча зубамі, да крыві пракусвае вусны:

– Урубджур, пуста...

– Што, дарагой, што ты кажаш?

– У душы, кажу, пуста... нічога няма!

– Брэдыт, – зазначае Еруслан, – зрушэнне мазгоў у хлопца. Відаць, авечка капытом зачапіла, як падала.

– Гэта Палкоўнік! Яго работа! – грыміць раз'ятраны голас Урубджура, потым усё аціхае, галасы аддаляюцца, і ён сплывае ад іх на людскіх руках, закалыханы замарачнымі хвалямі забыцця.

Яго абудзіла нейкае няўцямнае шапаценне. Добрую хвіліну ён глядзеў на белую, пакрытую шэрымі плямамі столь, на матавы плафон над галавою і ніяк не мог даўмецца: дзе ён і што з ім? Неўзабаве шапаценне паўтарылася, і ён павярнуў галаў. Дзяўчына ў белым халаце сядзела ля ложка і, прытрымліваючы рукою кудзеркі, гартала часопіс.

– Што вы чытаеце, дзяўчына? – ціха запытаўся ён, і дзяўчына спалохана прыўзняла вені.

– Ляжыце, хворы. Я зараз доктара паклічу...

– Пасядзіце са мной, прашу вас!

Дзяўчына сцярожка прысела на край услона, пера-гарнула старонкі.

– Гэта „Тээгін герл”, наш калмыцкі часопіс. „Святло ў стэпе”, значыць.

– „Святло ў стэпе”... Якая прыгожая назва! – ён правёў рукой па забінтаваным ілбе, прыкрыў пальцамі вочы. – Святло ў стэпе – гэта як святло ў душы. Без святла нельга. Без святла і душа і стэп чорныя.

Разняўшы пальцы, ён зірнуў на дзяўчыну, і маладая калмычка, здзівіўшыся, відаць, такім словам, разгублена кіўнула ў адказ.

Улан-Хол – Астрахань

# Жанчыны ля басейна

Дасвеццем, а шостай гадзіне, тым часам, калі ў доме яшчэ спяць, дзверы адзінаццатай кватэры расчыняюцца і на парозе паўстае пахілая постаць Ягора Іванавіча. Ягор Іванавіч зашпільвае гузікі старамоднага габардзінавага паліто, палохае цішу бразгатам ключоў і, палашчыўшы мыском чаравіка суседавага ката, які круціцца пад нагамі, ідзе па сходах.

Плафоны крышталёвых свяцільняў, цёмных з падсподу ад перасохлых, відаць, яшчэ пазалеташніх мух, струменяць нежывое святло, якое цьмянымі бліскамі кладзецца на лысіну Ягора Іванавіча, на мыскі ягоных чаравікаў, на гузікі паліто і на згібы масянжовых парэнчаў.

Крокі гулка адбіваюцца ўгары, працяглым гулам поўняць скляпенні і глухнуць на доле, зліваючыся з храпам прыдзверніцы. Прыдзверніца, як заўсёды такою парой, спіць на сваім лежаку, паклаўшы пад галаў гаспадарчую сумку і бессаромна раскінуўшы тоўстыя ногі. Ягор Іванавіч крывеліцца, асцярожна, каб не нарабіць звягі, прыўзнімае клямку і, выпусціўшы вонкі суседавага ката, таксама выходзіць з дому.

На вуліцы зябка, цёмна і волка.

– Вася! – гукае Ягор Іванавіч ката генерала Абакумчыка.

Кот знікае ў цемры, але праз імгненне зноў з'яўляецца ў коле жоўтага ліхтарнага святла. Там, пад ліхтаром, на бетоннай шайбе, якую замілаваў генеральскі гадунец, стаяла калісьці міліцэйская будка...

Ягор Іванавіч перакідвае з рукі на руку поліэтыле-

навую торбу, зачаравана, нібыта шукаючы ў тым нейкі патаемны сэнс, глядзіць на кашэчую кучку, і кучка настальгічнаю жоўцю расплываецца ў вачах. Згадкі пра будку, пра ліслівыя воклічы „Здравію жалаю!", пра службовую „Пабеду", што пужала людзей сваімі фіранкамі на вокнах, поўняць грудзі халоднаю тугой. Туга падкочваецца да горла, Ягор Іванавіч крэкае, смаркаецца ў жменю і, аблаяўшы ў душы Мікіту Сяргеевіча Хрушчова, ляпае торбаю па сцягне. У поліэтыленавай торбе, якую ён нясе і на якой намаляваная нейкая заходняя самадайка, ляжыць змена бялізны, кавалак імпартнага мыла і айчынная лубяная вяхотка.

— Жыццё на іх, свалачэй, цаклаў... і яны паклалі... г... кучку, — па-старэчы ўголас разважае Ягор Іванавіч, прыспешвае крок, і ягоныя мяккія, на ветэранскі талон купленыя чаравікі рашуча плюхаюць па лужынах.

І сапраўды! Аддзячылі! Каб яму, паважанаму чалавеку, памыцца ў роднай лазні, даводзіцца ўставаць а палове шостай. Гэты стары шашок Абакумчык, што верхаводзіць у дынамаўскім спорткамбінаце, прызначыў сеанс на сёмую гадзіну. Ці не здзек, га? Хацеў быў Ягор Іванавіч адмовіцца ад таго мыцця, але як адмовішся, калі парылка, духмяны венік ды глыток халоднага „Пільзнера" сталіся апошняю радасцю ў жыцці. Не, без лазні ён нябожчык. Толькі на палку і пачуваецца чалавекам. Гэта ён тут, на праспекце, пахілы ды скурчаны і галава торгаецца, як у таго доктара Плейшнера, а на палку — ого-о! Зганяе стуль нават малойцаў з урадавай аховы.

Імжака, што вырываецца з-пад колаў імклівай таксоўкі, непрыемна кранаецца твару, сцягвае скуру на пераноссі: таксоўка ляціць у бок Беларускага, паспяваючы, як бачна, да ранішняга цягніка, і святлафоры на скрыжаваннях зацята міргаюць ёй услед сваімі пугачынымі зекрамі.

— Касмапаліт бязродны! — лаецца Ягор Іванавіч,

выцірае пераносce і, прыклаўшы далонь да правага, больш чуйнага вуха, настройваецца пачуць сярод бязладдзя вулічных зыкаў мяккі шолах сынавай „Волгі".

Пагодным днём сярэдзіны верасня ў Сеўруках дакопвалі бульбу. Шасцідзесяціпяцігадовая Міронаўна, развязаўшы хусцінку, якой быў завязаны рот, выпрастала спіну, прыпала да бутэлькі з малаком, ды нечакана закашлялася, захісталася і паволі асела ў разору. Старая сцяла павекі, намагаючыся пазбыцца чорных мятлікаў уваччу, але гэта не дапамагло: свет зрабіўся шары, потым насунулася ноч і, ці то папраўдзе, ці то гэта толькі падалося Міронаўне, дзесьці за Каінавай гарой цяжка ўздыхнуў сам Гасподзь.

– А божачкі! А што ж гэта? – спалохана войкнула дачка Міронаўны, цётка Кацярына. Адкінуўшы убок рыдлёўку, Кацярына ўкленчыла, сёрбнула на поўную губу з бутэлькі, пырснула малаком у твар самлелай маці.

– Чаго ты? – незадаволена скрывілася Міронаўна, калі расплюшчыла вочы.

– Як чаго? Самлела ж! – Кацярына выцерла лоб ражком матчынай хусткі, з вохканнем паднялася на ногі: – Задуха – хоць язык высалапі. Не іначай на дождж бярэцца, – прамовіла яна, пазіраючы на далягляд.

У доказ Кацярыніным словам за Каінавай гарой пагрозліва грымнула.

– Давай, дачушка, а то змокне! – адчуўшы палёгку, Міронаўна стала вокрач, папаўзла да мяхоў, але дачка схапіла яе за спадніцу.

– Не дурніся ты! На твары ні крывінкі! Памрэш хутка ад тае работы! – крыкнула дачка, падхапіла маці пад пахі, і жанкі, паспрачаўшыся яшчэ якую хвіліну, паволі пасунуліся да хаты.

„Месяц дажджу не было, а як ехаць, так наспеў", — з гэтаю невясёлаю думкаю Кацярына выцягнула з-пад страхі жмутак поліэтылену і яшчэ раз зірнула на гасцінец. Па гасцінцы, цягнучы за сабою даўжэзны шлейф пылу, ляцела калгасная малакавозка. „Толькі б Хвядзька не напіўся, — падумала жанчына, камечачы на грудзях поліэтыленавы жмутак, — цягніся тады пяць кіламетраў... А можа, ужо дзюбнуў? Вунь як ляціць!"

Тым часам малакавозка скацілася з гары, накрыла пыльнай аблачынаю вясковы клуб і, скіраваўшы да дарсжніка, спынілася ля крайняе фермы.

— А каб цябе... — выдыхнула Кацярына, калі дзверцы малакавозкі расчыніліся і з кабінкі, нібыта тая вязка саломы з адрыны, выкулілася нечая цёмная постаць. Кацярына прымружыла вочы, мерачыся сказаць пра вадзілу малакавозкі штосьці дужа абразлівае, але подых ветру ды буйныя шроціны дажджу, што ўдарылі па плёнцы, не далі ёй гэтага зрабіць, і яна, разгарнуўшы тую плёнку над галавой, подбежкам кінулася да бульбы.

— Ізноў пікавы кароль! — сустрэў Кацярыну запалы матчын голас, калі яна вярнулася ў хату. Маці, ачунялая, паружавелая з твару, сядзела на ложку і займалася тым, чым яна любіла займацца кароткімі хвілямі спачыну — варажыла на картах.

— І будзеш стаяць каля казённага дома, і сустрэнецца табе той кароль, і нейкі пікавы ніжнік будзе побач,— бубніла старая, мерна ківаючыся. — Нядобры чалавек. Калісьці вы з ім ужо сустракаліся. Цяпер ізноў стрэнецеся, але адно аднаго не пазнаеце.

„З кім гэта я там сустрэнуся? — падумала Кацярына, сцягваючы з плячэй дарэшты змакрэлую кофту. — Ці не з Хвядзькам Мазарыным? Апух жа ад п'янкі, што і пазнаць цяжка".

— Колькі ты мне, мама, жаніхоў наваражыла, ды дзе

яны, жаніхі тыя? – Кацярына ўздыхнула, са стогнам узлезла на ложак. – Хлусяць твае карты!

– Перабірала дужа, – азвалася са свайго кута маці, – дужа носам круціла. Вось і засталася векавухай.

На тыя словы Кацярына зноў уздыхнула, і маленькі, не больш ад друкарскае кропкі, павучок мерна закалыхаўся пад столлю.

– Перабірала... Было б што перабіраць, – скрозь слёзы прашаптала Кацярына, кульнулася на правы бок, і вочы яе паланіў нехлямяжы алень на выцвілым дыване. Колькі разоў яна парывалася зняць гэты дыван, кінуць пад ногі, прыхаваць ад вачэй абрыдлага аленя, але маці не давала.

– Пройма ад сценкі, дый па бацьку памяць. З Масквы, са з'езда ўдарнікаў прывёз, – казала старая, і алень стаяў у вачах, і крыўда смактала сэрца, і здавалася векавусе, што алень, гэта зусім і не алень, што гэта яна, Кацярына, тоне ў атрамантавай багне, загнаная туды невядомымі драпежнікамі.

– Непагадзь якая. Можа, не ехалі б сёння, перачакалі? – шпурнутыя вятрыскам кроплі звонка секанулі па вокнах. Маці прамармытала яшчэ нешта, але дачка не пачула. Кацярына плакала, утрапёна пазіраючы на аленя, і алень плыў у чорнай багне, і плылі лісты нетутэйшых раслін, і усё плыло ў вачах у векавухі, як плыло яно тою салодкаю хвіляй, калі гарачыя Хведзькавы рукі лашчылі яе маладое неспатольнае цела.

Кацярына лягла на спіну, яшчэ раз уздыхнула, і разам з павучком, што калыхаўся пад столлю, ускалыхнулася і квяцістая фіранка ля ложка.

Вадзілу малакавозкі, па якім плакала Кацярына, звалі Хведарам Пятровічам. І хоць вадзілу таму было далёка за сорак, Хведарам, а пагатоў Пятровічам, яго ніхто не называў. Клікалі па-свойску: Чомба. Хто такі гэты Чомба, у гонар якога ахрысцілі Хведзьку, ніхто на

вёсцы не памятаў – знік Чомба, расцёкся бясследна ў тумане людской няпамяці. Ну, ды такой бяды! Затое сеўрукоўскі цёзка ягоны квітнеў і пахнуў. Дарэчы, пахнуў цёзка адмыслова: у тых, хто меў шчасце пастаяць побач з ім і прынюхацца, ствралася ўражанне, што ў чэраве ягоным месціцца парфумны аддзел універмага. Гарадскія алкагалічкі, якіх прыслалі ў Сеўрукі на перавыхаванне, круцілі ад таго паху насамі, моташна вякалі, а каб пазбыцца пахмельных пакутаў, прыкладваліся да бітона з брагай. Налівалі, вядома, і адэкалоншчыку. Чомба бражку выпіваў, крэкаў, а пахмяліўшыся, любіў алкагалічкам пра свае амурныя прыгоды распавесці. Сядзе на тарпу саломы, папяроску прысмаліць і давай... Дзеўкі ад тых аповядаў вокраччу поўзалі, рукамі махалі ды за друзлыя жываты хапаліся. На двары ранняя раніца, каровы рыкаюць нядоеныя, а на ферме смех, віск... Чомба якую ссыльную і на торп узваліць, за сцягно хапане, але тут усё і канчалася. Не падабалася сталічным дэвоткам такое абыходжанне: па пысе Чомбу білі ды „стармонам няруськім" абзывалі. Надта ж крыўдаваў Чомба на тыя словы. Не, не за „стармона" – тут усё правільна. Не любіў вадзіла, калі яго „няруськім" называлі. І ў каго ён толькі такі смуглявы ўдаўся? Маці ж, цётка Таццяна, белая, бы тая павуцінка, ды і бацька, казалі, бялявы быў. Праз тую смуглоту і чапляліся да Хведзькі розныя мурынскія мянушкі. Вунь і ў арміі, як на шафёра вучыўся, інструктар ваджэння інакай як Поль Робсанам не называў.

Дык вось, сядзіць Чомба на тарпе, кусцістыя бровы хмарыць – чакае, значыцца, калі яму яшчэ нацэдзяць. Але дзеўкі ўжо навучаныя: налі яшчэ – не даедзе малакавозка да горада. Захрасне дзе ў канаве ці мо, як летась, у Вядрошу зваліцца. Мінулым летам Чомба ўжо даваў нырца, як толькі не ўтапіўся. Машыну потым два дні з рэчкі цягнулі. Чомбу пасля таго выпадку на комплекс паслалі, гной ад кароў адкідваць. Цэлы месяц

з сахаром уходжваўся, аж неўзабаве на ферме малако скісла, не было каму на завод адвезці. Старшыня тады ў раён паехаў, некага там улашчыў, прывёз правы назад. Загадаў, праўда, заяву напісаць аб звальненні, толькі дату не ставіць. А Чомбу што – заяву напісаў і далей абаранак круціць, у канавы куляецца.

– І як толькі сабе мазгаўню не растрасе? – бедавалі вясковыя жанкі, што збіраліся перад абедам у сеўрукоўскай краме, і нехта з іх абавязкова дадаваў: – А які хлопец быў! – Пасля такіх слоў жанкі ківалі галовамі, зыркалі на Кацярыну, і тая, кінуўшы што-небудзь накшталт: – Няма чаго ўспамінаць! – скіроўвала вочы да балонневых куртак, якімі была завешаная крама.

Няма чаго... Ды ўспаміналa, успаміналa Кацярына таго, былога Хведзьку, сарамлівага і пагляднага, з шыхтом прыгожых значкоў на мундзіры, якія так пяшчотна калоліся скрозь сукенку. І аж дагэтуль шчымела ў грудзях векавухі ад таго прагнага глытка шчасця, якім захлынулася яна тою далёкаю восенню.

Кароткімі былі іхнія ночы, кароткім было Кацярыніна шчасце. Толькі тыдзень і пагуляў Хведзя пасля службы. Перадзім'ем паехаў у горад – меў жа пашпарт, дый на шафёра вывучыўся ў войску.

– Уладкуюся – забяру цябе, – сказаў на развітанне і на знак заручын надзеў ёй на палец маленькі пярсцёнак. Пярсцёнак гэты і цяпер ляжыць у шкатулцы разам з хрысцільным крыжыкам, жмуткам аблігацый і пажоўклаю даведкай з бацькавай рэабілітацыяй.

Успаміны. Яны засцяць вочы гарачымі слязамі, яны робяць бяссоннымі ночы, толькі ж куды ад іх падзенешся? І чым жа яшчэ, як не ўспамінамі, жыць саракавасьмігадовай векавусе?

... Хведзька ажаніўся ўвесну. Пакваліўся, відаць, на цесцева багацце. Цесць жа, казалі, дужа багаты быў. На вяселлі, як ужо маладых надзялялі,тры сотні ў канверт паклаў. Ну, а як жа інакшай? Самохаць такую мымру ці

ўзяў бы хто? Маладыя потым да Хведзькавай маці, цёткі Таццяны, прыязджалі, пад ручку да клуба прахо-джваліся. Кацярына напачатку ў хляве хавалася, скрозь шчыліны зыркала ды локці кусала. Гэта потым ужо астыла, плюнула і на Хведзьку, і на мымру ягоную кірпатую.

– Адальюцца табе мае слёзы, – толькі і сказала Хведзьку пры сустрэчы.

Ну дык жа як у ваду глядзела! Пажыў Хведзька з гарадской жонкаю, пахадзіў з ёю пад ручку ды неўза-баве і развёўся. Што яны там не падзялілі – аднаму Богу вядома, але ж цётка Таццяна казала – усё праз грошы. Плакалася: сват маладым сервант падараваў, а што яна магла? І так апошнюю капейку з хаты вынесла, каб вяселле справіць.

Хведзька пасля разводу піць пачаў. Ох, ужо і піў чалавек! Мазарыніха ўсе вочы выплакала, кожную суботу ў горад ездзіла, сына вярнуцца ўпрошвала: усё ж, думала, каля маткі, можа б, і ачуўся, за розум узяўся.

З аўтабазы, дзе працаваў слесарам, Хведзьку выгналі. Дзякуй Богу, сябрукі дапамаглі, на ДАК улад-кавалі, на дрэваапрацоўчы камбінат, значыцца. Убіўся ён там у цэх шырспажыву, дзе труны майструюць. А там, – вядома. Якую труну дзяржаве, а якую і набок спіхнуць.

Аднаго разу прыехала цётка да сына і не заспела таго ў інтэрнаце. Гадзіну чакала, другую... Збіралася ўжо да аўтобуса сунуцца, а тут нейкі хлопец на ДАК ішоў і цётку ўзяўся правесці. Прывёў на ДАК, завёў у цэх шырспажыву, цётка глянула і як не абамлела: ляжаў яе Хведзя ў труне, пад галоўку габлюшкі па-клаўшы, белыя ручкі на грудзіне злажыўшы, і хроп на ўсю храпу. Сябрукі-п'янчугі таксама ў трунах ляжалі, некаторыя і векамі панакрываліся, каб мухі не нада-кучвалі. Паспрабавала цётка пабудзіць сына, але куды

там... Хведзька толькі мацюкнуўся спрасонку. Так і з'ехала шылам патакі хапіўшы і болей ужо ў горад не ездзіла.

А гадоў праз пятнаццаць Хведзька, да сівых валасоў дажыўшы, з нейкай буфетчыцай пабраўся. Сышліся, не распісваючыся, як ён сам потым расказваў. У нейкага бязногага інваліда катушок знялі, за сорак пяць рублёў у месяц. Сужыцелька ягоная таксама чарку міма рота не праносіла, у маладосці нават лекавалася ад п'янкі. Хведзька, як жонку займеў, дык напачатку і піць кінуў, стаў да маці прыязджаць, тое-сёе па гаспадарцы рабіць. А праз пару гадоў і сын нарадзіўся. Хлопчыка Лёшам назвалі. Ад тае пары, ці то з радасці, ці то яшчэ з якой прычыны, запіў малады бацька горай ад ранейшага. Удзень піў, а ўначы з жонкаю біўся. Жылі на сваіх сямі квадратах як кошка з сабакам, нават спалі паасобку. Хведзька дзеля гэтага двухрадны палок змайстраваў – другі ж ляжак не было дзе паставіць. Унізе жонка з Лёшам спала, а сам ужо на гары, пад самай столлю. З-за таго палка яны і разбегліся. Аднойчы Хведзьку штосьці там падалося – чарцей якіх прысніў ці яшчэ каго, усхапіўся, галавой аб бэльку ляснуўся – столь жа пад самым носам была – дый на падлогу зваліўся. Пакуль у бальніцы ляжаў, жоначка ягоная з нейкім капітанам пазнаёмілася, усё з катуха павыносіла. Нават старыя Хведзькавы чаравікі ў камісіёнку здала, Лёшку да бабы Таццяны пераправіла і знікла з далягляду – завербавалася, па чутках, на нейкую рыбалавецкую базу. Выпісаўся Хведзька з бальніцы, зірнуў на голыя сцены і, як быў у бальнічных тэпцях, так у тым абутку і на станцыю пацёгся, кій толькі ў інваліда прыхапіў, каб людзі думалі, што ў яго ногі хворыя – у тэпцях жа! Гэта ўжо як у Сеўрукі прыехаў, абутак свой за плот закінуў, басанож патупаў, маўляў, люба блуднаму сыну па роднай зямлі прайсціся. Сеўрукоўскія жанкі блуднаму сыну ўслед пазіралі, уздыхалі

ўпотай, не разумелі жанкі Хведзькавых пачуццяў. Ды яно і вядома: на двары лістапад шэранню звініць, лядком пахруствае, а чалавек голымі пяткамі свеціць. Згледзеўшы Хведзьку, і Кацярына да весніц выйшла, „дзень добры" дала, дрыготкія вусны прыкусіла.

Колькі гадоў мінула, а не забылася крыўда. Не, не забылася. І цяпер, перадвячэрняй парою, у апошні дзень бабінага лета, крыўда халодным ледзяшом падкочвала да сэрца, і сэрца марнела ў цеснай грудзіне, і не пачула Кацярына, як аціхла залева, не прыкмеціла, як насунулася сутонне, і маці давялося голасна клікнуць, перш чым яна ачулася.

– Кацька, ты што, заснула? Зірні, ці Таццяна там сунецца? – Знадворку рыпнула брамка, пачуліся галасы, і ў прыцемным вакне размытаю плямай праплыў парасон і хлапечая галава з пучком натапыраных валасоў на макаўцы.

– О-от, паразіт! О-от, п'янтос няшчасны! – ужо з прысенка гракнула цётка Таццяна, прымусіўшы Міронаўну спалохана ўсхапіцца. У сенцах штосьці бразнула, пачулася валтузня, і цётчын голас абарваўся. Старая, відаць, ізноў змагалася з парасонам, забыўшыся, як той складваецца. Нарэшце дзверы расчыніліся, і цётка Таццяна, кінуўшы вока на Багародзіцу ў куце, коратка паведаміла:

– Зноў прынеслі!

Павярнуўшыся да ўнука, які зайшоў следам, яна выхапіла з хлапечых рук парасон і раскрыла на прасушку.

– Ад ранку казала: ня пі! Адвязеш нас з Кацяй на станцыю. Адвёз... Зноў прынеслі... сучкі гэтыя з фермы,– цётка ўдругарадзь зірнула на Багародзіцу, перавяла позірк на ўнука і таропка перахрысцілася.

– Ну, то, можа, не паедзеце? Я і Кацi кажу. Непагадзь такая... і бульбу не дакапалі,–Міронаўна з вохканнем паднялася, звесіла долу лілова-ацёклыя ногі.

– Ай, во... А калі ехаць? У Лёшкі вунь формы няма. Мне ў аптэку трэба...

– Гэта ж, Таццяна... Ты ж мне дыбазолу вазьмі, – паджвавела той хвіляй Міронаўна. – Сёння ж ужо ледзь не памерла. Каця, дачушка, запішы, каб не забыцца, – Міронаўна тыцнула пальцам у бок кухоннага стала, на якім ляжаў аркушык паперы. Увесь учарашні вечар старая праседзела над тым лістком, складаючы спіс неабходных справункаў.

– Запомню! – адмахнулася Кацярына. – Кожны раз лекі бяру.

– Запомніш?! Забудзешся ў тым тлуме! Лёша, дзетухна, запішы ты бабе. – Лёшка, мокры і натапыраны, як той верабей, без асаблівай ахвоты паклыгаў да стала.

– Чаму, Лёша, такі надзьмуты? Няйначай як двоек нахапаў? – запыталася Кацярына, падымаючыся з ложка.

– Ходзіць за мной цэлы дзень, нейкі самалёт просіць. У мяне дзве сумкі ў руках, дзве торбы наперавес, ды яшчэ ягоны самалёт у зубах пацягну...

– Напішы, які там табе самалёт, вазьму, калі ўбачу,– Кацярына паклала руку на хлапечую галаву і, уздыхнуўшы, прылашчыла напаслухмяныя Лёшкавы валасы.

Познім вечарам дождж аціх, неба неяк адразу праяснела, адно рэдкія хмаркі яшчэ ляцелі наўздагон навальніцы, губляючы долу буйныя халодныя кроплі.

Жанчыны ішлі ўскрайкам гасцінца, старанна абміналі лужыны і з неўсвядомленаю трывогаю пазіралі на сіні ад вечаровае смугі далягляд. Смуга паўзла па схілах Каінавай гары, рабіла невыразнымі абрысы дрэў,і Кацярыне мроілася, што гэта не сухастойны ельнік, а нечыя постаці падымаюцца ад зямлі, раскінуўшы ў бокі ашмёткі сатлелых рук. Каб пазбыцца відмаў, Кацярына

перахрысцілася, прыспешыла хаду, але відмы не міналі – ляцелі наўздагон вухканнем шэрай савы, рыпеннем старое таполі.

– Маўрына дрэва рыпіць, – прамовіла цётка, азірнуўшыся на высозную, знявечаную навальніцамі таполю. – Маўра тады чатыры дрэвы пасадзіла, гэта ўжо каб Юрку Абакумчыка прываражыць. Апоўначы вадою замоўленай палівала, – старая змоўкла на хвіліну, а Кацярына, павёўшы вачыма на знак змогі ад тых абрыдлых, з дзяцінства чутых аповядаў, зморана перавяла дых. – Ну, дык жа прыварражыла. Пасля заручын Хадоры-варажбітцы рэшата яек занесла ды хустку кашаміравую падаравала. Паглядная была дзеўка. А працавітая-а! Гэта ўжо як пасаг да Абакумчыкаў неслі, бабы абгаворваць пачалі: камяні, камяні, кажуць, панеслі!... Бабы, ты ж ведаеш... Адамкнулі два куфры, а там... – старая боўтнула нагою ў калюжыне, стоена, нібыта давяраючы нейкую страшную тайну, выдыхнула:– Бялёнага палатна аж па века накладзена. Усё сама выткала! – Выбіўшыся на сухое, цётка аддзьмулася, зябка перасмыкнула плячыма. – Вылюдак гэты, Лёнька-Каін, хацеў Маўру гвалтам узяць. Ледзь адбілася. Я з яе сястрою дружкавала, сама бачыла: у Маўры ўсе рукі сінія былі.

„Загаворваецца старая, – падумала Кацярына, працяўшы поглядам гронку зыркіх агнёў на далягглядзе. – Мінулым разам пра Лёньку-Каіна дзяўбла і зараз пачынае...”

– У раёнцы пісалі – у Маскве жыве, з піянерамі сустракаецца, – не сунімалася старая. – І што ўжо ім кажа? Як роднага брата забіў?

Пачуўшы пра раёнку і зразумеўшы, што байкам цётчыным не будзе скону аж да самай станцыі, Кацярына ўздыхнула і асуджана панурыла галаў.

Мінулай вясною старая праз тую раёнку нікому жыцця не давала. Адвеку газет не чытала, а тут яшчэ

адранку, управіўшыся з чыгунамі, на нос акуляры насоўвала і ці то Хведзьку, ці то ўнуку, ці то сама сабе артыкул пра Лёньку-Каіна перачытвала, абурана галавою хітала, у бок печы плявала, а дайшоўшы да месца, дзе камсамолец Абакумчык верхавода кулацкай банды зліквідаваў, газету на падлогу кідала ды прамаўляла ўзрушана:

– Гэта ж трэба так брахаць!

– Дабалбочашся, – казаў іншым разам Хведзька, сёрбаючы расол з бочкі. – Будзе табе як таму кулацкаму верхаводу.

– Якому верхаводу?! Якому верхаводу?! – стакроць адбіваўся ў ёмістых саганах звяглівы цётчын голас. – Верхавод той працаваў не разгінаючыся, матку хворую даглядаў, хату новую паставіў. А паскуднік гэты адно і рабіў, што сходы праводзіў. Брат арэ, з сіл выбіваецца, а Лёнька мітынгі ладзіць ды лозунгі на сценах піша. Лены ж быў, як палка!

Як там усё дзеялася, ніхто не ведаў, а хто ведаў, той маўчаў, але ж Мазарыніха гнула сваё. Паслухаць яе, дык і банды ніякай не было, і брат брата забіў не з класавых памкненняў, а праз жаночую спадніцу. Летась старую на піянерскі збор запрасілі як калгаснага ветэрана, дык яна там такога нагаварыла, што дырэктару школы давялося ў Цюменскую вобласць пераязджаць.

– Лухта ўсё! – бухнула яна на зборы, паслухаўшы вершыкі пра Лёньку Абакумчыка. – Якое там, кажа, палымянае сэрца! Да чужых жонак палымяны быў, праз тое і брата забіў. Прыцёгся, кажа, на Юрчын падворак, жыў жа побач, у хаце, якую яшчэ дзед ставіў. Агледзеўся, прынюхаўся, убачыў, што гаспадара няма, – і да Маўры. Маўра якраз на ганку сядзела, гарох лушчыла. Напачатку, як заўсёды, у ячэйку запрашаў, а потым і пад спадніцу паторкнуўся. Маўра, вядома, у лямант, пачала мужа клікаць – Юрка непадалёку, у хляве быў, канюшыну з вышак скідваў. Так з віламі на падворак і

выкуліўся. Мы з Маўрынай сястрой у той дзень каласкі падбіралі. Як пачула я стрэлы, так у мяне ўсё і абарвалася. Адчула сэрца, што з Юркам няшчасце. У вылюдка ж гэтага рэвальвер быў. Чорны такі, на баку матляўся. Ён і майго бацьку ледзь не застрэліў, як у калгас запісваў. Пабеглі мы з Настаю, гэта ўжо з сястрою Маўрынай, да Абакумчыкавага хутара. Бяжым, а ў саміх ногі падкошваюцца. А як кроў пасярод двара ўбачылі, так і зусім абамлелі. Маўра тым часам Юрку ў хату зацягнула, выбегла на ганак, валасы на сабе рве: „Бяжыце, крычыць, па фельчара!" А мы з Настаю стаім, вачыма лыпаем і зварухнуцца не можам.

Каіна потым цэлы дзень шукалі, усе кусты-яры абгледзелі, , а таго як чорт з хлебам з'еў. Гэта ўжо як пастухі з паствы вярнуліся, тыя сказалі: бачылі, як Лёнька ў бок Навасёлак бег. Мужыкі калы пахапалі, на станцыю пабеглі, думалі, чыгункаю збегчы хоча. Толькі да могілак і дабеглі. Акружылі вайскоўцы на манголках, і Каін з імі. Тры дні вёску трэслі. У каго мех жыта знойдуць, у каго кубел з просам – хавалі ж людзі, каб з голаду не памерці. Толькі ж ад Лёнькі-Каіна ці схаваеш? Сорак душ пасля таго ў Сібір звезлі. Усе тамака і памерзлі. Адно Мішка Дзямідаў вярнуўся. Двое сутак, казаў, у асенізатарскай бочцы ехаў, да чыгункі выбіваўся.

Піянеры на зборы гамоняць, летакі з паперы пускаюць, а тут прыціхлі, нават раты паразявалі, а ў цёткі і зусім язык разбэрсаўся: ужо і пра хлебную машыну згадала. Балазе, настаўніцы схамянуліся, вывелі старую з памяшкання. Дырэктара праз тыя балачкі на парткамісію выклікалі, спагнанне ўляпілі, а потым і зусім са школы звольнілі. Давялося чалавеку на новае месца пераязджаць. Перад ад'ездам да цёткі заходзіў, пра хлебную машыну пытаўся. Цётка і распавяла, як тое было: як яны ўсім калгасам палеглы лён падымалі, як тую машыну ўгледзелі. Да вайны на машыны як на дзіва

глядзелі, а тут яшчэ на будцы „Хлеб" напісана – людзі і кінуліся за той хлебавозкай, думалі папраўдзе хлеб вязуць, галадуха ж была. Машына па вёсцы праехала, ля праўлення супынілася, а з кабінкі Каін вылез, рамянямі парыпваючы. Усе і разбегліся хто куды, па стагах ды па гарышчах пахаваліся.

У той дзень старшыню забралі – мужа Міронаўны. Кацярыне тады і годзіка не споўнілася. Не паглядзелі, што ўдарнік, што ў Маскву ездзіў ды з Куйбышавым фатаграфаваўся. Пазней, як ужо снег выпаў, хлебавозка амаль штоночы на Каінаву гару прыязджала. Стрэлы покалі ды чуваць было, як людзі галасілі. На гару тую і зараз ніхто не ходзіць. Гэта ўжо хто з горада на „Жыгулях" прыедзе... Грыбоў там, кажуць, дужа багата. Дырэктар цётчын аповяд у кніжачку запісваў, языком цокаў ды за голаў хапаўся. Усё бубніў: „Пакладу партбілет..." Ды, відаць, не паклаў: з'ехаў у Цюменскую вобласць і радзіну з сабою забраў.

Ужо і сіл не ставала цягнуцца па дарозе, ужо і сэрца глуха тахкала ў грудзіне, а цётка ўсё гаварыла, гаварыла і толькі ля самай станцыі суціхла, ураджаная зычным гудком цеплавоза. Хвілін пяць яна ішла моўчкі, сумнымі вачыма пазіраючы на каляровыя агні семафораў, а згледзеўшы натоўп ля будынка вакзала, запыталася:

– Калі ж ужо прыедзем?

– У шэсць трыццаць, – адказала Кацярына, і цётка Таццяна, змучана ўздыхнуўшы, прашаптала:

– Хоць бы ў плацкарт убіцца, а то мінулым разам з Клаваю ў тамбуры таўкліся...

Бледна-зялёныя стрэлкі „камандзірскіх" паказвалі палову сёмай. Ягор Іванавіч перасмыкнуў галавою, пстрыкнуў пальцам па шкельцы гадзінніка і зноў наструніў вуха.

Гулі цягнікі на Беларускім, поклічы радыёстанцыі

„Маяк" лунал і ў сутарэннях камяніц, пустыя скрыні бразгалі на задворках універсальнага магазіна.

„Зноўку позніцца, сволач", – падумаў Ягор Іванавіч і, кінуўшы дакорлівы позірк на чорную „Волгу", што ляцела па праспекце, са скрухаю вымавіў:

– Няма парадку..

Злосць на шафёра халоднаю жоўцю расцякалася па чэраве. Сэрца гулка тахкала, а ўмомант спапялелы жаўталіст, якім быў услены тратуар, шэраю пацучынаю зграяй заварушыўся пад нагамі. Ягор Іванавіч войкнуў, асунуўся плечуком на стаўбур згалелай таполі, глыбака, аж да колікаў у сэрцы, уздыхнуў.

Яшчэ звечара ён пачуў сябе нядобра: застарэлым болем ныла пячонка, кружылася, як гэта часта бывае ў старых людзей, галава, гарачыя іголкі калолі цела, а само цела зрабілася лёгкім і нядужым. Апошнім часам, асабліва пасля выпітае чаркі, пячонка ўсё часцей дапякала Ягора Іванавіча. Ды яно і вядома – як-ніяк семдзесят гадоў стукнула. Але ж затое сэрца... Сэрца ў Ягора Іванавіча было што ў таго падводніка. Сябры-таварышы па службе даўно на тым свеце спачывалі, інфарктамі ў зямельку ўвагнаныя, а Ягор Іванавіч за ўсё жыццё нават валакардзіну не пакаштаваў. Толькі нездарма кажуць: конь на чатырох нагах, а спатыкаецца. Вось і Ягор Іванавіч... Глядзеў учора інфармацыйную праграму „Час", сёрбаў гарбату са святаяннікам, ажно раптам кальнула яму пад лапатку, увушшу званы загулі, а ліванскія патрыёты на тэлеэкране дагары нагамі перакуліліся. Войкнуў стары, глынуў пігулку снатворнага – іншых лекаў у хаце не было – і да ложка пацёгся. Лёг, не распранаючыся, коўдру да падбароддзя нацягнуў. „Пройдзе, – сказаў сам сабе, – памыюся ў лазні, усе хваробы як рукою зніме". – З тымі словамі і заснуў.

І прысніўся Ягору Іванавічу палкоўнік, вясёлы, усмешлівы, апрануты ў навачасную майку з надпісам

„Перабудова" ўздоўж грудзіны. І толькі атачалі палкоўніка тыя ж самыя сцены ізалятара, і ў руках ён трымаў той самы брызентавы мяшэчак. І Ягор Іванавіч ізноў крычаў у сне, а прачнуўшыся, доўга спатольваў сэрца шчасліваю думкаю аб тым, што палкоўніка даўно няма, што ён згінуў бясследна ўвосень сорак шостага года.

Дыхнуўшы бензінавым гарам, дзесьці зусім побач спынілася машына, і Ягор Іванавіч размежыў павекі. Замарачнае мроіва засціла вочы, і з гэтага мроіва прагучаў вясёлы голас шафёра Міколы:

– Што, Іванавіч, заснуў?

Ягор Іванавіч хітнуўся, невідушча павёў рукамі, з астатніх сіл адчыніў дзверцы машыны.

– Коля, блага мне, – вымавіў ён, залазячы ў салон, але вадзіла не пачуў. Выцягнуўшы з-пад сядзення анучку, Мікола скочыў з машыны і праз імгненне рука ягоная імпэтна заслізгала па шкле.

– Давай, Іванавіч, залазь, а то познімся, – крыкнуў Мікола, зачыніў за Ягорам Іванавічам дзверы і, плюхнуўшыся на сядзенне, рашуча паддаў газу. Стары вохнуў, пацягнуўся было рукою да Міколавага плечука, але яго адкінула назад, і ён бязвольна абсунуўся скронню на халодную шыбу.

Восеньскі дождж церусіў з зацятай аднастайнасцю, завілымі раўчукамі збягаючы па шкле. На падворку было пустэльна, адно ўдалечыні, насупраць задымленай кацельні купка салдат выгружала з трафейнай трохтонкі скрыні з нямецкім архівам. Пасмы густога дыму сланіся над зямлёй, хавалі ад вачэй увішныя фігуркі, міжволі нагадваючы лейтэнанту пра духмяныя хачапуры: спальваць трупы на кацельні мелі звычай акурат пад час абеду. Лейтэнант адышоў ад вакна, пацёр далонню бурклівае чэрава і, зазірнуўшы пад стол, падняў з падлогі плексігласавую лінарку. Пакруціўшы ў руках празрысты прастакутнік, ён уздыхнуў і рупліва

сцёр лязом выдрапанае на лінарцы прозвішча былога гаспадара кабінета.

Начальніка трэцяга аддзела Казарына арыштавалі ў пятніцу. Раніцой маёр атрымаў новае прызначэнне – у разведшколу на Валакаламскай шашы, а ўвечары таго ж дня, выкапаны з пасцелі нейкай балерыны, загрымеў на Лубянку. Казарын быў спрытнюга, на высокія пасады галіўся, таму, відаць, і згарэў. Але ж хто яго падпаліў? Казарын – сваяк палкоўніку, за Літву яшчэ да вайны Чырвоную Зорку атрымаў... Незгаральны, як смершаўскі сейф, а глядзі ж ты... згарэў!

„Страціў, страціў палкоўнік ласку. У пятніцу сваяка забралі, а сёння-заўтра і самога забяруць. Будзе ведаць, як да Бацькавых каханак заляцацца, – падсумаваў свае дакучлівыя разважанні лейтэнант і, пачуўшы стук у дзверы, падаўся ад стала. Дзверы грукнулі, зарыпелі завесы, і з цёмнага тамбура выплыла задаволеная фізіяномія даручэнца Фаміных.

– Дазвольце зайсці, таварыш лейтэнант?

– Ну, што там у цябе? – прабурчаў лейтэнант, зашпільваючы аплікі выхаднога кіцеля.

– „Сорак першы” памёр, таварыш лейтэнант! – бадзёры голас даручэнца зліўся з гэткім жа бадзёрым рыпеннем ягонай навюткай партупеі.

– Як памёр? – перапытаў лейтэнант, але, уцяміўшы ўсю недарэчнасць пытання, панурыў вочы і ледзь чутна загадаў: – Ідзіце!

Хвілін праз дзесяць лейтэнант ішоў бясконцымі калідорамі, ляпаў далонню па сценах і, нервова міргаючы пасля кожнага такога ляпу, абмазгоўваў сітуацыю. Смерць „сорак першага” яго не надта каб і турбавала. Здыхлю гэтага яму павесілі на шыю мінулым тыднем, калі Абакумчык з’ехаў у камандзіроўку. Што ўжо Абакумчык з ім рабіў – аднаму Люцыпару вядома. Прымушаў, відаць, усяночныя адстойваць, той і не вытрымаў. Двое сутак у лазарэце без памяці адляжаў і

вось... скапыціўся. Скрывіўшыся ад паху карболкі, лейтэнант зайшоў у трупярню, а згледзеўшы на падлозе скрываўлены хвартух, скрывіўся яшчэ болей. Патолагаанатам Ніжагародскі, сівагаловы, спісаны з нейкага тылавога шпіталя дзядок, стаяў ля стала і нервова дыміў самакруткаю. Дзядок, безумоўна, чуў тупаценне за спінаю, але не азіраўся.

– Разнік чортавы, – буркнуў лейтэнант, з нецярплівасцю кашлянуўшы ў жменю.

Нейкую хвіліну дзядок маўчаў, потым рэзка павярнуўся, сцягнуў з нябожчыка прасціну, зрывістым голасам працэдзіў:

– Навошта было тое ўскрыццё. Дастаткова на ногі глянуць... Пяцёра сутак на нагах прастаяў, не меней. Кантузія ж была ў чалавека...

– „Чалавекі", „шматпакутнікі"... папоўшчына нейкая, таварыш ваенурач, – састроіў іранічную ўсмешку лейтэнант. – Вас часам не з манастыра да нас накіравалі? – лейтэнант дастаў з кішэні папяросы, збіраючыся пачаставаць Ніжагародскага, але той, падхапіўшы з падлогі валізу з хірургічнымі прычындаламі, спехам выйшаў з трупярні.

І без таго паганы настрой быў сапсаваны канчаткова. Лейтэнант вылаяўся, кінуў вока на тэлефон унутранай сувязі, што вісеў ля ўвахода, і, прыпаліўшы „беламорыну", разважлівай хадою падышоў да апарата. Кіквідзе, з якім яго злучылі, доўга не падымаў трубкі, нарэшце адгукнуўся сіплым і, як падалося лейтэнанту, дарэшты прыспаным голасам.

– Кіквідзе? Спіш?!

– Ныкак нэт, таварыш лейтэнант! – голас каўказца працяглым трэскам скалануў мембрану.

– Глядзі ў мяне!

– Гляджу, таварыш лейтэнант!

Колькі часу лейтэнант узважваў адказ Кіквідзе, пасля суцішна запытаў:

– Як там „двацаты"?
– Плачэт, таварыш лейтэнант!
– Спаць не даваць! Заўтра адранку – да мяне!
– Слушаюс, таварыш лейтэнант!
– А як пісака? Не паразумнеў?
– Ныкак нэт, таварыш лейтэнант. Савсэм плоха сэбе ведот. Пракурора трэбует.
– Пракурора? – прыхоўваючы абурэнне, лейтэнант прыкусіў верхнюю губу і коратка выдыхнуў: – Давай!

Карэспандэнт акруговай газеты Штэрн, хударлявы, пасінелы аб бяссоння чалавечак, празмерна шырокім крокам зайшоў у кабінет і, задраўшы ўгору няголенае падбароддзе, голасна выдаў:
– Я патрабую пракурора!.
За чатыры гады работы лейтэнант упершыню чуў такое патрабаванне, таму і не ўцяміў адразу – весяліцца яму ці абурацца. Пасля хвіліннага роздуму ён усё ж такі пасміхнуўся, тыцнуў пальцам у кут, дзе стаяла прышрубаваная да падлогі табурэтка, але падследны і не думаў садзіцца.
„Паказытаць карэспандэнту пяткі, ці што?" – падумаў лейтэнант і, выцягнуўшы са стала шуфлядку, намацаў пад слоем правазнаўчых брашур важкі гумовы друк.
– Як вы... козыту не баіцеся? Сэрца не заходзіцца?
– Папрашу без эківокаў! – ужо без ранейшай упэўненасці азваўся Штэрн, і голас ягоны заглушыла напорлівае зумканне тэлефона.
Лейтэнант не любіў гэтых званкоў. Тэлефон заўсёды абуджаўся не ў час, поўнячы душу халоднаю трывогаю. Вось і цяпер, прыціснуўшы трубку да вуха, ён адчуў, як клёкнула ў горле ўраз абамлелае сэрца. Трубка пагрозліва маўчала, але па тым мерным сіпе, што далятаў з

тэлефонных глыбінь, можна было зразумець: тэлефанаваў палкоўнік.

– Як там, лейтэнант, твае гадунцы? – голас палкоўніка перарваў пракураны кашаль.

– Жывыя-здаровыя, таварыш палкоўнік! – гракнуў лейтэнант, калі аціхла кашляніна.

– А як „сорак першы"?

„Ужо паведамілі", – мільганула ў галаве лейтэнанта. Абцягнуўшы канцы кіцеля, ён ямчэй прыціснуў трубку да вуха і гэткім жа бадзёрым голасам прамовіў: – Памёр, таварыш палкоўнік!

– Вось што, лейтэнант, – выгукнуў палкоўнік пасля пярэрвы, – усе матэрыялы па „сорак першым" мне на стол. І не пазней панядзелка. Па-ня-дзел-ка! – па складах паўтарыў шэф і паклаў трубку.

– Абакумчык! Абакумчык! Абакумчык! – пачулася лейтэнанту ў кароткіх гудках адбою, і цьмяная здагадка пакутліва заварушылася ў галаве. „Так-так... Абакумчык... Гэта ён з'еў Казарына. Палкоўнік, відаць, усё ведае. Толькі ж Абакумчыка голымі рукамі не возьмеш. Не іначай як на самога Бацьку працуе".

Заняты сваімі думкамі лейтэнант і не прыкмеціў, як падследны Штэрн падышоў да стала, рашуча выхапіў са шклянкі аловак. Кароткае імгненне лейтэнант глядзеў на аловак, потым перавёў позірк на няголеную пысу Штэрна і толькі тады ачуўся. Выбух абурэння ўзняў лейтэнанта на ногі. Ён крадком, не раўнуючы як той кот, падышоў да Штэрна, зазірнуў у паперку.

– Заява пракурору? – роблена ўсхваляваным голасам запытаў лейтэнант і, ступіўшы крок назад, выцяў нагою па схуднелым азадку карэспандэнта.

– Пад стол! Пад стол, юда! – другім выспяткам лейтэнант загнаў карэспандэнта пад стол, карэспандэнт спалохана заенчыў, паспрабаваў устаць, і стол завіс на ягоным карку.

– Сволач! Дыверсант! – галёкнуў лейтэнант, з

жахам заўважыўшы, як хітнуўся на стале алебастравы бюсцік Сталіна.

У наступнае імгненне дзверы кабінета расчыніліся, і Фамінных з днявальным шалёнай віхураю падляцелі да Штэрна. Заехаўшы карэспандэнту па шыі, хлопцы пацягнулі небараку па падлозе, і лейтэнант з палёгкаю расшпіліў аплікі на ўзмакрэлай шыі.

– Запомні, сука! Жыць табе засталося два дні! Так што падумай... – крыкнуў лейтэнант, але той, да каго ён звяртаўся, наўрад ці меў здольнасць думаць. Галава карэспандэнта матлялася, як у таго хворага гусака, і толькі на імгненне ажыла, ляснуўшыся аб вушак падвойных дзвярэй. Лейтэнант паставіў на месца алебастравы бюсцік, абцёр з яго нябачны пыл і, перачакаўшы хвіліну, крутнуў корбу ўнутранага тэлефона.

– Кіквідзе? Зноў спіш? – у трубцы нарадзіўся сіплы зык: Кіквідзе набіраў паветра, каб гойкнуць „Ныкак нэт!", але лейтэнант папераджальна крэкнуў: – Зараз пісаку прывалакуць. Дык ты яго... гэта... у сто другую аформі, – трубка зноў засіпела, мерачыся азваща грымлівым голасам Кіквідзе, але замест грому пачулася запабежлівае хіхіканне: у сто другой каморы сядзелі гомасексуалісты.

Паклаўшы трубку, лейтэнант ладную хвіліну сядзеў нерухома, штосьці няўцямна мармытаў сабе пад нос, выразна прамаўляючы адно толькі слова „дзіўна", нарэшце яшчэ раз крэкнуў і падняўся з крэсла.

„Абакумчык капаў пад палкоўніка... і так схібіў з „сорак першым". Хітры, абачлівы Абакумчык. Не, тут штосьці не тое", – лейтэнант адчыніў сейф, выцягнуў адтуль следчыя матэрыялы – зялёную тэчку з забарскамі і перавязаную аборкаю гімнасцёрку са жмуткам прычэпленых медалёў. Пералічыўшы ўзнагароды, ён калупнуў пальцам чырвоную лычку ранення, перасмыкнуў галавою і запіхнуў гімнасцёрку ў ніжні аддзел сейфа.

Матэрыялаў у папцы было небагата: паперка з анкетнымі дадзенымі, рапарт нейкага капцёра ды пара лісткоў з пратаколамі допыту. Чытаць пратаколы лейтэнант не стаў, а вось рапарт перачытаў аж тройчы. Ад тае непісьменнай, шчодра прыпраўленай украінскімі словамі пісаніны лейтэнанту стала моташна. Ён закрыў тэчку, піхнуў яе назад у сейф і, зрабіўшы на халявах ботаў гармонік – адзнаку блізкай сустрэчы з жанчынаю, рушыў у ядальню.

Справа сяржанта Мазарына, якую так уважліва вывучаў лейтэнант, узнікла, можна сказаць, на голым месцы. 25 верасня 1946 года дэмабілізаваны Мазарын стаяў у чарзе па сухі паёк і новае абмундзіраванне. Ну, стаяў бы сабе да стаяў, як усе астатнія дэмабілізаваныя, дык не... пачаў языком мянціць, з капцёра пацвельваць. „Тыловою крысою мэні назвав, та всі сміялыся" – так напісана ў рапарце. Дайшла да сяржанта чарга новае абмундзіраванне атрымліваць, а капцёр не дае. Загад, кажа, выйшаў – не даваць дэмабілізаваным новай гімнасцёркі, калі старая не зношаная. У чарзе захваляваліся, „мацюкатыся почалы", капцёр па інтэнданта пабег. Скончылася тым, што сяржант старую гімнасцёрку разам з медалямі над галавою раскруціў ды на кучу брудных падштанікаў ускінуў – не вытрымалі ў хлопца нервы. А наступнага дня сяржанта ў адмысловы аддзел паклікалі. Асабіст на яго і накінуўся: „Што вас прымусіла савецкія медалі пад ногі кінуць, на іх жа выявы правадыроў выбітыя... Хто вас падбіў на гэтую правакацыю?" Карацей, пачаў на псіхіку ціснуць, ды так натхнёна, што ў сяржанта пасля першага ж допыту старая рана адкрылася.

„Ну, ды з асабістам рэч зразумелая. Дарваўся чалавек да паважнай справы. Абрыдла, відаць, салдацкія лісты чытаць ды слухаць, аб чым асабовы склад у прыбіральні балбоча. Але ж Абакумчык! Што яго прымусіла так шчыраваць?" – лейтэнант прайшоўся па

слізкай, толькі што вымытай падлозе афіцэрскае ядальні, сеў на крайні столік і абхапіў рукамі скроні. Абед даўно скончыўся, у зале было пуста, і толькі ў супрацьлеглым куце, пад схованю лапушыстага фікуса сядзелі два маладзёны і сёрбалі піва. Аматары піва суцішна гаманілі, круцілі стрыжанымі галовамі, цікуючы афіцыянтку, але тая не ішла.

— Капа! — гукнуў неўзабаве адзін з маладзёнаў, і залатая Капіна галоўка вытыркнулася з праймы кухонных дзвярэй.

— Капа, яшчэ па куфлю! — хорам гракнулі маладзёны, але афіцыянтка ў іхні бок нават не паглядзела. Паправіўшы прычоску, яна таропка зацокала ў канец залы. Вось ужо месяц, як Капіталіна не давала ў аддзел аніякай інфармацыі і, адчуваючы сваю віну, агент „сто дваццаць-біс" шыбавала ледзь не подбегам, у пяты мо раз папраўляючы наколку ў хвалістых валасах.

— І хто ж такія? — баднуў галавой лейтэнант, паказваючы ў бок лапушыстага фікуса.

— Курсанты. На стажыроўку прыехалі, — паведаміўшы гэта, Капа панурыла вочы, пракудліва прыкусіла ніжнюю губку.

— А-а... наша змена, — лейтэнант зірнуў з-пад брывоў на лапушысты фікус, пасміхнуўся і шматзначна кашлянуў у жменю. — Ну, дык нясі што-небудзь, з галадухі паміраю.

Капа крутнулася на абцасіках, трывожным пахам парфумы павеяўшы на лейтэнанта.

—Сучка! — амаль уголас вымавіў лейтэнант. Выцягнуўшы сурвэтку, ён чыркнуў на ёй адно толькі слова „Ударнік" і, прыціснуўшы цыдулку сальніцай, выйшаў з ядальні.

З прачыненых дзвярэй кінатэатра (адчынілі з выпадку задухі) гугнявым рэхам перабрэхваліся мужчынскія і жаночыя галасы: ва „Ударніку" чацвёрты

дзень запар круцілі „Першую пальчатку". Капа стаяла на звычайным месцы, за метр ад уваходных дзвярэй і нецярпліва ляпала адна аб другую халявамі гумовых боцікаў.

– Вас сягоння не пазнаць, – прашаптала Капа, ступіўшы насустрач лейтэнанту. Капін голас прымусіў лейтэнанта сумецца і сарамліва прыкрыць рукамі прапаліны на баках ватоўкі. Захоўваючы канспірацыю, лейтэнант вытрас з бота ўяўны каменьчык, азірнуўся і гэткім жа ціхім голасам выдыхнуў:

– Працуем...

Па вечарах лейтэнанту даводзілася „працаваць" у піўнушках – запісваць размовы падпітых інвалідаў.

– Тут справаздача за месяц, – Капа тыцнула ў руку лейтэнанта скрутак абгортачнай паперы. – Асабліва нічога цікавага. Адно што курсанты. Ну, я там напісала...

– Якія яшчэ курсанты? – у лейтэнантавым голасе гучала выкрывальніцтва.

– Ну... хлопцы... з ядальні, – Капа перасмыкнула нафарбаванымі вуснамі і, каб яшчэ больш распаліць лейтэнанта, гарэзліва хіхікнула.

– Капа, нам трэба пагаварыць...

– Трэба, – пагадзілася дзяўчына, закаціла вочы, мерачыся пачуць звычайныя мужчынскія дакоры, але пачула нешта зусім іншае.

– Куды гэта Абакумчык з'ехаў? І ўвогуле... Узвалілі на мяне чгоныя справы, – блытана замармытаў лейтэнант, але, адчуўшы, што гаворыць не тое, ужо больш рашуча запытаўся: – Дзе Абакумчык?

– Абакумчык? Знаёмае прозвішча. Ці не той гэта, што ў нядзелю за абед не заплаціў? Касавокі такі. Чатырнаццатага года нараджэння... ураджэнец Смаленскай губерні... – Капіталіна блазнавала. Памяць у агента „сто дваццаць-біс" была выключная: цытаваць жыццяпісы яна магла хоць да ночы.

Лейтэнант уздыхнуў, расшпіліў ватоўку, выцягнуў з нутраной кішэні храбусткі цэлафанавы пакет.

– Панчохі... Ленд-лізаўскія... Са штучных валокнаў!

Прыхаваўшы пакет у сумачку, Капа разам пасур'ёзнела:

– Куды з'ехаў – не ведаю. Яго Лубянка выклікала, – „сто дваццаць-біс" бліснула бялкамі вачэй, паказваючы, дзе знаходзіцца Лубянка. – Палкоўнік хацеў Абакумчыка ў нейкую небяспечную камандзіроўку адправіць, ды ў таго сувязі... адкруціўся.

– Ці не ў Прыбалтыку камандзіроўка? – усхвалявана прамовіў лейтэнант, адваротным бокам прыпальваючы папяросу.

– Вы што, таварыш „Пяты", і ў піўнушцы „Беламор" смаліце? – запыталася супрацоўніца трэцяга аддзела, але таварыш „Пяты" ўжо не звяртаў на яе аніякай увагі.

Лейтэнант стаяў у непаразуменні, слухаў шчымлівую мелодыю, што далятала з расчыненых дзвярэй кінатэатра, а калі ачуўся і страсянуў галавою, тупат Капіных боцікаў заціхаў удалечыні.

„Ну і прайдзісвет гэты Абакумчык! З'еў Казарына, зліквідаваў Мазарына і хвастом накрыўся. І на каго толькі працуе?" – падумаўшы так, лейтэнант шпурнуў на ходнік сапсутую папяросіну, за якой пацягнулася адразу ж некалькі рук, і шырокай ступою рушыў у піўніцу.

„Абакумчык... Леанід Мікалаевіч... вёска Сеўрукі... Смаленскай вобласці... – адбіваліся ў распаленых мазгах радкі асабістай справы Абакумчыка. – Рускі... член ВКП(б)..." – бухалі кірзачы, стоена грукала сэрца, лопала на ветры радно з рэкламаю „Першай пальчаткі". Не мінаючы лужын, следчы трэцяга аддзела прайшоўся па самай глыбокай з іх, пасля чаго хада ягоная запаволілася і рассохлыя кірзачы разгублена зашоргалі па асфальце.

Дзіўнае пачуццё апанавала той хвіляю лейтэнанта.

Яму раптам здалося, што ўсё наўкол: рухавы баксёр на франтоне кінатэатра, п'яныя інваліды, кусты пажоўклае акацыі, надрыўныя званкі трамваяў на скрыжаваннях, што ўсё гэта ўжо было, што ўсё гэта ён ужо чуў і бачыў у нейкія далёкія часіны. Лейтэнант наструніў слых, намагаючыся пачуць яшчэ сякія-такія водгукі мінулага, і ў мазгах ягоных нарадзіліся два словы, якія на момант апанавалі свядомасць: „Смаленская вобласць".

„Так-так... Смаленская... былая Заходняя. Радзіма Васі Цёркіна, Абакумчыка і Мазарына..."

– Трэба тэрмінова спраўдзіць – ці не з адной яны вёскі, – уголас прашаптаў лейтэнант і, выцершы халодны пот з ілба, брыклівым подбегам кінуўся да трамвайнага прыпынку.

Раніцою, па дарозе ў прыбіральню, куды ён ішоў памыць рукі, лейтэнанта пераняў даручэнец Фаміных.

– Таварыш лейтэнант, вас у сорак дзевятай чакаюць...

Лейтэнант безуважна кіўнуў у адказ і толькі пазней, у прыбіральні, падсунуўшы голаў пад халодны струмень, уцяміў сэнс пачутага.

„Сорак дзевятая камора. Катоўня на ніжнім паверсе падвала. Трыццаць метраў пад зямлёй, а лямант чуваць ля кацельні. І хто там можа яго чакаць?" – з гэтаю думкаю лейтэнант зняў кіцель, павесіў яго на цвік і, заплюшчыўшы вочы, плюхнуў халоднай вады на грудзіну.

На трэцім паверсе падвала сядзелі нацыяналісты. Пра гэты падвал распавядалі страшныя рэчы. Дзень і ноч там нема крычалі жанчыны, на усё горла прарываючыся сваімі галасамі праз таўшчэзныя сцены, раўлі мужыкі, і лейтэнант, як і астатнія „людзі з гары", сыходзіў у падвал толькі па пільнай патрэбе. Не хацеў пэцкаць рук, здароўкаючыся з падвальнымі касталомамі.

Намацаўшы кончыкамі пальцаў пукатыя літары на

дзвярах ізалятара, лейтэнант зайшоў у камору і нечакана сутыкнуўся з палкоўніцкім азадкам. Начальнік следчай часці стаяў спінаю да дзвярэй і, успёршы нагу на табурэт, даводзіў да бляску халявы юхтовых ботаў. Допыт, відаць, толькі што скончыўся: у каморы было задушна, пахла нечым паленым, а на падлозе, пад нагамі палкоўніка, валяўся скручаны з тоўстага дроту электрод. „Жанчыну катавалі", – з жахам падумаў лейтэнант, утаропіўшыся на драцяную прыладу.

– Што, лейтэнант, з жанчынамі справы не маеш? – з уяўнай весялосцю запытаўся палкоўнік, давёўшы да бляску левую халяву.

– Не маю, таварыш палкоўнік, – сказаўшы гэта, лейтэнант насупіўся, вінавата панурыў вочы.

– Та-ак... гэта вам не з мужыкамі... З бабамі важданіна... – палкоўнік няроўнаю хадою падышоў да стала, засунуў руку ў шуфляду, выцягнуў адтуль напакаваную супрацьгазавую сумку.

– Навязалі... халеру, – напаўголаса працэдзіў палкоўнік, кіўком галавы запрашаючы лейтэнанта падысці да стала. – Ёсць магчымасць развеяцца, лясным паветрам падыхаць... з маладзіцаю якой пабавіцца. Га? Як ты, лейтэнант, не супраць?

– Не супраць, таварыш палкоўнік! – азваўся лейтэнант, прафесійным нюхам учуўшы, што там, у нетрах брызентавай сумкі, тоіцца небяспека.

Кінуўшы сумку на стол, палкоўнік адсопся, выцягнуў з кішэні складзеную ў некалькі столак мапу-пяцівёрстку.

– Ты ж, напэўна, чуў пра рэкультывацыю могільнікаў? Свойчас панаварочвалі... – палкоўнік адсунуў убок супрацьгазавую сумку, расклаў мапу на стале.

– Вось тут, блізу Смаленска, дзевяцьсот дзевятнаццаты могільнік, – закарузлы палец тыцнуўся ў квадрацікі смаленскіх кварталаў, прапоўз уздоўж ракі і

замёр на чорнай пляме паміж станцыяй Навасёлкі і населеным пунктам Сеўрукі.

– Да вайны тут палякаў зліквідавалі. Войтаў, солтысаў розных... Вымушаная была мера. Ну, дык вось... Андэрсаўскія недабіткі са сваімі гаспадарамі вэрхал узнялі. Міжнародныя камісіі ствараюць... Карацей, дзевяцьсот дзевятнаццаты могільнік павінен знікнуць. І як мага хутчэй. – Палкоўнік зірнуў на партрэт Бацькі, што вісеў на сцяне і, незадаволена перасмыкнуўшы плячамі, працягваў: – Кінулі мы на тую справу роту салдат, ды тым што... Рэжым сакрэтнасці не захоўваюць, цягаюцца па наваколлі, да баб чапляюцца. На смаленскім базары насельніцтва шкодныя размовы пачынае весці... У дзятвы ў кішэнях гузікі з польскімі арламі... Кажуць: „Салдаты далі, што магілы раскопваюць", – на сківіцах у палкоўніка зварухнуліся жаўлакі. – Сёння ж здасі справы Кіквідзе, а заўтра ўранні выедзеш на месца. Першае, што зробіш, – камроты ў Смаленск выправіш. Потым... правядзеш чыстку сярод мясцовага насельніцтва. Ну, і апошняе: работу трэба скончыць не пазней панядзелка. Аб дэталях даведаешся ў аддзеле. Усё зразумеў?

– Так точна, таварыш палкоўнік.

І таварыш палкоўнік, папярэдне ляпнуўшы сябе па лбе, выцягнуў з-пад стала дыхтоўны фібравы чамадан.

– Вось... параскідваеш там... – здушана вымавіў шэф, паклаў брызентавую сумку ў чамадан і працягнуў паклажу лейтэнанту.

... У канцы даўжэзнага, напаўцёмнага калідора гарэла самотная лямпачка. Калідор гэты нагадваў калідор смертнікаў, і лейтэнанту здавалася, што вось зараз ён наступіць на хісткую цагліну, жудасны механізм спрацуе і ён упадзе, працяты скрыжаваным агнём чатырох аўтаматаў. Апанаваны жахам, лейтэнант спыніўся ў канцы калідора, азірнуўся і, клацнуўшы

чамаданнымі зашчапкамі, панурыў руку ў нетры супрацьгазавай сумкі. Тузін рознакаліберных:, пакрытых зялёнаю пацінаю гільз важка лёг на далонь. Рука здрыганулася, маленькая „вальтэраўская” гільза слізганула між пальцаў, стукнулася аб падлогу, і суцішны зык гэты зліўся з кароткім словам „Канец!”, якое прашаптаў лейтэнант. Цяпер толькі ўцяміў ён – у якую камандзіроўку хацеў адправіць палкоўнік Абакумчыка. „Заб’юць, заб’юць, сволачы... Скінуць з цягніка ці папросту застрэляць. І на „Чорную кошку” спішуць. Нямецкі свінец на энкавэдысцкім пахаванні. З такою інфармацыяй толькі ў магілу...”

– У магілу! – прашаптаў лейтэнант, малітоўна закаціўшы вочы на лямпачку. – Божа, што мне рабіць? – упершыню за апошнія дваццаць гадоў ён згадаў Бога, і адбіткі самотнае лямпачкі іскрамі кволай надзеі мільгнулі ў ягоных вачах.

„Камандзіроўка скончваецца ў панядзелак. Калі да гэтага часу палкоўніка накрыюць, можна яшчэ ўратавацца... Са следчага ізалятара загад на ліквідацыю не дасі...” – спатыкаючыся на пакручастых сходах, нават забыўшыся зачыніць валізу, лейтэнант рынуўся наверх і праз чвэрць гадзіны ўжо ліхаманкава выцягваў цагліны з коміна на гарышчы шматпавярховага дома на Махавой. Дастаўшы са схова фотакарткі з выяваю палкоўніка, лейтэнант сцёр са здымкаў чырванаваты пыл і толькі тады пераввёў дых. На адным са здымкаў палкоўнік абдымаў балерыну Прэабражэнскую – улюбёную Бацькаву выляжанку, а на другім, пажоўклым, па-аматарску невыразным, палкоўнік сядзеў на лаўцы ля будынка французскай місіі, і за ягонаю спінаю стаяў яшчэ нехта – падхорцісты, у шэрым пыльніку, якога можна было прыняць за французскага агента.

– Царства табе нябеснае, таварыш палкоўнік, – уголас падумаў лейтэнант і ўпершыню за апошнія дваццаць гадоў перахрысціўся.

У высокім, колеру выцвілай валошкі небе раставаў празрысты лядзяш поўні. Вецер яшчэ ад рання разагнаў пахмуру, неба праяснела, і толькі на даляглядзе напамінкам аб мінулай нягодзе цягнулася палоска нізкіх хмар. Здавалася, што там, на даляглядзе, разлілося вялізнае возера, і шызая, на паўсвету разлеглая палоска была ягоным уяўным берагам. Ці мала часу лейтэнант аглядаў бязлюдны абшар, які нагадаў яму роднае Прыдняпроўе, потым ямчэй захінуў ватоўку і расправіў на каленях мапу-пяцівёрстку. На даваеннай, дарэшты зацёртай у планшэтах пяцівёрстцы было пазначана штосьці зусім не тое: нейкія хутары, цэрквы, млыны на рацэ Вядрошы. Не падымаючыся з валуна, лейтэнант яшчэ раз агледзеў наваколле, маракуючы, дзе гэта ён мог збіцца з дарогі, і ў тое ж імгненне пачуў як недзе непадалёку заржаў конь і мерна зарыпелі колы.

Лейтэнант паспеў выпаліць „беламорыну", перш чым з-за шчытнай сцяны маладога ельніку выплыла даўгагрывая конская галава. Матляючы ў такт хадзе галавою, конь цягнуў угору наладаваны мяхамі воз, а на самім возе сядзела, сонна ківаючыся на ўсе бакі, вясковая баба. На чарговым пад'ёме, акурат насупраць валуна, на якім сядзеў лейтэнант, конь супыніўся, прыпаў пысаю да травы, і абуджаная баба спалохана ўсхапілася.

– Як я... да Сеўрукоў выйду? – запытаўся лейтэнант, адзначыўшы сам сабе, што возніца, якую ён прыняў быў за старую бабу, наяве аказалася маладою і прыгожаю жанчынай.

Прыбраўшы з вачэй кудзеркі валасоў, жанчына пасміхнулася і, запрашаючы садзіцца, пасунулася на край калёсаў.

– Сядайце, сядайце, не глядзіце, што конь худы. Цяпер да самых Сеўрукоў з гары паедзем, – прамовіла жанчына з мяккім беларускім акцэнтам, і лазовы дубец у яе руках са свістам разрэзаў паветра.

Калёсы трэсла неверагодна. Ад тае калатнечы ў лейтэнанта нават памутнела ў галаве, і ён аніяк не мог уцяміць, пра якога гэта палкоўніка вядзе гаворку спадарожніца.

— Нам яго артылерысты падаравалі... На правую нагу прыпадаў... На ўвесь калгас толькі гэты конь. Але і то добра. У суседнім, імя Кагановіча, і таго няма. Збожжа са станцыі на сабе носяць, — спадарожніца балбатала без супыну, і калдобіны па дарозе ей не замінаалі ані.

Неўзабаве праселіца завярнула ў хваёвы пралесак, калёсы пакаціліся па шыльніку, і лейтэнант здолеў, нарэшце, зварухнуць прыкушаным пад час язды языком.

— А што... здаецца, калісьці тут царква стаяла? — запытаўся ён, слізгаючы вачамі па дзідах хваёвых вяршнякоў.

— Была царква. Нават дзве. Адну дык яшчэ да вайны ў клуб перарабілі, а другую, што на гары стаяла, дык пазалетась... на печы разабралі.

— Цяжка, гляджу, вам тут, — з уздыхам прамовіў лейтэнант, скасіўшы левае вока на калена спадарожніцы.

— Анягож, — спадарожніца сцёбнула Палкоўніка, памаўчала трохі і, павярнуўшы да лейтэнанта свой забранзавелы ад загару твар, акрыялым голасам запытала: — А вы да нас з раёна ці з самой вобласці?

— З раёна. Па каморніцкай справе.

— Землеўпарадчык, значыцца?

— Ён самы, — кіўнуў лейтэнант, не адрываючы вачэй ад жаночых каленак.

— То ж заходзьце, як час будзе. Я адна жыву...

На кароткі міг лейтэнант застыў у нерухомасці. Прапанова была спакуслівая, але ж служба... Лейтэнант позіркам глянуў на жанчыну і, сказаўшы сабе кароткае слова „Адставіць!”, скочыў з калёс.

– Калі тут заходзіць?.. Загадалі ў аддзеле вунь тую гару абмерыць. Пайду, зірну.

– Ці ж пусцяць вас туды? – з нечаканай паспешнасцю азвалася жанчына. – Салдаты там нейкую халеру капаюць.

– Салдаты? – улякнута перапытаў лейтэнант.

Тоячы нейкія свае думкі, жанчына маўчала хвіліну, потым ачулася, загаманіла таропка і блытана:

– Гэта ж у аўторак мне чарга была бульбу вартаваць. Цалюткую ноч пад вярбою адтрэслася. Халодна было. Ага. І вось на золку чую – машына едзе. Прыгледзелася гэта я, ажнуль гэта вайскоўцаў машына, ну тых,што на Каінавай гары поркаюцца. Вялікая такая машына з будкай заместа кузава. Ну-тка, думаю, пагляджу я, куды гэта вайскоўцы такой раніцай едуць. Глянула, а машына да могілак пад'ехала і там, насупраць брацкай магілы, і супынілася. Прыгледзелася, значыць, працерла вочы, а магіла ж тая раскапаная! Ну, думаю, звозяць партызан нашых забітых з безназоўных магіл у адну вялікую. Пра гэта яшчэ на сходзе казалі. Ага. І вось бачу: штосьці там такое пасыпалася. Падпаўзла бліжэй і як не самлела. Гэта ж цэлую гару чарапоў з машыны скінулі. Тут я і сцяміла – з Каінавай гары чарапы. Перад вайною там ворагаў народу забівалі... Ну, шкоднікаў там розных... Вайскоўцы тыя магілы і раскапалі. Дык вось я і кажу: як жа гэта так... нашых салдацікаў разам са шкоднікамі хаваюць.

– Тое, што вы сказалі, папросту не месціцца ў галаве, – лейтэнантаў голас дрыжэў ад абурэння. – Буду ўздымаць гэтае пытанне на партактыве.

– Толькі ж не кажыце, што ад мяне пачулі, – войкнула жанчына, прыкрыўшы вусны ражком заношанай хусткі.

– За гэта не хвалюйцеся. Магіла! Дарэчы, як вас завуць?

— Клаваю... Ад могілак — першая зямлянка. Калі што — заходзьце.

— Зойдзем, абавязкова зойдзем, — ледзь чутна прамовіў лейтэнант і, зняўшы з галавы аблавух, памахаў жанчыне на развітанне.

Раніца наступнага дня абяцала пагоду. Празрыстым было нябеснае прадонне, вымытае дажджамі сонца адбірала вочы, а ранішняе паветра і ручаёвая вада аж да свербу ў пахвіне бадзёрылі цела. Пахвіна і сапраўды зайшлася ад свербу, калі камроты Максімаў, чэрпнуўшы вады з ручаіны, кульнуў вядро не на выстаўленыя прыгаршчы, а на голую спіну лейтэнанта. Лейтэнант крэкнуў, страсянуў, нібыта той сабака, адвіслаю чупрынаю і, паскакаўшы на назе, каб выліць ваду з вуха, прыхапіў працягнуты Максімавым ручнік.

— Добра тут у цябе, — выдыхнуў лейтэнант, расціраючы сваю магутную грудзіну. — Як на курорце. Адно кепска, што мора няма.

— Ці да мора тут? — гнятліва ўздыхнуў камроты, і рухавыя вушы ягоныя, якія прагнулі пачуць словы спагады, яшчэ болей натапырыліся.

— Ну што ты млееш! З'ядуць цябе ў тым упраўленні, ці што? Можа, і выклікаюць, каб у адпачынак адправіць,— выцяўшы нагою па ўчарнелай рабрыне, якімі было скрозь засеяна наваколле, лейтэнант лісліва-пацішэлым голасам запытаўся: — Ты, часам, з Клаваю не знаёмы? Ладная такая баба... У Сеўруках жыве, першая зямлянка ад могілак.

— Якія там бабы... Жартуеце, таварыш упаўнаважаны? — прабурчэў суразмоўнік, а ўпаўнаважаны, задаволена рагатнуўшы, працягваў:

— Зусім ты ачах. Ужо і бабамі не цікавішся. А я вось маю грэх. Як гляну на якую — сэрца заходзіцца. Цяпер вось гэтая сеўрукоўская маладзіца спакою пазбавіла, — лейтэнант смяшлівым вокам зірнуў на Максімава,

даючы таму эразумець, што ўсё гэта жарты, і, зноў суцішыўшы голас, ужо без жартачак, прамармытаў: – Просьба ёсць. Будзеш ехаць – завярні ў вёску, прыхапі гэтую Клаву. Прозвішча, на жаль, не ведаю. Ну, ды сам знойдзеш – у зямлянцы, каля могілак жыве... Я там суправаджальны ліст напісаў – перадасі ў прыёмную. І яшчэ... пасігналь з дарогі, гляну, ці тая... – не скончыўшы фразы лейтэнант знямеў, наструніў слых, тыцнуў пальцам у неба. – Сфальшывіў, – прамовіў ён, уздыхнуўшы, і з нейкім шкадаваннем у голасе дадаў: – Сам дудзеў калісьці..

Салдатам на Каінавай гары ігралі ранішнюю пабудку.

Гудок аўтамашыны заспеў лейтэнанта ў самы нязручны момант. Лейтэнант другі раз на дні галіўся. Дакладней кажучы, нават не галіўся, а заміраў ад асалоды. Якое гэта было лязо! Золінгенаўская сталь, гамбургская наводка, маціцовыя тронкі. Лейтэнант даўно шукаў такое. І вось знайшоў! У чамадане ў Максімава. Ну, і рэквізаваў, вядома. Не застаўляць жа дабро нейкім там смаленскім аператыўнікам.

Прыслухаўшыся да гуду, лейтэнант скрывіўся, выцер твар абрыўкам газеты і, пашукаўшы вачыма бінокль, выйшаў з палаткі.

Баба, вядома, была не тая: надта ж нізкарослая ды і апраненая зусім па-іншаму. Злізнуўшы з губы рэшткі мыльнай пены, лейтэнант плюнуў, смачна вылаяўся і шырокаю ступою рушыў да машыны.

– Каго ты прывёз? – крыкнуў ён Максімаву, калі да машыны заставалася яшчэ добрая сотня метраў. Максімаў, перапрашаючы, махнуў рукою і, каб не слухаць дакораў упаўнаважанага, палез у кузаў „студэбекера".

Лейтэнант падышоў да машыны, ускочыў на падножку ды нечакана сарваўся з яе, улякнуты страшэнным лямантам за спінаю.

– А таварышок... А дачушка ж у мяне... а чым жа я правінілася? – маленькае, спавітае куртатым нямецкім шынялём стварэнне, на якое лейтэнант тым часам ужо і забыўся, стаяла ля задняга кола і нема галасіла.

– От, ты яшчэ... Сядай, дадому завязу, – крыкнуў лейтэнант, але стварэнне і не думала садзіцца. Уклен-чыўшы перад машынаю, жанчына абхапіла „студэбекера-ва" кола і загаласіла яшчэ натужлівей.

Толькі праз чвэрць гадзіны ўдалося адарваць гэтую вар'ятку ад кола і ўпіхнуць у кабіну, пры гэтым камро-ты Максімаў вывіхнуў палец, а шафёр „студэбекера" падраў свае дыхтоўныя дыяганалевыя брыджы.

„Толькі б з аб'екта вывезці", – падумаў лейтэнант, калі машына скранулася з месца. Паціраючы ўкушаны азадак, ён з насцярогаю паглядзеў на жанчыну, але тая, на шчасце, больш не буяніла.

– Вось так яно лепей, – задаволена перавёў дых лейтэнант і, уладкаваўшыся на прадушаным сядзенні, скіраваў погляд на дарогу.

... Спачатку ён і не зразумеў – што гэта там мільга-нула за кустамі, а калі „студэр", адчайна завыўшы рухавіком, узʼехаў на пагорак, убачыў: насустрач машыне бегла жанчына з двума малымі.

– А дачушка ж ты мая Кацечка, – выдыхнула на вуха лейтэнанту кусліная баба, прымусіўшы лейтэнанта спалохана ўхапіцца за дзверцы.

– Твае? – запытаўся лейтэнант, калі машына скіну-ла абароты.

– Мае, мае, таварышок. Дачушка мая Кацечка... Суседка Таццяна... сынок яе Хведзя... – ступіўшы на падножку, лейтэнант выцягнуў бабу з кабінкі, абклаў мацюгамі і, каб баба тая не патрапіла пад колы, з усяе сілы штурхнуў у прыдарожныя хмызы...

Машына пайшла на разварот, галава Ягора Іванавіча матлянулася, слізганула скронню па шкле. Правае вока

ягонае размежылася і з ашклянелаю абыякавасцю зірнула на свет. У змроку дажджыстага заваконня мільгнулі мокрыя дрэвы, праплыў бетонны мур і ўрэшце мігатлівы свет за вакном застыў у незварушнасці двухпавярховага лецішча. Працягла, як той воўк на паліпаўку, заскавытаў сабака. Мужчынскі голас загадаў сабаку аціхнуць, на лецішчы грукнулі дзверы, і рэха гулкіх крокаў выразна адбілася ў цішы.

– Што, зноў спіць?

– Спіць, таварыш палкоўнік... Ад самага Беларускага. Як сеў, так і заснуў адразу, – шафёр Мікола спрытным рухам уключыў перадачу. – Здае стары, – сын з замілаваннем паглядзеў на бацьку, з роспачным крэканнем залез у машыну.

– „Трэці" выходзіў, таварыш палкоўнік. Ці то з дому, ці то з упраўлення... Я так і не зразумеў. Прасіў вас звязацца.

Палкоўнік паморшчыўся, правёў далонню па твары, з відавочнай неахвотаю пацягнуўся да рацыі.

– Цэнтральная? З „трэцім" злучыце, – прамовіў ён, прыціснуўшы трубку да вуха, і трубка пасля хвіліны маўчання стамлёна азвалася:

– Злучаю.

У гэты момант вусны Ягора Іванавіча зварухнуліся ў памкненні сказаць нешта, ды так нічога і не сказалі. У схаладнелым мозгу старога яшчэ тлелі нейкія вобразы, вушы яшчэ ўспрымалі нейкія зыкі, і голас упраўленскай тэлефаністкі падаўся яму голасам куслівай жанчыны, якую ён скінуў з машыны ў далёкім сорак шостым годзе.

Панурыўшы твар у прыпол матчынай спадніцы, дзяўчынка ці то плакала, ці то проста спачывала, раз-пораз пацепваючы вострымі плечукамі. Маці лашчыла яе стрыжаную галоўку, люляла на каленях і, нічога не заўважаючы навокал, ціхім голасам прамаўляла:

– Як ужо на тую гару ўз'ехалі, так я і самлела. Думала – усё... лягу ў зямельку. Ды не даў Бог памерці. Злітасціўся. Каб не Ён – ляжала б зараз побач з Мішам...

– Ну што ты, Клава, гаворыш! – азвалася тым часам сяброўка, гарбаценькая кабетка, што стаяла ў яе за спінаю, зрываючы са спіны засохлыя шышкі дзядоўніку. – Сама ж чула – у Коміасасэры ён. На шахце працуе. Жывы і здаровы... Хведзька, ці знайшоў? – перавяла размову на іншае кабетка, і адказам ёй быў невыразны хлапечы голас:

– Нясу ўжо!

Набіўшы рот пераспелаю ажынаю, Хведзька вылез з кустоў, трымаючы ў руцэ згублены цёткаю атопак.

– Ну, абувай... ды падымайцеся, а то зямля халодная, Кацю прасцюдзіш, – гарбуха выхапіла з Хведзькавых рук атопак і, звяртаючыся да сына, злавесна выдыхнула: – А ты... будзеш цягацца на гару... Усе вушы паабрываю, а бацька прыедзе, скажу, каб дубцом пачаставаў... – слухаючы матчыны пагрозы, Хведзька натапырыўся, шморгнуў носам, а ўбачыўшы, што дзяўчынка падняла галаў, употай паказаў ёй кулак.

– Цётка Таня, а Хведзька з гары чарапок прынёс. Нямецкі крыж на ім намаляваў і на бярэзіну павесіў,– не засталася ў даўгу дзяўчынка і, зірнуўшы на Хведзьку, абразліва выставіла язык.

– Які такі чарапок? – зніякавела гарбуха, на ўсякі выпадак схапіўшы Хведзьку за вуха.

– Ну, чалавечы. Якія салдаты капаюць.

Рука цёткі Тані слізганула па сынавым плечуку, завісла ў паветры і паволі лягла на грудзіну, на тое месца, дзе ёкнула цётчына трапяткое сэрца.

Чарапок вісеў на суку, утрапёна пазіраючы на свет сваімі пустымі вачніцамі. Маленькі, перапэцканы ў сажу, ён, здавалася, мог належаць дзіцёнку, і толькі

шыхт зубных пратэзаў ды самі зубы – буйныя і пажоўклыя, пераконвалі, што забіты на Каінавай гары быў дарослы.

Пераводзячы дых, жанкі пераглянуліся, паслухалі, ці не чутна дзе тая страшная машына, і адна з іх нерашуча падышла да бярэзіны. Жанчына доўга глядзела на чэрап, не рашаючыся ўзяць у рукі, а калі сяброўка яе аклікнула, тая азірнулася і, абхапіўшы рукамі дрэва, паволі спаўзла на зямлю.

– М-міша! Міша ты мой... Вунь і зубы твае жалезныя, што ў Маскве паставілі, – вусцішна вымавіла жанчына, ударылася галавою аб камель, залямантавала нема і безразважна: – А Міша ж ты мой... А забілі ж яны цябе, родненькага-а...

– Клава, аціхні! Забéруць! – пляснула рукамі гарбуха, – у цябе ж дачушка. Пра яе падумай. Чуеш?! – У гэты момант дзесьці на другім канцы вёскі загула машына, і Клава, гучна шморгнуўшы носам, аціхла.

– Зусім здурнела баба. У Мішы ж два жалезныя зубы былі, а тут чатыры, – прашаптала Клава і нечакана зноў заплакала, заглушыўшы плачам сваім натужлівы гуд машыны пад гарою.

Увечары, пад сховаю густой і імжыстае цемры, жанкі прабраліся на могілкі, выкапалі каля агароджы ямку і апусцілі туды маленькую фанерную скрыню. Прысыпаўшы яму зямлёю, гарбуха ўторкнула ў пяшчысты грудок два перавязаныя лазовыя пруткі і сцішана прамовіла:

– Хай хоць гэтыя косткі на могілках спачынуць.

– Хай спачынуць, – падтакнула ёй Клава і, падымаючыся на ногі, з глыбокім уздыхам прашаптала: – Добра табе... Мужык з арміі вернецца. Зажывеце. А мне як... з дачкой? – сказаўшы гэта, Клава хацела яшчэ раз пачуць, што Міша жывы, што яго бачылі на шахце пад Варкутою, ды нічога такога не пачула. Сяброўка зня-

нацку абмякла, апусцілася на зямлю і, прыкрыўшы твар рукамі, заплакала роспачна і ціха:

– Хведзька, бедненькі , кожны дзень на станцыю бегае. Бацьку пільнуе. А бацька... Тры месяцы вестачкі няма. А пісаў жа – еду, цукар сыну вязу, – і ўжо Клаве давялося супакойваць сяброўку, казаць ёй няшчырыя словы, што муж вернецца, што кот Васька цэлы дзень намываў гасцей, і золкая імжака сеялася навокал, робячы кастрычніцкую цемрадзь яшчэ больш густою і непрагляднаю.

Сагнаўшы з дарогі нейкіх кабет, „Волга" прывітала кароткім гудком паставога міліцыянера і мякка загамавала ля сходаў басейна.

– Сёмая гадзіна, а тарбешнікаў поўны горад, – прамовіў Мікола, з цікаўнасцю зірнуўшы ў задняе шкло. Там, за шклом, у дажджыстым паўзмроку, малады міліцыянер ужо клікаў да сябе двух немаладых, ачмурэлых ад гарадскога тлуму кабет.

– Пераблытала вёска басейн з гастраномам. Зараз ім Федарчук дасць дыхту, – Мікола хіхікнуў, запабежліва крутнуў галавою. – А Іванавіч разаспаўся! Ажнуль рот разявіў.

– Не высыпаецца стары, на раматус пакутуе, – палкоўнік працёр рукою запацелую шыбу. – Як там, Хачык не пад'ехаў?

– Едзе, таварыш палкоўнік. Гэты на бессань не скардзіцца. Каторы раз спазняецца.

Выцягнуўшы ногі, палкоўнік салодка, аж да хрусту ў каленях пацягнуўся.

– Нічога, злазіць на палок, Хачык масаж зробіць– адразу ачуняе. Як ты наконт масажу? Чуеш, бацька?

Цярусіць дождж, шапаціць па даху легкавушкі, мутнымі рагамі збягае па шкле, і свет за вакном паўстае фантастычна-перакручанымі вужакамі віюцца стромкія калоны басейна, цыбатыя ногі масажыста Хачыка, які

падымаецца па сходах, аддзяляюцца ад тулава і бягуць паасобку, галава паставога Федарчука спаўзае з плячэй і расплываецца мутнаю плямай, а далёкія постаці кабет торгаюцца ў дажджавых кроплях, ствараючы ўражанне шалёнага бегу.

Цёткі і папраўдзе беглі што мелі сілы. Наперадзе, цяжка сапучы, бегла старэйшая, увішная гарбуха ў плюшавай кацавейцы. Мацаючы пад кацавейкаю кашэль з грашыма, гарбуха задыхана прамаўляла:

– Добра яшчэ, што міліцыянер добры патрапіўся... штраф не плацілі.

– Рана вылезлі... Трэба было да „Сокала" ехаць, – адзывалася маладзейшая, бегчы якой замінала аграмадная, надзьмутая ветрам торба.

Надрыўная сірэна, што прагучала за спінамі, прымусіла жанок азірнуцца. Драпежна абсеўшы на заднія колы, збіваючы ссохлае лісце з клёнаў і захліпана сігналячы, насустрач ім ляцела тая самая чорная „Волга".

– Ці не за намі? – высокім дыскантам загаласіла гарбуха і, замест таго, каб сысці з дарогі, бязвольна асунулася на асфальт.

Калі машына была ўжо зусім блізка і дробна віхлялася, маракуючы, як аб'ехаць гэтых чортавых жанок, маладзейшая адчайна абхапіла гарбуху і выкуліла на ўзмежак дарогі. „Волга" праляцела міма, паліла жанок вадою з-пад колаў, са страшным скавытаннем выруліла на праспект.

– Чаго ты з дарогі не сыходзіла? – пралепятала маладзейшая, падымаючыся з мокрага асфальту.

– Баюся я гэтых чорных машын, – голас гарбухі быў падазрона меланхалічны. – Чуе маё сэрца... гэта яны майго Пецечку звезлі...

– Што ты такое кажаш? Тады ж і машын такіх не было. – Маладзейшая няўзнак азірнулася. – Уставай, вунь ізноў той міліцыянер ідзе.

– А дастань жа ты мне, Кацечка, хусцінку, твар уцерці, а то ў мяне рукі калоцяцца, – заенчыла старая, спрабуючы падняцца на ногі.

Кацярына выцягнула з цётчынай кішэні насоўку, стрэсла з яе нейкую прыліплую паперку і, правёўшы насоўкаю па цётчыным ілбе, падняла старую на ногі.

– Пайшлі хутчэй, а то сапраўды штраф улепяць,– гукнула Кацярына, і жанкі жвава патрухалі па алеі.

Паперка, што выпала з цётчынай кішэні, паляцела была ім наўздагон, ды неўзабаве захрасла ў лужыне. На паперцы, калі ўважліва прыгледзецца, можна было прачытаць: „Каўбасы пяць кіло. Сасісак колькі зможаш”, і ніжэй, пад тымі няроўнымі радкамі, руплівым дзіцячым почыркам было выведзена: „Мадэль самалёта і кукурузныя палачкі”. Хвіліну паперка бялела на асфальце, а потым знікла з вачэй, уціснутая ў слату падэшваю міліцэйскага бота.

# Ліст з Асвеі

Тры гады таму на вёсцы працавалі электралінейшчыкі – мянялі драўляныя слупы на жалезабетонныя. Вясёлыя былі часіны. Бычкоўцы тры месяцы без электрыкі сядзелі ды дэпутату свайму, генералу Карзо, абураныя лісты пісалі. Але як там ні было, а справу сваю электралінейшчыкі зрабілі. Паставілі новыя слупы, а старыя да Цэрахоўскай сажалкі сцягнулі ды там і пакінулі. Паспрабавалі былі вяскоўцы іх на дровы пусціць, ды ледзь не ўчадзелі потым. Дрэва было нейкай халерай насычанае і дыміла такім едкім дымам, што хоць з хаты бяжы.

Вось гэтыя слупы і прыгледзеў Ваня Бянькоў, вырашыўшы з іх плыт пабудаваць і на тым плыце – у плаванне. Балазе, Цэрахоўская сажалка ўдоўжкі метраў трыста мела – было дзе разгарнуцца – ды і месцілася непадалёку школы.

І вось, папрасіўшы ў суседа тузін цвікоў і двухручную пілу, выправіўся Іван будаваць вадаплаў. Вядома, аднаму з пілой невыкрутка, трэба памагаты, і пакуль ён ішоў да сажалкі, гэтых памагатых набралася чалавек дваццаць. Нават васьмікласнікі са школы прыбеглі, якія ў другую змену займаліся.

Цэлы дзень на беразе Цэрахоўскай сажалкі звінела піла, грукацелі малаткі, галасна крычалі настаўніцы, вучняў у класы заганяючы, а блізу ночы плыт быў гатовы. Падцягнулі яго да вады, адзін край нават у ваду ўпіхнулі, але выпрабаваць на плыву не паспелі. Бацька першакласніка Бадунова прыбег, разагнаў усіх па хатах, а Юрку, сына свайго, папругай хвастануў і паабяцаў плыт спаліць, калі Юрка не паразумнее.

Наступнае раніцы Іван сядзеў на ўроку і з відочнаю трывогаю паглядаў у вакно. Там, за вакном, у ранішнім тумане, што вісеў над сажалкай, завіхаліся двое падшывальцаў. Падшывальцы поўзалі вакол плыта, спрабуючы спіхнуць яго ў ваду, і гэта непакоіла Івана. Хлопец сядзеў як на іголках, а калі ўбачыў, што плыт вось-вось паплыве, схапіўся за жывот і папрасіўся на надворак.

Іван прагнуў першым ступіць на вадаплаў, а таму, адламаўшы ад школьнай агароджы даўжэзную жардзіну, кінуўся да сажалкі, адчуваючы на сваёй спіне зацікаўленыя позіркі аднакласнікаў.

Плыт атрымаўся дыхтоўны – толькі на паўбервяна і занурыўся ў ваду пад Іванавым цяжарам. Іван пахадзіў па плыце, паскакаў дзеля ўпэўненасці і, перавёўшы дых, адштурхнуўся жардзінаю ад берага. Плыт павольна і ўрачыста выплыў на водны прасцяг, і Бычкоўская васьмігодка, уражаная такою праяваю, вітала яго званком і бязладнымі хлапечымі галасамі.

– Ванька, дай мне паплаваць! – гучней ад астатніх крычаў Васька Серада, які бег паперадзе аднакласнікаў, і Іван, уткнуўшы жардзіну ў клейкае дно, без асаблівае ахвоты скіраваў да берага.

Пакуль вырашалі, каму плыць, пакуль зганялі з плыта нахабную Люську Халімонаву, у школе празвінеў званок на ўрок і Іван, з імпэтам, на які толькі быў здольны, налёг на жардзіну. Вадаплаў выплыў на сярэдзіну сажалкі, крутнуўся вакол сваёй восі і, відаць, шчасліва даплыў бы да супрацьлеглага берага, калі б не Юрка Бадуноў. На сярэдзіне вадаёма Юрка падскочыў ад шчасця, наступіў на гостры цвік і, прабіўшы нагу, нема закрычаў. Дарэшты перапужаны Іван выдраў з глею жардзіну, выцяў другім канцом у лоб Ваську Сераду, і Васька, падаючы ў ваду, схапіў Івана за чупрыну...

Глынуўшы вады, Іван усплыў на паверхню і першае, што ўбачыў, гэта русічку Марковіч, якая бегла да вады,

скідваючы на бягу спадніцу. Па-сабачаму перабіраючы рукамі, ён азірнуўся, а згледзеўшы першакласніка Бадунова, які чабохтаўся ў вадзе за метр ад плыта, немым голасам крыкнуў:

– За плыт, за плыт хапайся!

Ён крыкнуў і яшчэ нешта, але Васька Серада, які не ўмеў плаваць і адчайна біў рукамі па вадзе, схапіў Івана за вуха і крык Іванавы патануў у няўцямным булькаценні.

Увечары таго ж дня плыт спалілі. Юрчын бацька, трактарыст Бадуноў, пад'ехаў на трактары, шухнуў на плыт вядро саляры і чыркнуў запалкаю. Прыгожае было відовішча: сінія прыцемкі, цёмная вада і полымя сярод вады шугала. Іван, праўда, усяго гэтага не бачыў – у настаўніцкай да самай ночы прастаяў. Натацыі слухаў, сучкі на падлозе разглядаў ды носам шморгаў. І маці, што за спінаю стаяла, таксама носам шморгала ды час ад часу Івана па патыліцы біла.

– Ну, Юрка Бадуноў першакласнік... а вы з Серадою... трынаццацігадовыя бэйбусы... – упікала Івана русічка Марковіч, штохвілі смаркаючыся ў хустку. – Вы ж маглі патапіцца.

Іван яшчэ ніжэй апускаў голаў, і галава ягоная раз-пораз здрыганалася ад матчыных аплявух.

Нагаманіўшыся ўдосыць, Марковіч змоўкла, ляснула далонёю па класным журнале, і ў размову ўключылася дырэктарка Хлябовіч.

– Ты, Бянькоў, кніжкі чытаеш?

Іван перамаўчаў, пракудліва ўсхліпнуў, а маці, якая стаяла за спінаю, тузанула сына за рукаво:

– Адказвай, калі цябе пытаюць!

– Вы яго і самі чытаць прымушайце, – прамовіла дырэктарка, звяртаючыся да маці, – хай у бібліятэку запішацца... літаратуру пачытае, а то хутка і літары забудзе...

– Ты чуеш? – гукнула маці, – заўтра ж у бібліятэку запішышся! – і Іван, кіўнуўшы галавой на знак згоды,

сцярожка скасіўся на вокны. На вокнах блукалі водбліскі барвовай палымніцы. З хвіліну ён зачаравана глядзеў на рухавую барву, а зразумеўшы, што гэта гарыць на сажалцы ягоны плыт, уздыхнуў і змахнуў са шчакі няпрошаную слязіну.

На другі дзень русічка Марковіч захварэла. Іван вярнуўся са школы раней звычайнага, кінуў у кут партфель, выпіў шклянку малака з булкаю і збіраўся ўжо шмыгнуць на вуліцу, але маці рашуча загадала:

– Ідзі ў бібліятэку!

Ісці, вядома ж, не хацелася. Іван пачухаў патыліцу, паваліўся на канапу, і калі маці, падаіўшы карову, вярнулася ў хату, паведаміў:

– Штосьці ў мяне галава разбалелася.

– Ідзі, я табе сказала! – крыкнула маці, і Іван, падняўшыся на ногі і аблаяўшы ў душы дырэктарку, нацубіў на вочы сваю дарэшты заношаную кепурку.

Бібліятэкаркаю ў Бычках працавала сціплая дзяўчына Люся. Люсю прыслалі з горада: мела яна зграбныя ногі, ладную постаць і таму не дзіва, што ў бібліятэцы ад ранку да вечара таўкліся бычкоўскія кавалеры. Вось і сёння ля бібліятэчнага ганка стаяў мапед кінамеханіка Лябёдкі, і Іван, пасміхнуўшыся з тае нагоды, адчыніў дзверы.

– Адпусці... чуеш? А то лясну! – сустрэў Івана дзявочы голас, і ён міжволі прыслухаўся.

За стэлажамі войкнулі, потым адзін з стэлажоў захітаўся, з яго звалілася кардонная таблічка з надпісам „Квітней, Беларусь!" і, нарэшце, з кніжных нетраў выплыў, паціраючы шчаку, кінамеханік Лябёдка.

– Што, Ваня, раманамі цікавішся? – задаволена рагатнуў Лябёдка, шаргатнуў кірзачамі і, прыпаліўшы папяросу, выйшаў з бібліятэкі.

За стэлажамі плакалі: роспачна, здушана, з усхліпам. Іван пастаяў на парозе, пакашляў у кулак і, не ведаючы, як паводзіць сябе ў такой сітуацыі, нясмела выдыхнуў:

– Кніжкі ўзяць можна?

Плач аціх, бібліятэкарка ўсхліпнула астатні раз і дрогкім голасам запыталася:

– Прозвішча тваё як?

– Бянькоў, – адказаў Іван і, прыслухаўшыся да рокату мапеда знадворку, падняў з-пад ног кардонную таблічку.

Дахаты Іван вяртаўся, трымаючы пад пахаю зачытанага „Рабінзона Круза" і навюткага „Паўку-камуніста", якога яму ўпёрлі ў нагрузку. Заваліўшыся на канапу, Іван прагледзеў малюнкі, пазяхнуў, гартаючы „Паўку-камуніста", хацеў быў кульнуцца на бок, але, прачытаўшы старонку „Рабінзона", так захапіўся, што маці давялося ўставаць сярод ночы, каб выключыць у хаце святло.

Назаўтра была нядзеля. Іван цэлы дзень правёў з кнігаю, а перагарнуўшы апошнюю старонку, доўга ляжаў нерухома, і адна думка не давала яму спакою: як было б добра – збегчы на такі самы востраў, паляваць там на дзікіх звяроў, лавіць рыбу нератам і не бачыць гэтай абрыдлай русічкі Марковіч.

У панядзелак пасля школы Іван выправіўся мяняць кніжкі. Гэтым разам ля бібліятэкі, апрача мапеда, стаяла калгасная малакавозка, а ў самой бібліятэцы ці то біліся, ці то танцавалі, бо шыбы ў будынку дробна дзынкалі, а дашчаныя сцены прыкметна здрыгаліся. Іван патупаў ля парога, разважаючы – ці адчыняць яму дзверы, ці пачакаць, і пакуль ён так разважаў, дзверы расчыніліся самі і з іх выкуліўся кінамеханік Лябёдка. Памацаўшы лабешнік, Лябёдка мацюкнуўся, падбег да мапеда, разагнаў яго па ўтравелай сцяжыне і неўзабаве знік за паваротказ.

У бібліятэцы панаваў вэрхал. Крэслы валяліся дагары нагамі, адзін з стэлажоў стаяў прыхінуты да сцяны, а бібліятэкарка Люся з малакавозчыкам Раднёнкам поўзалі па падлозе, падбіраючы кнігі.

– Што стаіш? Давай дапамагай! – крыкнуў Івану Мішка Раднёнак, і Іван, азірнуўшыся і ўбачыўшы, што мапа Беларускай ССР вісіць на адным цвіку, падышоў і наткнуў ражок на цвік.

– Яшчэ раз сунецца, я гэтаму кіншчыку галаву адарву, – гукаў Раднёнак, поўзаючы вакол Івана.

Каб не замінаць Раднёнку, Іван узлез на крэсла і стаў вывучаць мапу. Палец Іванавы крануўся Віцебска, папоўз у бок Полацка, потым павярнуў на поўнач і, нарэшце, спыніўся на кружляку з кароткім надпісам „Бычкі”. Іван задаволена аддзьмуўся, зірнуў угору ды раптам замёр у нерухомасці, не выпусціўшы ўсяго паветра з лёгкіх. На мапе, у левым яе куце сінела пляма возера, а пасярод гэтай плямы месцілася яшчэ адна, зялёная і круглявая.

– Ты што, Ваня, прусака ўбачыў? – рагатнуў за спінаю Раднёнак, а Іван, кіўнуўшы на зялёную пляму, прашаптаў:

– Ненаселены востраў...

– Вось, Бянькоў... начытаўся „Рабінзонаў” – цяпер і будуць ненаселеныя астравы мроіцца, – пажартавала Люся.

Люся падышла да Івана, і той тыцнуў пальцам у мапу.

– Вунь, на Асвейскім возеры.

– Цяпер ненаселеных астравоў няма. Усе населеныя. У мяне брат на Шпіцберген хадзіў. Казаў – голыя скалы, мароз пад пяцьдзесят і жэрці няма чаго. А жывуць людзі...

– Ці населены, ці не, гэта лёгка спраўдзіць, – прамовіла Люся, узняўшы на Івана свае нафарбаваныя веі. – Трэба ў Асвейскую школу ліста напісаць. Маўляў, так і так... просім паведаміць – што гэта за востраў, хто на ім жыве і як на яго патрапіць... Га, Бянькоў?

Прапанова была цікаваю, але лістоў Іван пісаць не любіў, і гэтая акалічнасць яскрава адбілася на ягоным твары.

– Ну, хочаш, Бянькоў, я сама напішу? – запыталася бібліятэкарка, і Бянькоў, скочыўшы з крэсла, моўчкі кіўнуў.

Востраў на Асвейскім возеры дарэшты паланіў душу і нават сніўся па начах.

Вылучыўшы вольную гадзіну, Іван з'ездзіў у Полацк, набыў там мапу Беларускай ССР і, правёўшы чырвоную рысу між Асвеяй і Бычкамі, павесіў мапу над ложкам. Рыхтуючыся да выправы на востраў, ён стаў збіраць грошы, цягаючы іх з матчыных кішэняў, па вечарах плёў з алюмініевага дроту нерат і за ўсімі гэтымі турботамі зусім забыўся на кнігі, якія прынёс з бібліятэкі.

Кніжкі пыліліся на шафе, і невядома, якім слоем пылу яны б там пакрыліся, калі б маці не паведаміла аднойчы:

– Бібліятэкарка ў горад з'язджае, зайсці прасіла, – і Іван, укруціўшы кніжкі ў газету, доўга стаяў у непаразуменні, маракуючы – ці напісала бібліятэкарка ліста ў Асвею, а прашаптаўшы: – Відаць, не напісала, – выйшаў з хаты.

Быў канец кастрычніка. На суседскім агародзе палілі бульбоўнік, у паветры вісела густая імжа, і таму Іван не адразу разгледзеў – што гэта там стаіць ля бібліятэкі, а калі падышоў бліжэй і ўбачыў матацыкл з люлькаю, супыніўся і пачухаў патыліцу. У Бычках на матацыкле з люлькаю ездзіў толькі ўчастковы Міхноў, але Міхнову было даўно за сорак, і Іван міжволі падзівіўся такому залётніку.

Газета, у якую былі загорнутыя кнігі, канчаткова распаўзлася ад імжакі. Іван закінуў у лужу газетныя абрыўкі, прыхаваў кнігі за пазухай і ўжо збіраўся ступіць на ганак, як раптам дзверы бібліятэкі расчыніліся і перад Іванам паўстаў прысадзісты хлопец з валізаю ўруках.

– Да Светкі заязджаць будзем? – крыкнуў хлопец,

збягаючы па прыступках, і тая, да якой ён звяртаўся, азвалася з бібліятэчных глыбіняў:

– Якая там Светка... Да яе цяпер і на трактары не заедзеш.

Неўзабаве Люся выбегла на ганак, мелькам зірнула на Івана і, счакаўшы хвіліну, навесіла замок на прабой.

– Кніжкі, Бянькоў, можаш сабе пазаставіць. Яны ўжо спісаныя, – прамовіла Люся, уздыхнуўшы на астачу і, прыціснуўшыся лбом да дзвярэй, прашаптала:

– Божухна, няўжо вырвалася?

Праз імгненне яна пабегла аддаваць некаму ключ, а хлопец, паклаўшы ў люльку валізу і накрыўшы яе брызентавай апонай, прыпаліў папяросу.

...Матацыкл ужо праехаў добрую сотню метраў, калі бібліятэкарка, ляпнуўшы хлопца па плячы, прымусіла таго супыніцца і, азірнуўшыся, крыкнула:

– Бянькоў, бяжы сюды... ліст табе аддам, – і Іван, пакінуўшы кніжкі на ганку, подбежкам кінуўся да матацыкла.

Ліст быў з Асвеі, ад дзевяцікласніцы Аляўціны Івановай. З невядомай прычыны дзевяцікласніца размалявала ліст пунсовымі кветачкамі, і Іван, пабачыўшы такое, пагардліва пасміхнуўся.

„Добры дзень, Люся, – пісала Аляўціна раўнюткім почыркам. – Ты пытаешся – ці населены востраў, і я табе адказваю: населены, і я сама на ім жыву. Вёска нашая невялічкая, усяго дзесяць двароў, але ходзяць чуткі, што нас хутка перасяляць у Асвею. Хутчэй бы! А то жыцця не стала праз тых цялятаў. Іх да нас з вясны завозяць, і яны тут да восені пасвяцца..." – не дачытаўшы старонкі, Іван зірнуў на адваротны бок і прачытаў наступнае:

„Люся, напішы мне – ці ёсць у цябе хлопец... У мяне дык няма... Наогул хлопцаў у Асвеі шмат, але яны мне не падабаюцца. Вось і на мінулых танцах да мяне чапляўся Шаблоўскі, але я яго адшыла..."

Гразкая дарога, шэрыя лужы, мокрая варона на

слупе – усё задрыжэла, забрыніла ўваччу і зрабілася яшчэ больш шэрым і брудным. Іван падраў ліст на дробныя кавалкі, шпурнуў тыя кавалкі ў імжыстае неба, і яны снежнаю замеццю закружыліся над галавою.

„Хутчэй бы зіма... – падумаў Іван, у задуменні боўтаючы нагою ў лужыне. – Зімою добра... снег... мароз, можна будзе катацца на лыжах”, – і з гэтаю думкаю ён яшчэ раз азірнуўся і, кінуўшы развітальны пагляд на кніжкі, што ляжалі на бібліятэчным ганку, рушыў дадому.

# Змест



*Литературно-художественное издание*

**Мудров Винцесь (Виктор) Леонидович**

**ЖЕНЩИНЫ ВОЗЛЕ БАССЕЙНА**

**Рассказы**

**Минск, издательство „Мастацкая літаратура"**
**На белорусском языке**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мудроў Вінцэсь (Віктар) Леанідавіч**

**ЖАНЧЫНЫ ЛЯ БАСЕЙНА**

**Апавяданні**

**Рэдактар** *У. А. Арлоў* Мастак *С. В. Чарановіч.* **Мастацкі рэдактар** *А. І. Дрозд.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* **Карэктар** *К. У. Дзмітрыенка.*
ІБ № 3880

Здадзена ў набор 10.07.91. Падп. да друку 20.08.92. Фармат 70x100 1/32. Папера друк.№ 1. Гарнітура Прэс Раман. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,50. Ум. фарб.-адб. 6,83. Ул.-выд. арк. 7,03. Тыраж 2500 экз. Зак. 155. Цана 10 р.

Выдавецтва „Мастацкая літаратура" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня, 225320, Баранавічы, Савецкая, 80.

10 р.



Вінцэсь Мудроў нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку.

Скончыў Наваполацкі політэхнічны інстытут.

Працаваў інжынерам на Беларусі і ў Сібіры.

Апавяданні В. Мудрова друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, у літаратурных альманахах „Тутэйшыя" і „Ксэракс беларускі".